# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ



4-5

№ 4-5 (19) 1927 г. КРАСАВІК






МЕНСК.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



№ 4 (19) Красавік 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927



# Нашы чарговыя задачы.

З надыходам вясны значна ажывілася і краязнаўчая дзейнасьць. Вясна і лета—найбольш зручныя для краязнаўчай працы поры году. Таму нашай краязнаўчай сетцы і трэба скарыстаць гэты час найбольш продукцыйна.

У організацыйных адносінах у першую чаргу трэба скончыць перавод дзейнасьці організацый па новых статутах, зарэгістраваўшы іх у раённым ці акруговым выканаўчым камітэце або ў школьным савеце, калі аб'яднаньне знаходзіцца ў навучальнай установе, каб пераход на новы статут ня быў формальным, а даў сталыя вынікі, прыдзецца дакладна пазнаёміць з ім усіх членаў данай організацыі на агульным або сэкцыйных сходах.

Адсюль—вельмі пажадана, каб організацыі рэорганізавалі сэкцыйную працу па сэкцыях адпавядаючых статуту: культурна-гістарычнай, грамадзка-экономічнай, прыродна-географічнай і яўрэйскай, польскай і да т. п. Там, дзе гэта ўжо зроблена, прыдзецца асаблівую ўвагу зьвярнуць на працу сэкцый нацменшасьцяй і на ўсталяваньне бесьперарыўнасьці, сыстэматычнасьці ў працы сэкцый наогул. Перабоі ў нагляданьнях і інш. галінах працы, адзначаныя зьездам, павінны быць у гэтым сэзоне зьнішчаны.

Узаемасувязь і кіраўніцтва працаю первястковых організацый таксама павінна значна палепшыцца. Палепшаньне гэтае мае выявіцца ў дапамозе плянаваньню і конкрэтных мэтодычных радах па пэўных пунктах пляну.

Асаблівую ўвагу ў організацыйным кірунку прыдзецца зьвярнуць на краязнаўчую падарожніцкую справу і наогул падарожы ў сваім краі. Плянавыя экспэдыцыі, экскурсіі, вандраваньні і падарожы павінны даваць больш вынікаў, чым гэта было ў мінулыя гады. Разам з тым экскурсіі і да т. п. Якія наладжваюцца іншымі організацыямі і ўстановамі таксама павінны набыць краязнаўчы характар пры дапамозе краязнаўчых організацый.

Апошняе дапаможа і популярызацыйнай працы організацый, на якую згодна пастановы II Зьезду неабходна зьвярнуць значную ўвагу.

У галіне навуковай працы галоўным чарговым заданьнем зьяўляецца сканчэньне асноўнай працы па падліку краязнаўчых сіл і ўстаноў а таксама і організацый свае мясцовасьці, а таксама літаратуры па сваім краі і об'ектаў дасьледваньня. Калі асноўная праца ў гэтым кірунку будзе скончана, прыдзецца заснаваць плянавасьць у працы па бягучым падліку вышэйпамянёных даных. Такая, напр., праца як бібліографаваньне патрабуе бязупыннасьці ня менш чым, напр., фэнолёгічныя нагляданьні. Амаль уся праца ўсіх сэкцый павінна быць сконцэнтравана на зборы матар'ялаў для апрацоўкі яго зімой. Прыдзецца скончыць збор матар'ялаў краёвых слоўнікаў, гэрбарызаваць мясцовую флёру, абсьледваць летнія кірмашы і г. д. Нават археолёгічная праца павінна экспэдыцыйным шляхам зьбіраць матар'ялы, а музэі і архівы пакінуць на зіму.

У часе працы і адначасна з ёю наогул прыдзецца весьці мэтодолёгічную падрыхтоўку членаў організацыі. II Зьезд высьветліў слабую падрыхтаванасьць большасьці членаў сеткі для зьбіральніцкай працы. А дасьледчая праца яшчэ больш складаная і патрабуе глыбейшай падрыхтоўкі і галоўным чынам практыкі.

Веснавая праца насельнасьці дасьць апошняй шмат магчымасьцяй збору і перадачы краязнаўчым організацыям пэўных матар'ялаў. Нізавым організацыям трэба гэта ўлічыць і скарыстаць для ўцягненьня сялян у краязнаўчыя організацыі. Рабочых-жа можна будзе зацікаўліваць у часе экскурсій.

Пры падтрыманьні ўзаемасувязі і ўзаемаінформацый ажыцьцяўленьне паказанага зусім мажліва, пасьля якога паўстануць новыя заданьні.

*Ц. Б. К.*



Р. Рак.

# Рамесьнік м. Менску да рэволюцыі 1917 г.

*(1866—1916 г.).*

## I.

### Структура цэхаў у XIX сталецьці.

Рамесьнікі м. Менску, як і наогул па ўсёй Беларусі, былі аб'яднаны па цэхах. У 1866 годзе іх у Менску лічылася 2.048[1]). З гэтага ліку было майстроў 1.137, падмайстраў 530 і вучняў 381. Побач з цэхавымі рамесьнікамі існавала ў 1866 годзе 180 не цэхавых. У склад цэхаў уваходзілі майстры, падмайстры і вучні. У разьвязваньні-ж цэхавых пытаньняў прымалі ўдзел толькі майстры. Падмайстры і вучні ў гэтым сэнсе ніякіх праў ня мелі. Каб зрабіцца майстрам патрэбна было прабыць ня менш трох год вучнем, потым прыблізна столькі-ж падмайстрам. Пасьля ўсяго гэтага падмайстра павінен быў выканаць пробную працу. Экспэртная камісія, якая складалася з ліку старых майстроў цэху рабіла экспэртызу і калі лічыла працу зусім здавальняючай, дык падмайстра, па ўзносе трох рублёў у цэхавую касу атрымліваў пасьведчаньне на годнасьць майстра таго ці іншага рамяства[2]).

Такім чынам, цэхі XIX сталецьця структурай былі падобны да старых цэхаў, напрыклад, XVI-XVII сталецьця. Характар-жа і кола іх дзейнасьці значна зьмяніліся.

У XIX сталецьці ў абавязкі цэхаў уваходзіла рэгістрацыя сваіх сяброў; учыненьне экспэртызы пры пераходзе з падмайстра ў лік майстроў; разбор некаторых конфліктаў паміж працадацелем і цэхавымі майстрамі, а таксама раскладка і збор падаткаў.

Цэхі кіраваліся ў XIX сталецьці цэхавымі старшынямі, якія абіраліся на агульных сходах майстроў цэху. Кіраўніком над усімі цэхамі была цэхавая ўправа. Старшыня і сябры ўправы абіраліся на агульных сходах цэхавых старастаў.

Такая організацыя цэхаў існавала да 90-х гадоў мінулага сталецьця.

У 90-х гадох цэхавая ўправа была заменена ўпрошчанай управай.

Цэхі, як самастойныя адзінкі, з уласным пісьмаводзтвам цяпер перасталі існаваць. Пісьмаводства па ўсіх цэхах было аб'яднана ў упрошчанай управе. Цэхавыя справы пачалі разьвязвацца не на сходзе цэхаў, а ў управе.

---

[1]) Труды Минского статистического комитета за 1870 г. стар. 368.

[2]) Архіў рамесьніцкае ўправы за 1864—6 г. кніга протоколаў па розных цэхах.

Інстытут цэхавых старастаў быў зьнішчаны і заменены інстытутам упаўнаважаных—дзесяцкіх. Кожны дзесятак майстроў пасылаў свайго ўпаўнаважанага.

Правы ўпрошчаных упраў з кожным годам усё памяншаліся, а ў 1901 годзе ўправы прымушаны былі і зусім зьнікнуць [1]). У замену ўпрошчанай управы быў адчынены стол пры гарадзкой управе, які вёў толькі лік рамесьнікаў і ніякіх праў ня меў.

Такім чынам быў зьнішчаны цэхавы лад рамесьнікаў у Менску і ўва ўсёй Беларусі, між тым як за так званай „чертой оседлости“ яно існавала аж да самай рэволюцыі.

Гэта тлумачыцца тым, што ў Менску як і ўва ўсім так званым „Заходнім краі“ рамесьнікі галоўным чынам папаўняліся яўрэйскаю беднатою, для якой пераезд на жыцьцё за мяжу аседласьці быў забаронены. Цэхавае-ж пасьведчаньне якраз і давала правы на жыцьцё ўва ўсіх мясцох быўшай Расійскай імпэрыі, і для яўрэяў—цэхавых рамесьнікаў мяжа аседласьці фактычна не існавала. Гэта было не па нутры царскаму ўраду.

Каб стварыць мяжу аседласьці абсолютна для ўсіх яўрэяў, царскі ўрад і пачаў паступова нішчыць цэхавы лад рамесьнікаў. Сваёй мэты ён дабіўся ў 1901 годзе.

## II.

## Лік цэхавых рамесьнікаў.

Лік цэхавых рамесьнікаў за апошнія 60 год паступова стаў зьмяншацца. Але на агульны лік рамесьнікаў зьнішчэньне цэхавага ладу не зрабіла ніякага ўплыву.

Поўны малюнак як росту, так і зьніжэньня гэтага росту рамесьнікаў па м. Менску ў апошнія 60 год можна бачыць з наступнае табліцы № 1.

| ГАДЫ | Агульны лік насельніцтва | Лік рамесьнікаў | % рамесьн. да агульн. ліку насельніцтва | Табліца № 1 складзена на падставе крыніц |
|---|---|---|---|---|
| 1866 | 31.261 | 2.048 | 6,5 | 1—Памятныя кніжкі за пэрыод 1866 г. па 1916 год і 2—кніжка „Труды Минского статистического комитета за 1870 г.“. |
| 1880 | 61.320 | 5.086 | 8,2 | |
| 1885 | 66.873 | 4.874 | 7,2 | |
| 1890 | 71.753 | 4.540 | 6,3 | |
| 1895 | 91.286 | 4.364 | 4,7 | |
| 1900 | 94.519 | 5.985 | 6,3 | |
| 1905 | 103.649 | 6.635 | 6,4 | |
| 1910 | 108.926 | 6.492 | 5,9 | |
| 1915 | 110.513 | 4.127 | 3,8 | |
| 1917 | 174.012 [2]) | 3.920 | 2,2 | Веды ЦСУБ. |
| 1922 | 102.375 | 460 | 0,4 | „ ВСНГБ. |
| 1923 | 110.926 | 1.874 | 0,7 | „ ЦСУБ. |
| 1925 | 114.742 | 2.507 | 2,1 | „ ЦСУБ і АКФА |

[1]) Паказаньні старых жыхароў Менску, у прыватнасьці быўшага сакратара ўпрошчанай управы.

[2]) У лік агульнай колькасьці насельніцтва ўваходзяць і вайсковыя. У 1925 годзе падлічана насельніцтва ў старых межах гораду.

Адсюль відаць наступнае:

1) Павялічэньне ліку рамесьнікаў за пэрыод з 1866 г. па 1880 г. з 2-х да 5 тысяч зьявілася вынікам агульнага павышэньня дабрабыту насельніцтва. У выніку польскага паўстаньня 1863 году сялянства Беларусі атрымала надзелы зямлі вышэй сярэдніх расійскіх. Палажыўшы ўсю сваю працу ў зямлю, яно значна падняло свой дабрабыт. Слабое-ж разьвіцьцё ў той час прамысловасьці не магло здаволіць патрэб сялянства. Вытворчасьць рамесьнікаў знаходзіла скоры і лёгкі збыт. Усё гэта якраз і дапамагала лікаваму павялічэньню рамесьнікаў.

2) Прамысловы і гандлёвы застой, які пачаўшыся к канцу 80-х і пачатку 90-х гадоў, ня мог не адбіцца і на рамесьніках. Лік іх з 5 тысяч памяншаецца да 4-х. Становішча рамесьнікаў горшылася. Вытворчасьць не знаходзіла збыту. Знаходзячыся ў дрэнных умовах, яны павінны былі шукаць якое-небудзь выйсьце. Выйсьцем кепскага становішча зьявілася эміграцыя. Да гэтага часу значная частка рамесьнікаў павінна была пакінуць наседжаныя месцы і шукаць лепшага лёсу на чужыне—галоўным чынам у Амэрыцы і іншых краінах.

3) Экономічны пад'ём і добрая коньюнктура рынку канца 90-х гадоў палепшылі становішча рамесьнікаў. Іх лік паступова з 1900 году стаў павялічвацца аж да 1905 году.

Застой-жа пасьля рэволюцыі 1905 г. і дзікая рэакцыя зноў высунулі на першы плян пытаньне аб эміграцыі. Лік рамесьнікаў пайшоў на зьніжэньне. Эміграцыя ў той час зьяўлялася паратункам ад страшэннай беднасьці і выміраньня рамесьнікаў. Як толькі жыцьцё іх станавілася несьцярпімым—зараз-жа пачынала пашырацца эміграцыя і наадварот, з паляпшэньнем становішча эміграцыя прыпынялася і лік рамесьнікаў павялічваўся.

Старыя рамесьнікі Менску поўнасьцю сьцьвярджаюць гэтыя факты.

Наступіўшая з 1914 году вайна, а з ёю і цэлы шэраг мобілізацый, зьменшылі чуць не напалову лік рамесьнікаў. Лік іх потым яшчэ шпарчэй пайшоў на зьніжэньне, калі ў выніку вайны 1914 году пачала пашырацца спэкуляцыя. Значная частка рамесьнікаў кінула сваю пастаянную працу і поўнасьцю аддалася спэкуляцыі. Лёгкая нажыва была больш прыемнай, чым упартая і цяжкая праца.

Гады грамадзянскай вайны і вайсковага комунізму канчаткова выбілі з каляіны рамесьнікаў. Вялікі лік іх перайшоў на жыцьцё ў вёску, другая частка прымасьцілася ў дзяржаўных і грамадзянскіх установах і толькі нязначны лік іх застаўся на месцы і цалком вёў працу ў сваіх майстэрнях.

Новая экономічная політыка дала магчымасьць адкрыта заняцца сваёю вытворчасьцю. Рамесьнікі, якія разыходзіліся раней у розныя месцы, пачалі зьбірацца ў Менск. Паводле вестак БСНГ., у 1922 г. іх лічылася ў Менску каля 460 асоб, а ў 1923 годзе іх было ўжо 1.874, у першай палове 1925 году—2.507.

Побач з штогоднымі зьменамі то ў адзін, то ў другі бок ліку рамесьнікаў прыходзіцца яшчэ заўважыць і агульнае зьмяншэньне іх ліку за апошнія 60 год у параўнаньні з агульным лікам насельніцтва. Узрост рамесьнікаў не адпавядае агульнаму ўзросту насельніцтва Менску, а з году ў год адстае з 8% 1880 году да 2% 1925.

Гэта адставаньне тлумачыцца шмат якімі прычынамі. Адставаньне росту рамесьнікаў часткова зьяўляецца вынікам таго, што больш багатыя рамесьнікі, дзякуючы спрыяючым умовам станавіліся буйнымі капіталістымі—прадпрыемцамі. Другою прычынаю памяншэньня агуль-

нага ліку было разьвіцьцё беларускае прамысловасьці. З кожным годам прамысловасьць узмацнялася, пашыралася, запаўняла рынак таннымі таварамі і такім чынам выбівала рамесьнікаў некаторых вырабаў з каляіны. З-за нявыгоднасьці хатняй працы рамесьнікі прымушаны былі кідаць свае майстэрні і шукаць працы на фабрыках. Самай-жа галоўнай прычынай была пастаянная эміграцыя. Эмігравалі асабліва ў Амэрыку выключна рамесьнікі, бо там была патрэба на больш-менш кваліфікаваных працаўнікоў.

III.

## Склад цэхаў.

Побач з агульнымі лічбамі ліку рамесьнікаў трэба спыніцца і на тых зьменах, якія зьяўляліся з году ў год у тых адзінках—цэхах, з якіх складаліся гэтыя лічбы і на самым складзе цэхаў. Аб лікавым складзе цэхаў досыць яскравы малюнак дае наступная табліца № 2 (гл. стар. 9).

З прыведзенай табліцы відаць, што ў Менску ў апошнія гады XIX і пачатку XX сталецьця існавала каля 40 цэхаў.

Лік цэхаў, наогул, не заўсягды быў аднолькавы—у адны гады іх было больш, а ў іншыя—менш.

Апошняе тлумачыцца наступным:

1) У некаторых цэхах з працягам часу, частка сяброў пачынала спэцыялізавацца ў аднэй якой-небудзь галіне працы. У выніку спэцыялізацыі гэтая частка больш шчыльней аб'ядналася і нарэшце выдзялялася ў самастойны цэх. Напрыклад, з цэху шаўцоў выдзяліўся новы цэх башмачнікаў; краўцы падзяліліся на дзьве самастойныя адзінкі—цэх краўцоў мужчынскіх вопратак і цэх краўцоў жаночых вопратак (пры падлічэньнях статыстычны камітэт заўсягды абодвы цэхі яднаў); з цэху модыстак выдзяліліся белашвэйкі і ўтварылі самастойны цэх і г. д.

2) Бывалі выпадкі, калі два цэхі, пад уплывам экономічных умоў, ядналіся ў адзін, як напрыклад, фарбавальшчыкі і шмуклеры (шапачнікі) утварылі шмуклерна-фарбавальны цэх; рымары і рымары-карэтнікі—цэх рымароў; маляры і маляры-карэтнікі—цэх маляроў і г. д.

3) Лёгкасьць утварэньня цэхаў у XIX сталецьці, асабліва ў другой палове яго, таксама трэба лічыць досыць важнай прычынай зьмены ліку цэхаў. У гэты пэрыод як організацыя, так і зьнішчэньне цэху не абстаўлялася ніякімі формальнасьцямі. Прыяжджалі ў горад спэцыялістыя—майстры якога-небудзь рамяства, рэгістраваліся ў управе і, такім чынам, давалі пачатак новаму цэху, а калі здаралася, што ад'яжджалі ўсе, дык сам сабою зьнікаў і цэх.

Зусім другое заўважвалася ў пэрыод узьнікненьня цэхавых організацый. У той час, каб утварыць цэх мала было па ліку рамесьнікаў: неабходна было атрымаць дазвол ад магістрата городу і затым прывілеі ад караля на права організацыі цэху, паводле асобнага статуту. Толькі пасьля выкананьня шэрагу формальнасьцяй пачынаў існаваць цэх, як юрыдычная адзінка. (Клименко „Зап.-русские цехи". Киев, 1915 г.).

Лікавы склад кожнага цэху не дае чаго-небудзь аднолькавага. Такія цэхі, як кравецкі і шавецкі, аб'ядноўваюць да 700—800 асоб кожны, ў той час як багетны—3 асобы, а кушнерны і канавальскі—12 асоб. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што ў Менску кравецкае і шавецкае рамёствы былі найбольш пашыраны і ў сваім разьвіцьці кіраваліся нейкімі асобнымі, яшчэ мала высьветленымі ўмовамі. Трэба адзначыць

| № чарговы | НАЗВА ЦЭХУ | Лік асоб па цэху ў 1859 г.[1] | Лік асоб па цэху ў 1866 г.[2] | Лік асоб па цэху ў 1886 г.[3] | Лік асоб па цэху ў 1904 г.[4] |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Цэх хлебнікаў . . . . | 128 | 83 | 177 | 339 |
| 2 | „ булачнікаў . . . | 2 | 12 | 219 | 197 |
| 3 | „ мясьнікоў. . . . | 49 | 107 | 271 | 264 |
| 4 | „ кондытараў . . . | 17 | 10 | 34 | 37 |
| 5 | „ краўцоў . . . . | 436 | 522 | 707 | 789 |
| 6 | „ шаўцоў . . . . | 254 | 221 | 897 | 697 |
| 7 | „ модыстак . . . . | 46 | 30 | 100 | 205 |
| 8 | „ шапачнікаў . . . | 118 | 133 | 142 | 180 |
| 9 | „ ткачоў . . . . | — | 4 | — | — |
| 10 | „ пальчатачн. . . . | — | 12 | 34 | 65 |
| 11 | „ муляраў . . . . | 55 | 139 | 193 | 350 |
| 12 | „ камінараў. . . . | 17 | 25 | 92 | 100 |
| 13 | „ стальмахаў . . . | 77 | 113 | 435 | 379 |
| 14 | „ будаўнікоў . . . | 65 | 71 | 302 | 259 |
| 15 | „ бандароў . . . . | 12 | 21 | 147 | 109 |
| 16 | „ сьлесароў. . . . | 6 | 17 | 148 | 250 |
| 17 | „ кавалёў . . . . | 14 | 48 | 94 | 265 |
| 18 | „ меднікаў . . . . | 40 | 28 | 51 | 65 |
| 19 | „ бляхараў . . . . | — | 7 | 128 | 154 |
| 20 | „ ружэйнікаў . . . | — | 2 | 12 | 20 |
| 21 | „ маляроў . . . . | 20 | 32 | 30 | 144 |
| 22 | „ шкляроў . . . . | 48 | 32 | 48 | 78 |
| 23 | „ ювэліраў . . . . | 24 | 27 | 26 | — |
| 24 | „ майстроў гадзіньнікаў . | 28 | 33 | 91 | 111 |
| 25 | „ рымароў . . . . | 18 | 19 | 60 | 165 |
| 26 | „ рэзчыкаў . . . . | — | 6 | 14 | 62 |
| 27 | „ карэтнікаў . . . | 18 | 8 | 28 | 54 |
| 28 | „ літографаў . . . | — | 2 | 37 | 60 |
| 29 | „ фотографаў . . . | — | 11 | 14 | 91 |
| 30 | „ вазюроў . . . . | 68 | 97 | 352 | 749 |
| 31 | „ канавалаў. . . . | 5 | 9 | 10 | 12 |
| 32 | „ башмачнікаў . . . | — | — | 32 | 30 |
| 33 | „ цырульнікаў . . . | 80 | 77 | 51 | — |
| 34 | „ парыкмахэраў . . . | 25 | 23 | 30 | 45 |
| 35 | „ сіта-рашотнікаў . . | 10 | 7 | 3 | — |
| 36 | „ кушнерны . . . . | 43 | 24 | 25 | 12 |
| 37 | „ кухарны . . . . | 18 | 27 | 25 | — |
| 38 | „ патачны . . . . | 9 | 11 | 4 | — |
| 39 | „ канатны . . . . | — | 35 | 33 | 29 |
| 40 | „ люстэрачны . . . | — | 4 | 3 | — |
| 41 | „ багетны . . . . | — | 1 | 2 | 3 |
| | Ня цэхавыя рамесьн. . . | 125 | 180 | — | — |
| | Разам . | 1.875 | 2.228 | 5.101 | 6.426 |

[1]) Цэнтрархіў. Справа № 45.622 за 1859 г. [2]) Труды Минского Статистического Комитета за 1870 г. [3]) Цэнтрархіў. Справа № 45.642. [4]) Цэнтрархіў. Справа № 45.711.

усё-ж шпаркі рост цэхаў, якія адпавядалі запатрабаваньням буйнога ўзросту гораду. У гэтых адносінах асабліва характэрна буйное пашырэньне цэхаў, зьвязаных з адбудаваньнем гораду, як, напрыклад: муляроў, стальмахоў, будаўнікоў і інш.

## IV.

## Экономічнае становішча падмайстраў і вучняў.

Экономічная моц рамесьнікаў у розныя часы гэтага пэрыоду была неаднолькавай. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў палажэньні майстроў—гаспадароў майстэрань, з аднаго боку, а з другога—падмайстраў і вучняў, была надта вялікая розьніца.

Падмайстры і вучні аж да нашых дзён, да моманту ўзяцьця ўлады ў свае рукі працоўнай клясай, знаходзіліся ў страшэнна дрэнных умовах, у ўмовах бязьлітаснай экспдёатацыі. Цэлы шэраг законаў існаваў дзеля таго, каб трымаць іх у цемры і ня даць аб'яднацца дзеля барацьбы за паляпшэньне свайго дабрабыту. Праца праходзіла ў дрэнных умовах. Працоўны дзень цягнуўся аж да 14—16 гадзін, а часта здаралася і да 18 [1]). За ўсю цяжкую і доўгую працу яны атрымлівалі толькі біцьцё ад гаспадароў і столькі грошай, каб не памерці з голаду [2]).

Калі-ж здаралася, што гэтыя нявольнікі заяўлялі аб тым, што і яны людзі, што і яны маюць такія-ж правы на сваю працу і месца ў жыцьці, як і іх уладары, то супроць іх падымаўся страшэнны гвалт: іх абзывалі бунтаўшчыкамі, а справу, за якую яны змагаліся,—бунтам, здрадаю і інш.

У гэтым сэнсе адбыўся характэрны, паводле тэрмінолёгіі майстроў „загавор" падмайстраў і вучняў сьлясарнага і кавальскага цэхаў. У 1887 годзе падмайстры і вучні гэтых цэхаў надумалі дабіцца паляпшэньня ўмоў свайго жыцьця і працы. З гэтай мэтай яны абвясьцілі стачку [3]) і высунулі запатрабаваньне, якое складалася толькі з двух пунктаў: 1) „Праца павінна цягнуцца з 6-ці гадзін раніцы да 6-ці гадзін вечару, а не да 8-мі гадзін і 2) як падмайстры, так і вучні павінны атрымліваць аднальковы заработак".

Гэтыя жаданьні падмайстраў і вучняў сустрэчаны былі майстрамі кпінкамі і даносамі ў паліцыю. Стачачнікі, з свайго боку, вялі барацьбу за здавальненьне сваіх запатрабаваньняў. Была з'арганізавана дэмонстрацыя. Апошняя, аднак, не дала належных вынікаў, і майстры пачалі імкнуцца, каб узяць іх голадам, прымусіць працаваць на ўмовах, якія існавалі да стачкі. Падмайстры пачалі шукаць новых шляхоў, як разьвязаць конфлікт. З гэтай мэтай падмайстры і вучні пачалі організоўваць свае ўласныя майстэрні, дзе праца вялася колектыўна, а прыбытак дзяліўся пароўну.

Апошнія мерапрыемствы ўзбурылі ўсіх. Калі да гэтага моманту на стачачнікаў сыпаліся кпінкі і пагрозы, пасьля організацыі майстэрань паднялася бура. Уся паліцыя пастаўлена была на ногі. Большая частка падмайстраў была заарыштавана. Узьнікла вялікая справа на 85 аркушах. Да сьледзтва было прыцягнута 34 сьведкі.

У выніку ўсяго гэтага падмайстры і вучні аддадзены былі зноў

[1]) Глядзі матар'ялы стачкі падмайстраў сьлясарна-кавальскага цэху за 1887 г.

[2]) Дагаворы майстраў з падмайстрамі і вучнямі—глядзі архіў рамесьніцкай управы за 1866—70 год.

[3]) Кіраўніком стачкі былі Айзік Румероўскі і Вульф Сьляпян.

на поўную волю майстроў, організацыя падмайстраў і вучняў зруйнована, а кіраўнікі стачкі пакараны.

На падставе сказанага лічым экономічны стан гэтых дзьвёх катэгорый зусім ясным.

У далейшым мы супынімся на вывучэньні гаспадароў майстэрань—цэхавых майстроў.

V.

## Экономічная моц рамесьнікаў у пэрыод 70-х гадоў.

У 1866 годзе Менскі губ. статыстычны камітэт вылічваў сярэдні прыбытак рамесьнікаў у 300 руб. [1]).

З падрахункамі статыстычнага камітэту прыходзіцца згадзіцца, але заробак 300 руб. трэба лічыць мінімальным, выходзячы з наступных меркаваньняў.

1) Попыт на вытворчасьць рамесьнікаў у гэты час быў надта значны, як сьведчаць матар'ялы статкамітэту за 1866 г., і ўвесь час далей пашыраўся. Вытворчасьць рамесьнікаў скора і лёгка расходзілася поўнасьцю.

2) Працоўныя рукі падмайстраў, а асабліва вучняў, цаніліся надта танна. На падставе ўмоў, якія зарэгістраваны ў быўшай Менскай рамесьніцкай управе, вось які выгляд мае аплата працы вучняў і падмайстраў у 1886 г. [2]).

*Табліца № 3.*

| № чарговы | Назва цэхаў | Аплата вучняў | | | | Аплата падмайстра за год | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 год | 2 год | 3 год | 4 год | | |
| 1 | Пераплётны . . . | 0 | 5 р. | 10 р. | 25 р. | 40 р. | Плата ўсіх груп паказана за год |
| 2 | Шавецкі . . . . | 0 | 5 р | 15 р. | 30 р. | 55 р. | |
| 3 | Кавальскі . . . | 0 | 15 р. | 20 р. | 25 р. | 40 р. | |
| 4 | Кравецкі . . . . | 10 р. | 15 р. | 35 р. | — | 50 р. | |
| 5 | Стальмахаўскі . . | 5 р. | 8 р. | 12 р. | — | 30 р. | |

Такі разьмер заробку па ўсіх цэхах. Толькі цэх хлебнікаў і кандытараў зьяўляюцца выключэньнем. Аплата працы ў гэтых двух цэхах была вышэйшай процантаў на 50, у параўнаньні з сярэдняй аплатай іншых цэхаў.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што кожны падмайстар атрымліваў вялікую нагрузку [3]). Калі тыднёвы выраб яго быў менш абгаворанай у ўмове нагрузкі, то з яго пэнсіі рабілася вылічэньне, і толькі ў некаторых выпадках, пры перавышэньні нормы вырабу, падмайстар атрымліваў зарплату дадаткова.

3) Падаткі былі нязначныя. Яны абмяжоўваліся цэхавымі выдаткамі, сродкі на ўтрыманьне рамесьніцкай управы ў некаторых выпад-

[1]) Труды Минского статистического комитета за 1870 г. стр. 367.
[2]) Архіў рамесьніцкай управы м. Менску за 1866 г. Зьвязка № 5.
[3]) Тыднёвая нагрузка падмайстра шавецкага цэху была 8 пар чаравік. Архіў рамесьніцкай управы, зьвязка № 5.

ках,—сьвячным зборам. Першыя ўносіліся пры атрыманьні пасьведчаньня на годнасьць майстра (3 рублі), а таксама пры атрыманьні пасьведчаньня на годнасьць падмайстра (1 р. 50 коп.) [1]). Сьвячны збор залежаў ад дабрабыту рамесьніка, плацілі толькі яўрэі. Выдаткі на ўтрыманьне рамесьніцкай управы плацілі кожны год паводле раскладкі (ад некалькіх капеек да 3-х руб.) у залежнасьці таксама ад дабрабыту.

4) Кватэрная плата была нізкая. У 1870 г., напрыклад, кватэра з двух чыстых пакояў, шавецкай майстэрні, кухні і сенцаў у асяродку гораду па Савецкай (Захараўскай) каштавала 60 руб. на год., а на Юр'ева-Завальнай з двух пакояў, бандарнай майстэрні, кухні і сенцаў [2])—17 руб.

Прымаючы пад увагу ўсё вышэйадзначанае, прыходзілі да вываду, што дабрабыт рамесьнікаў—іх экономічная моц к 1870—г. была досыць добрая. Танная аплата працы, вялікая тыднёвая выпрацоўка падмайстраў і вучняў, скорая і лёгкая продаж усёй вытворчасьці, з аднаго боку, а з другога—пастаянны прыток новых заказаў і амаль што поўная адсутнасьць падаткаў давалі мажлівасьць гаспадаром-рамесьнікам п'янстваваць і бязьлітасна эксплёатаваць сваіх падняволь-ных або зьбіраць грошы, каб праз нейкі час падняцца вышэй сваіх сяброў і стаць звычайным капіталістым, у той час як амаль што ўся маса падмайстраў і вучняў бадай што галадала [3]).

## VI.

## Экономічнае становішча рамесьнікаў у пэрыод 80—90 гадоў.

Такое выгоднае становішча рамесьнікаў-майстроў існавала да 80-х гадоў. З 80-х гадоў рынак пачынае запаўняцца фабрыкатамі, якія сваёй таннасьцю паступова адкідваюць вытворчасьць рамесьнікаў. Апошнія пачынаюць беднець. З кожным годам іх становішча робіцца больш горшым. Надасьпеўшы к канцу 80-х і пачатку 90-х гадоў гандлёвы застой у зьвязку з крызісам яшчэ больш пагоршыў іх стан. Плата за кватэру к гэтаму часу таксама ўзрасла процантаў на 60, асабліва ў асяродку гораду Менску [4]).

| Год | Асяродак места — Назва вуліцы | Сярэдняя плата — За 1 квад. саж. у мес. | Акрайна — Назва вуліцы | Сярэдняя плата за 1 квад. саж. у месяц. |
|---|---|---|---|---|
| 1870 | Савецкая, 2-х пав. д. | 70 к. | Завальная | 20 к. |
| 1870 | Пляц волі, 2-х пав. д. | 1 р. | Лекерта | 15 к. |
| 1880 | рог Комсам. і Рэволюц. | 1 р. 60 к. | В. Татарская | 25 к. |
| 1890 | Кацярынінская | 1 р. 60 к. | Беларуская | 20 к.—25 к. |
| 1900 | Савецкая | 2 р. | Шырокая | 35 к. |
| 1910 | Асяродак—5 руб. | 1 пояс— | 1 руб. і 2 пояс | 40 к. |

Толькі падаткі амаль што не зьмяніліся. Рамесьнік з адным падмайстрам або вучнем, апроч цэхавых узносаў на ўтрыманьне рамесь-

[1]) Архіў рамесьніцкай управы, зьвязка 1, 2, 3, 4, 5.
[2]) Архіў сіроцкага суду за 1870 г.
[3]) Зеленский. Материалы для географии и статистики Минской губ., часть I, глава II.
[4]) Архіў сіроцкага суду за 1870 г.—1910 г.

ніцкай управы, рэкруцкіх і іншых, якія складалі разам ня больш 2-3 рублёў у год, нікуды і нічога не плаціў.

Другая катэгорыя рамесьнікаў, з лікам падмайстраў і вучняў ад 2 да 4, ужо павінна была, апроч таго, што плаціла першая група, выбіраць гадавы патэнт за 4 руб., а з лікам нанятых ад 4 да 9,—за 8 руб. і г. д. Такім чынам, падатак 1-ай катэгорыі складаў каля 3 руб., 2-й катэгорыі—7 руб. і 3-й катэгорыі—13 руб.

Падатак у гэтую пару, як відаць, займаў малую частку ў расходным бюджэце рамесьніка і, наогул кажучы, рабіў малы ўплыў на яго экономічнае становішча, але апошняе ўсё-ж к 1895 году стала асабліва дрэнным.

Гэта думка досыць яскрава падкрэсьліваецца тым, што кошт усёй рамесьніцкай продукцыі 90-х гадоў значна панізіўся ў параўнаньні з другой паловай 60-х гадоў і першай паловай 70-х гадоў. У 1866-7 годзе валавая продукцыя рамесьнікаў за год ацэньвалася ў 576.000 рублёў [1]). На аднаго рамесьніка, такім чынам, прыходзілася ў сярэднім на 250 рублёў продукцыі.

Зусім другі малюнак выяўляецца пры падлічэньні кошту продукцыі за 1889 год. Продукцыя гэтага году ацэньвалася ў 450.000 руб. [2]) і на долю аднаго рамесьніка прыходзілася толькі на 100 руб. продукцыі.

## VII.

## Экономічнае становішча рамесьнікаў у 1900 гады.

Пэрыод 1900-х гадоў—пэрыод агульнага экономічнага пад'ёму. Ажыўляецца гандаль, павялічваюцца заказы, пашыраецца і паляпшаецца збыт. Рамесьнікі пачынаюць крэпнуць, але да такой моцы, якімі яны былі ў 70-я гады, ужо падняцца не маглі. Значным тормазам у гэтым руху зьявілася буйное пашырэньне фабрычнай прамысловасьці. Роля прамысловасьці ў народнай гаспадарцы з кожным годам павялічваецца, роўналежна ёй памяншаецца роля продукцыі рамесьнікаў, як можна бачыць з наступнае табліцы № 5 [3]).

| Чарговы № | Гады | Кошт рамесьніцкай продукцыі | Кошт фабрычнай продукцыі | % рам. продук. адносна ўсёй продукцыі | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1866 | 576.000 р. | 100.000 р | 85% | Лічбы ўзяты з адчотаў стат. камітэту. |
| 2 | 1889 | 450.000 р. | 598.000 р. | 43% | |
| 3 | 1901 [3]) | 697.000 р. | 2.525.000 р. | 21% | |
| 4 | 1903 [4]) | 780.000 р. | 3.487.000 р. | 18% | |

Аплата працы падмайстраў і вучняў, аплата памяшканьняў была яшчэ зусім мізэрнай, але к гэтаму часу павялічылася ўжо процантаў на 20 у параўнаньні з 90-мі гадамі.

[1]) Труды Минского стат. комит. за 1870 г., стар. 367.

[2]) Архіў стат. каміт., справа № 45666—67.

[3]) На вялікі жаль, лічбаў за пазьнейшыя гады знайсьці не ўдалося, а ў сучасны момант Статыстычная Управа Беларусі распрацоўвае лічбы па ўсёй Беларусі і асобнымі гарадамі не займаецца.

[4]) Архіў статыстычнага камітэту, справа № 45666 за 1901 г.

[5]) " " " № 45708 за 1903 г.

Улада пачынае больш цікавіцца падаткамі. Падзел па ліку нанятых працоўных застаецца, але, побач з ім, пачынаюць весьці падлік чыстага прыбытку кожнага больш-менш багатага рамесьніка. Калі чысты прыбытак перавышаў 150 руб. у год, то рамесьнік павінен быў плаціць, апроч усяго, што плаціў да гэтага часу, яшчэ раскладачны і процантны збор. Норма гэтага збору залежала ад ліку чыстага прыбытку, што відаць з табліцы № 6, у якой даюцца стаўкі раскладачнага і процантнага збору за 1900 г.

| № чарг. | Чысты прыбытак | Назва рамесьніка | Раскладачны збор | %% збор | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 220 р. | Часавы майстар . . . | 3 р. | 2 р. | Лічбы ўзяты з архіву падатковага інспэктара м. Менску 1-га раёну за 1900—1903 год. Зьвязка № 7, пар. 324. |
| 2 | 240 р. | Шапачнік . . . . . | 4 р. | 2 р. | |
| 3 | 450 р. | Кравец-адзіночка . . . | 8 р. | 2 р. | |
| 4 | 600 р. | Капялюшнік . . . . | 11 р. | 4 р. | |
| 5 | 1.000 р. | Кравец з 7-ма наём. прац. | 18 р. | 30 р. | |
| 6 | 1.230 р. | Кандзіцер з 2-ма хлопч. . | 21 р. | 41 р. | |
| 7 | 1.400 р. | „ „ „ . | 26 р. | 22 р. | |

Разгледзеўшы гэтую табліцу, прыходзіцца зазначыць, што чаго-небудзь агульнага пры абкладаньні гэтым зборам ня было. Падатковы інспэктар выяўляў экономічнае становішча рамесьніка, паведамляючы аб гэтым раскладачнае прысутцтва, а апошняе, на падставе гэтых даных, вызначала стаўку збору. Калі рамесьнік, напрыклад, ня маючы наёмных працаўнікоў, гандляваў у сваёй майстэрні рэчамі свайго вырабу і пры гэтым атрымліваў чысты прыбытак больш 150 р., то ён пападаў у асобную катэгорыю і павінен быў, апроч раскладачнага і процантнага збору, выбіраць патэнт коштам у 20 руб. Такіх рамесьнікаў у Менску ў 1903 годзе было каля 15-ці асоб і жылося ім бязумоўна лепш, чым асноўнай масе.

VIII.

## Стан рамесьнікаў пасля Японскай вайны да 1916 г.

Японская вайна дала пачатак экономічнага ўпадку. Паводле паказаньняў падатковых інспэктароў г. Менску, у час вайны і некалькі гадоў пасьля яе, заробак рамесьнікаў панізіўся процантаў на 50, а шмат якіх адзінак і зусім спыніўся, чаму становішча рамесьнікаў з кожным годам пагаршалася.

К 1910 году выдзеліўся асобны тып капіталістага-магазыншчыка, які скупляў у рамесьнікаў па таннай цане іх вырабы; сабраўшы такім парадкам вялікія партыі тавараў, адсылаў куды-небудзь, дзе выгодна для сябе і прадаваў. Паводле вестак Уласава („Экономический очерк Литвы і Белоруссии"), Менск вёў гандаль пекным абуцьцем рамесьніцкага вырабу на ўсю Расію. Купляючы па таннай цане і прадаючы дорага, магазыншчык хутка багацеў, а тым часам рамесьнік ледзь не паміраў з голаду. Вырвацца з такой кабалы звычайны ра-

месьнік ня мог, бо ня меў грошай, дзеля закупкі сырцу, а падругое, ня было дзе рэалізаваць сваю вытворчасьць. Магазыншчык і матар'ял даваў, і продукцыю забіраў. Рамесьнік поўнасьцю пападаў у кіпцюры магазыншчыка, аб гэтым сьведчыць старое насельніцтва.

Асабліва дрэнна прыходзілася краўцом і шаўцом. Паводле паказаньняў менскага падатковага інспэктара, лепшы рамесьнік-адзіночка шавец, працуючы на магазыншчыка, выганяў ад 40 да 60 капеек у дзень. Такое-ж становішча было і ў краўцоў.

У асабліва дрэнных умовах былі адзіночкі. Рамесьнікі, у якіх былі падмайстры і вучні, былі ў лепшых умовах, бо яны маглі, плацячы мізэрную плату і злосна эксплёатуючы іх, паляпшаць свой дабрабыт.

Кватэрная плата к 1910 году значна ўзрасла. Калі ў 1900 годзе кв. сажань у асяродку гораду цаніўся ў 2 рублі, то ў 1910 годзе ён ужо цаніўся ў 5 руб. Толькі падаткі амаль што не павялічыліся, а з 1910 году нават адзін адпаў (цэхавыя расходы), дзякуючы зьнішчэньню цэхавага ладу рамесьнікаў.

Цяжкое матар'яльнае становішча рамесьнікаў цягнулася да вайны 1914 г. У час вайны 1914—1917 г. шмат рамесьнікаў забрана было ў войска. Другая частка захапілася спэкуляцыяй і таксама пакінула свае майстэрні. Толькі малая рэштка рамесьнікаў засталася працаваць.





І. Гармізэ, Я. Ракаў.

# Нізавая сетка спажывецкай коопэрацыі ў БССР.

У падставе гэтага артыкулу ляжаць матар'ялы абсьледваньня спажывецкай сыстэмы НКР-СІ БССР і спэцыяльнага вывучэньня нізавой коопэрацыі паасобнымі корэспондэнтамі і мясцовымі краязнаўчымі організацыямі па програме, у свой час асьветленай на старонках часопісу „Наш Край" № 4—5 (7—8) 1926 г.

Мы лічым патрэбным спыніцца на нізавой вясковай сетцы таму, што, папершае, у Беларусі, як рэспубліцы сельска-гаспадарчай, вясковая сетка, натуральна, павінна асабліва стаяць у цэнтры нашай увагі, падругое, нізавая сетка, якая зьяўляецца канцоваю ступеньню ўсіх коопэрацыйных усходаў і стыкаецца непасрэдна з спажыўцом, павінна граць рашучую ролю ў разьвіцьці коопэрацыйнага строю. У нізавым коопэратыве, як у фокусе, павінны пераламляцца ўсе мерапрыемствы партыі і Савецкай улады, накіраваныя на ўмацаваньне коопэрацыйнай сыстэмы. І з гэтага пункту погляду нізавы коопэратыў, асабліва вясковы, набывае першараднае значэньне ня толькі як адзінка, якая гандлюе, але і як організацыя, якая грамадзкі згуртоўвае працоўнага спажыўца. У гэтых абодвух бакох коопэрацыйнай працы роўназначнага парадку мы павінны дабівацца ўзаемадзеяньня і злучэньня тэмпу іх разьвіцьця, бо ў бурным гаспадарчым росьце, не падмацаваным організацыйным фундамантам, наша коопэрацыя рызыкуе страціць свой „коопэрацыйны" твар, ператвараючыся, такім чынам, у дзяржаўнае гандлёвае прадпрыемства.

У разрэзе гэтых асноўных функцый і будзем разглядаць асноўныя пытаньні коопэрацыйнага будаўніцтва на вёсцы ў асьвятленьні сучаснага іх стану і далейшых пэрспэктыў.

У практыцы будаўніцтва нізавой вясковай сеткі ў БССР, як і ва ўсім саюзе, намеціліся 2 формы—аднакрама і шматкрама, г. зн. коопэратывы з аднэю або невялікаю колькасьцю крам, распаложаных блізка свайго праўленьня, і коопэратывы з вялікаю колькасьцю крам, аддаленых ня толькі ад свайго праўленьня, але і адна ад другой (12—15 вёрст). Пытаньне аб тым, які з паказаных двух відаў коопэрацыйнага будаўніцтва на вёсцы зьяўляецца найбольшпа дыходзячым, застаецца да гэтага часу не разьвязаным у такой ступені, каб тую ці іншую форму, як адзіную, пашыраць у коопэрацыйным будаваньні. Ужываньне тае ці іншае формы павінна быць разьвязана, як відаць, у адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі.

Якая-ж з гэтых форм найбольш падыходзіць і мэтазгодна для БССР. Прымальнасьць і мэтазгоднасьць тае ці іншае формы мы будзем разглядаць, маючы на ўвазе тыя асноўныя задачы, якія пастаўлены перад коопэрацыяй, як організацыяй грамадзкай і гандлёвай.

Прывядзем асобныя асноўныя паказьнікі, выведзеныя па 3-х акругах (Слуцкай, Магілеўскай і Віцебскай):

| Тып вясковага коопэратыву | ПРЫПАДАЕ НА АДНУ КРАМУ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гаспадарак | Пайшчыкаў | % коопэрав. | Паявы ўзнос на аднаго пайшчыка | Сярэдн. мес. зварот | Сяр. % выдатк. да звароту |
| 1-крамка. . . . | 351 | 213 | 60,7 | 2,19 | 2.430 | 6,45% |
| 2-крамка . . . | 359 | 128 | 36,0 | 2,26 | 2.020 | 7,0 |
| 3-крамка . . . | 300 | 115 | 38,0 | 1,72 | 1.146 | 7,6 |
| 4-5 крамка . . . | 273 | 122 | 43,0 | 1,61 | 1.146 | 9,2 |
| 6 і больш . . . | 268 | 110 | 40,0 | 2,15 | 1.568 | 8,13 |

Для большай перакананасьці прыведзеных даных экономічнага парадку, якія паказваюць бязумоўную перавагу аднакрамкі перад многакрамкаю, лічым неабходным прывесьці матар'ял, які ў нас ёсьць і які сабраны пры выбарачным абсьледваньні спажывецкіх таварыстваў.

Для прыкладу прывядзем 2 спажывецкія таварыствы Магілеўскай акругі.

Княжыцкае с/т мела ў першым поўгодзьдзі 1925/26 г. 2 аддзяленьні на адлегласьці 12 вёрст ад цэнтру таварыства—Рафалаўскае і Крукоўскае. Адно аддзяленьне з 62 пайшчыкамі і 62 рублямі паявых узносаў, другое з 35 пайшчыкамі і 35 рублямі паявых узносаў. Сярэдні месячны зварот па продажы: Рафалаўскае—362 руб. і Крукоўскае—360 руб. Сярэдні процант выдаткаў да звароту: Рафалаўскае—9,4%, Крукоўскае—10% бяз выдаткаў на ўтрыманьне праўленьня. Далей мы бачым, што паступовае скарачэньне аддзяленьняў ня толькі не пагоршвае работы коопэратыву ў цэлым, але нават паляпшае, што відаць з наступнай таблічкі:

| Квартал | Зварот па продажы | Колькасьць крам | Сярэдні прод. зварот на 1 краму | Узрост звароту | % выдаткаў коопэр. да звароту |
|---|---|---|---|---|---|
| I | 5381 р. | 3-ма. . . . . | 598 | 100 | 13,2% |
| II | 4632 „ | Студзень—3-ма, Люты і Сакавік—2-ма . . . . . | 761 | 127 | 9,2 |
| III | 6725 „ | Красавік і Май—2-ма, Ліпень—3-ма | 1.345 | 224 | 10,0 |

*Вендароскае Таварыства*—шматкрамка, мае 6 аддзяленьняў. Два з іх, распаложаныя ў 10 вярстах ад цэнтру, маюць сярэдні месячны зварот у 616 руб. кожнае, г. з. чуць трымаюцца на мінімальнай норме, устаноўленай для нізавога коопэрацыйнага прадпрыемства. За выключэньнем аднаго аддзяленьня, якое мае 140 пайшчыкаў, усе іншыя налічваюць толькі ад 83 да 100 (толькі ў адным) пайшчыкаў. Прырост пайшчыкаў за 9 месяцаў 1925-26 году вызначыўся ў аддзяленьнях ад 1 да 21 чалавека. У раёне дзейнасьці гэтага коопэратыву ёсьць пункты, дзе коопэравана ад 2-х да 7% гаспадарак. Сярэдні аплачаны пай у некаторых аддзяленьнях вельмі нізкі—даходзіць да 90 кап.

Зваротнасьць тавараў, нават пры цяперашняй высокай коньюнктуры, робіцца ўсё павальнейшаю: 27,5 дзён у першым квартале, у 2-ім 33 дні (адчынена новае аддзяленьне) і 36 дзён у 3-ім, што тлумачыцца распыленасьцю звароту.

Такім чынам, прыведзеныя вышэй паказьнікі экономічнага парадку, якія сьцьвярджаюцца на практыцы работы выбраных об'ектаў, пераконваюць нас у тым, што найбольш падыходзячай для БССР формаю пабудовы нізавога коопэратыву на вёсцы зьяўляецца аднакрамка або коопэратыў з невялікаю колькасьцю крам (1-2). Такога роду коопэратыў, як блізкі да насельніцтва раёну, які ён абслужвае, карыстаецца ўвагаю коопэраванага насельніцтва, якое, лічачы яго „сваім", прымае ўдзел у яго рабоце. Іншыя зусім адносіны мы бачым з боку насельніцтва да шматкрамкі, асабліва ў далёкіх раёнах. Тут коопэратыў, які часьцей за ўсё абслужваецца нанятымі людзьмі, асабліва ў раёнах, аддаленых ад месца знаходжаньня праўленьня, калі можна так сказаць, робіцца чужым для насельніцтва, перастае быць організуючым цэнтрам, трацячы свой грамадзкі твар.

Устанавіўшы перавагі аднакрамкі перад шматкрамкаю, прасочым формы пабудовы нізавой вясковай коопэрацыі ў БССР, якія намячаюцца, што наглядна нам пакажа наступная табліца.

| Тэрміны | Бабруйск. | Барысаўск. | Калінінск. | Менск. | Мазырск. | Аршанск. | Полацк. | Віцебск. | Магілеўск. | Слуцк. | БССР |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I/X-24 | 3,23 | 2,30 | 1,27 | 1,83 | 1,87 | 1,27 | 1,88 | 1,53 | 2,25 | 3,65 | 1,97 |
| I/X-25 | 2,81 | 2,60 | 2,33 | 2,33 | 2,85 | 2,15 | 2,68 | 1,73 | 3,55 | 3,85 | 2,57 |
| I/IV-26 | 3,07 | 3,0 | 2,5 | 2,44 | 2,70 | 2,27 | 2,82 | 1,91 | 3,82 | 4,91 | 2,83 |
| I/VII-26 | — | — | — | — | — | — | — | 1,91 | 3,70 | 5,23 | 3,20 |

Ува ўсіх акругах, у адных найбольш выразна, у другіх слабей, намячаецца тэндэнцыя да шматкрамкі, г. зн. да тае формы, якая не зьяўляецца рацыянальнай ва ўмовах БССР. Той факт, што кіруючыя коопэрацыйныя організацыі прызнаюць непадыходзячай гэтую форму ва ўмовах БССР, гаворыць за тое, што процэсы коопэрацыйнага будаўніцтва на вёсцы не даволі ахоплены плянавым рэгуляваньнем іх. На гэты бок павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага. Коопэрацыйнае будаўніцтва павінна быць накіравана па лініі аднакрамкавага

коопэратыву або ўва ўсякім разе—з невялікаю колькасьцю крам, блізка распаложаных адна ад аднэй і ад свайго праўленьня.

Пяройдзем да пытаньня аб коопэраванасьці вясковага насельніцтва, зьбіраньні паявых капіталаў і сярэднім аплачаным паі.

Гэтыя даныя па 3-х абсьледваных акругах у разрэзе дынамічных паказьнікаў у адносных вялічынях:

| Тэрміны | Слуцкая акруга | | | | Віцебская акруга | | | | Магілеўская акруга | | | | Разам у сярэднім | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рост кооп. насельніцт. | % кооп. да кольк. г-к акр. | Рост. паяв. капіт. | % сярэдн. аплач. паю | Рост кооп. насельн. | % кооп. да кольк. г-к акр. | Рост паяв. капіталу | % сяр. апл. паю | Рост кооп. насельн. | % кооп. да кольк. г-к акр. | Рост паяв. капіт. | % сяр. апл. паю | % росту паявых капіталаў | % кооп. гаспадарак | % платы паю. |
| на I/x-24 г. | 100 | 21,7 | 100 | 28,0 | 100 | 12 | 100 | 27 | 100 | 13,5 | 100 | 37 | 100 | 13,5 | 29,5 |
| I/x-25 г. | 156 | 33,9 | 223 | 40,0 | 158 | 19 | 237 | 40 | 210 | 23,2 | 291 | 52 | 249 | 23,2 | 43,4 |
| I/iv-26 г. | 178 | 38,8 | 330 | 52,0 | 198 | 24 | 353,6 | 48 | 213 | 28,4 | 450 | 62 | 374 | 28,4 | 53,0 |
| I/vi-26 г. | 187 | 40,5 | 382 | 58,0 | 204 | 24,4 | 386 | 51 | 320 | 31,0 | 533 | 62 | 426 | 31,0 | 56,0 |

Перш за ўсё мы павінны агаварыць, што прывялі выбарачныя даныя толькі па 3-х акругах, бо матар'ялы агульнага падліку Белкоопсаюзу мэлі досыць значныя недакладнасьці.

Прыведзеныя-ж даныя, як дасканала правераныя, могуць прэтэндаваць на поўную дакладнасьць.

Апрача таго, прыведзеныя намі паказьнікі зьяўляюцца бясспрэчна тыповымі для ўсяе БССР.

Коопэраванасьць насельніцтва, зьбіраньне паявых капіталаў і аплата паю зьяўляюцца пэўнымі і надзейнымі паказьнікамі ступені ўцягненьня насельніцтва ў коопэрацыю і яго (насельніцтва) самадзейнасьці. Запраўды, той коопэратыў, які ў умовах добраахвотнага членства здолеў коопэраваць насельніцтва, інтэнсыўна зьбіраць паявыя капіталы, дабіўся гэтых посьпехаў у выніку добра пастаўленай працы па абслужваньні пайшчыкаў як у гандлёвым, так і ў коопэрацыйным стасунку. У адваротным выпадку ў насельніцтва ня было-б цікавасьці і цягі да коопэратыву.

Прыведзеная табліца нам паказвае, што наогул і цалкам коопэраванасьць насельніцтва расьце, прыбываньне паявых капіталаў павялічваецца і ўзрастае разьмер аплачанага паю. Але пытаньне—ці ў належным разьмеры... На жаль, мы павінны сказаць, што ў умовах павышанага таварнага попыту, грашовага назапасваньня ў сялянскай гаспадарцы, спагаднай палітыкі дзяржавы ў адносінах да коопэрацыі і г. д.—гэты бок коопэрацыйнага будаўніцтва не даволі разьвіты. Апрача таго, па асобных акругах мы маем вялікія хістаньні, якія паказваюць на яе аднастайны тэмп уцягненьня насельніцтва ў коопэрацыю. Недахоп коопэраванасьці насельніцтва робіцца яшчэ больш выразным, калі прывесьці ў якасьці корэктывы да прыведзеных паказьнікаў стасунак да агульнай колькасьці двароў не ўсяго коопэраванага насельніцтва, а толькі сялян-пайшчыкаў; тады ступень коопэраванасьці вызначыцца на 1 чэрвэня 26 г. толькі ў 24,5%.

Перад усёю коопэрацыяй цалкам стаіць неадкладная задача па прысьпешаньні тэмпу ўцягненьня насельніцтва ў коопэрацыю. Гэта будзе толькі тады, калі выбарныя органы нізавой коопэрацыі势 стануць бліжэй да мас, робячы даклады і справаздачы аб праробленай працы, больш чула прыслухоўвацца да патрэб насельніцтва. Тут, само сабою разумеецца, на дапамогу нізавому коопэратыву павінен прыйсьці інструктар вышэйшай коопэрацыйнай організацыі. І толькі пры такіх умовах нізавы коопэратыў можа стаць масавaю організацыяй, якая карыстаецца дапамогаю самога насельніцтва.

Пяройдзем да чарговага пытаньня коопэрацыйнай практыкі—формы коопэрацыйнага кіраваньня. Да гэтага часу пераважнаю формаю застаецца—калегіяльная (праўленьне). Звычайна гэта прыводзіць да таго, што ў коопэратыве, які толькі што пачынае жыць, з вельмі дробным зваротам, мы маем 3-х членаў праўленьня, якія атрымоўваюць узнагароду за сваю працу. Такі расход, бязумоўна, не пад сілу для дробнага прадпрыемства, дзе, апрача таго, кожны член праўленьня атрымоўвае дробязь, якая ня можа яго задаволіць.

Калегіяльнасьць, як прынята думаць, зьяўляецца абавязковаю ўмоваю і спосабам падняцьця грамадзкасьці на вёсцы. Аднак мы вельмі часта бачым, што самыя лепшыя сяляне-актывісты, калі яны пастаўлены на непасрэдную працу,—не спраўляюцца з ёю, бо не заўсёды можна вымагаць грамадзкасьці з уменьнем гандляваць, орыентавацца ў надзвычайна складаных рыначных умовах і г. д. Вельмі часта пад маскаю калегіяльнасьці мы маем такое палажэньне, калі ўсе члены праўленьня зьяўляюцца „пасыўнымі“ і, такім чынам, кіруе коопэратывам адна асоба. Тут мы маем ужо ў пэўнай меры фальшывае палажэньне.

Абсьледваньне РСІ спыніла сваю ўвагу на новай коопэрацыйнай форме кіраваньня—па аднаасабовай адзнацы (ангельская сыстэма).

У нас у БССР ёсьць 6 таварыстваў, якія кіруюцца па такой сыстэме. Не набыла гэтая сыстэма больш значнага пашырэньня, дзякуючы праяўленай некаторай інэртнасьці да яе з боку спажывецкай сыстэмы. На конкрэтным прыкладзе аднаго дэталёвага абсьледваньня коопэратыву (Заронава, Віцебскай акругі) абрысуем асноўныя рысы ангельскай сыстэмы. Тэхнічным кіраўніком зьяўляецца дырэктар, які вядзе ўсю коопэрацыйную працу. Агульнае кіраваньне і наглад за яго дзейнасьцю ажыцьцяўляецца контрольнаю радаю, якая выбіраецца з складу пайшчыкаў таварыства. Сваю працу рада прыводзіць праз камісіі: гаспадарчую (крамную), рэвізійную і культурна-асьветную. Старшыні гэтых камісій утвараюць прэзыдыум рады. Такім чынам, дырэктар, маючы давер‘е ў межах дырэктыў, якія даюцца радаю, зусім самастойны, вольны ад розных дробязных пагоджаньняў, няўхільных ува ўмовах калегіяльнасьці,—а дзеля гэтага мае больш простору ў сваёй рабоце. Далей, выбарныя пайшчыкі—члены рады, якія ажыцьцяўляюць дырэктыўныя функцыі, глядзяць на сябе, не як на служачых, а як на грамадзкіх дзеячоў, якія робяць ганаровую і важную грамадзкую работу. І, запраўды, усе 13 членаў рады даволі актыўна працуюць. Дзякуючы частым справаздачным сходам і бескарыснай працы, рада заваявала популярнасьць сярод насельніцтва. Ува ўмовах такога высокага грамадзкага ўзроўню коопэратыў мае даволі значныя дасягненьні, якія вылучаюць яго сярод іншых коопэратываў акругі, а іменна: коопэравана $34^1/_2$% усіх гаспадарак раёну пры сярэдне-аплачаным паі на аднаго пайшчыка—2 р. 94 к.; па акрузе-ж у сярэднім—адпаведна 24,4% і 2 р. 54 к. Выдаткі да звароту складаюць 4,9%; па акрузе ў сярэднім—

5,9%. Зусім ня было растрат і пакраж. Ёсьць значны прыбытак пры мінімальных палажэньнях. Расьце абслужваньне пайшчыкаў і г. д. Значыць, не на прыкладзе толькі Заронаўскага коопэратыву, але і ўсіх іншых, якія працуюць па аднаасабовай сыстэме, мы пераконваемся ў нягрунтоўнасьці апаскі, што аднаасабовае кіраваньне выключае коопэрацыйную грамадзкасьць і самадзейнасьць коопэрацыйнага актыву ў асобе яго выбарных органаў. І зусім правільна будзе, калі скажам, што гэта форма забясьпечвае з аднаго боку магчымасьць спэцыялізацыі тэхнічнага апарату, а з другога боку—запраўднага выкарыстаньня грамадзкай ініцыятывы і самадзейнасьці ў першую чаргу выбарнага актыву і сумесна з ім усяе коопэрацыйнае масы.

Восоўваючы дадатны бок аднаасабовай формы праўленьня, мы ня думаем аб гвалтоўным навязваньні яе ўсёй нізавой сетцы. Яе можна толькі раіць, калі ёсьць на месцы здаровы партыйна-савецкі актыў, які пры належнай увазе і ў першую чаргу з боку коопэрацыйнага інструктара можа выявіць і выклікаць яе да жыцьця. Ува ўсякім разе форма аднаасабовага праўленьня ў нашых умовах заслугоўвае з боку спажывецкай сыстэмы належнай увагі, вывучэньня і пашырэньня яе ўжываньня.

Абмежаваўшыся толькі групаю асноўных пытаньняў організацыйна-грамадзкага парадку, паколькі дазваляюць разьмеры гэтага артыкулу, пяройдзем да працы нізавой коопэрацыі на яе гандлёвым вучастку. Звароты нізавой коопэрацыі досыць хутка растуць. У 1925-26 г., у параўнаньні, з 1924-25 годам паводле 378 сьведчаньняў, мы маем павялічэньне: па закупачным звароце на 78% і ў такім-жа разьмеры, прыблізна, па продажы. Але, паколькі просты рост зваротаў ува ўмовах таварнага голаду на рынку і спагаднай адпускной політыкі з боку дзяржавы, мала гаворыць за сябе, нам неабходна зьвярнуцца да характарыстыкі якаснага боку коопэрацыйнага звароту. Такім чынам, неабходна адказаць на наступныя запытаньні:

1) ці ўмацоўваюцца гаспадарчыя адносіны ўнутры самой спажывецкай сыстэмы—у даным выпадку ступень абслужваньня акрсаюзам сваё нізоўкі па лініі промтавараў і сельска-гаспадарчай продукцыі.

2) Якое месца пайшчык займае ў зваротах свайго коопэратыву і

3) выдаткі і політыка цэн.

На першае пытаньне адказвае наступная табліца:

| АКРУГІ | За 1924-25 год | | | | | | За 1925-26 год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік паказ. | Усяго куплена | У тым ліку | | | | Лік паказ. | Усяго куплена | У тым ліку | | | |
| | | | Свайго Саюзу | Іншай коопэр. | Дзярж. орган. | Прыват. асоб | | | Свайго Саюзу | Іншай коопэр. | Дзярж. орган. | Прыват. асоб |
| Бабруйск. . | 60 | 100 | 64,1 | 11,3 | 19,3 | 5,3 | 52 | 100 | 86,2 | 4,1 | 4,1 | 5,6 |
| Барысаўск. . | 38 | 100 | 60,9 | 14,0 | 17,6 | 7,5 | 29 | 100 | 77,8 | 5,4 | 11,4 | 5,1 |
| Віцебск. . . | 46 | 100 | 76,4 | 1,3 | 17,1 | 5,2 | 53 | 100 | 87,3 | 1,3 | 7,4 | 4,0 |
| Калінінск. . | 36 | 100 | 53,6 | — | 27,9 | 18,5 | 28 | 100 | 66,8 | 11,3 | 12,7 | 9,2 |
| Менск. . . | 44 | 100 | 65,0 | 8,7 | 18,0 | 8,2 | 40 | 100 | 71,5 | 4,6 | 17,1 | 6,8 |
| Магілеўск. . | 47 | 100 | 58,3 | 11,7 | 20,6 | 9,4 | 43 | 100 | 70,6 | 5,6 | 18,6 | 5,2 |
| Мазырск. . . | 12 | 100 | 63,6 | 10,8 | 15,8 | 9,8 | 37 | 100 | 69,0 | 4,9 | 17,9 | 8,2 |
| Аршанск. . . | 31 | 100 | 56,2 | 11,0 | 23,3 | 9,5 | 43 | 100 | 71,4 | 6,4 | 14,6 | 7,6 |
| Полацк. . . | 50 | 100 | 77,0 | 7,8 | 4,5 | 10,7 | 40 | 100 | 82,7 | 4,2 | 5,7 | 7,4 |
| Слуцк. . . . | 12 | 100 | 79,7 | 3,4 | 11,4 | 5,5 | 26 | 100 | 85,5 | 3,8 | 6,9 | 3,8 |

Прывядзем таксама табліцу, якая паказвае ступень уцягненьня Акрсаюзамі нізавой сеткі ў свой сельска-гаспадарчы зварот. Даныя прывядзем па 3 акругах у адносных велічынях:

| | АКРСАЮЗЫ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Слуцкі | | Магілеўскі | | Віцебскі | |
| | 24—25 г. | 25—26 г. | 24—25 г. | 25—26 г. | 24—25 г. | 25—26 г. |
| Сваім апаратам | 4,1 | 4 | 25,2 | 21,7 | 15 | 2,4 |
| Праз. Сп. Т-вы | 93,7 | 95,7 | 74,8 | 74,2 | 55 | 62,3 |
| Дзярж. органы | 1,6 | 0,1 | — | — | 10 | 8,3 |
| Інш. кооп. орган. | 0,6 | 0,2 | — | 4,1 | 15 | 24 |
| Прыватн. асоб | — | — | — | — | 5 | 3 |

Як дадатнае зьявішча мы можам адзначыць рост і ўмацаваньне гаспадарчых адносін паміж нізоўкаю і сваім акрсаюзам, што бясспрэчна спрыяе аздараўленьню коопэрацыйнага звароту. Аднак, не па ўсіх акругах гэты рост даволі інтэнсыўны як па лініі сельска-гаспадарчай продукцыі, так і прамысловых тавараў. Ня досыць поўнае ахапленьне Акрсаюзам свае нізоўкі можа прывесьці да розных непажаданых вынікаў (затаварваньне, неадпаведнасьць асортымэнту з патрэбамі насельніцтва). Па лініі с.-г. продуктаў факт ня досыць належнага ўцягненьня нізоўкі ў свой зварот трэба расцэньваць, як аслабленьне яе (нізоўкі) на сельска-гаспадарчым рынку і, значыць,—яе ўдзельнай вагі ў рыначным звароце сялянскай гаспадаркі.

Яшчэ важнейшае значэньне мае пытаньне аб удзеле пайшчыкаў у звароце нізавой коопэрацыі. Гаспадарчая сувязь пайшчыка з коопэратывам зьяўляецца найбольш пэўным паказьнікам таго, як даны коопэратыў орыентуецца на свайго пайшчыка і ў адносінах да падбору таварнага асортымэнту, прымальнасьці цэн і г. д.

Па асобных акругах ступень абслужваньня нізавой коопэрацыяй сваіх пайшчыкаў вызначаецца ў наступным:

| АКРУГІ | З агульнае продажы прыпадае ў % адн. да звароту, прынятым за 100 | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | За 1924-25 год | | | За 1925-26 год | | |
| | Лік паказ. | Пайшчыкаў | Інш. насельн. | Лік паказ. | Пайшчыкаў | Інш. насельн. |
| Бабруйская | Няма вестак | | | 58 | 45,1 | 54,9 |
| Барысаўская | 10 | 60,5 | 39,5 | 38 | 41,9 | 58,1 |
| Віцебская | Няма вестак | | | 53 | 37,7 | 62,3 |
| Калінінская | 22 | 41,2 | 58,8 | 25 | 40,7 | 59,3 |
| Менская | 19 | 50,2 | 49,8 | 17 | 57,2 | 42,8 |
| Мазырская | 33 | 46,7 | 53,3 | 37 | 51,5 | 48,5 |
| Магілеўская | Няма вестак | | | 27 | 42,8 | 57,0 |
| Аршанская | 21 | 30,1 | 69,9 | 42 | 43,1 | 57,6 |
| Полацкая | 42 | 35,7 | 64,3 | 38 | 44,6 | 55,4 |
| Слуцкая | 25 | 60,9 | 39,1 | 33 | 56,6 | 43,4 |
| Разам | 172 | 44,1 | 55,9 | 368 | 45,5 | 54,5 |

Калі пакажам, што ў даваенны час паводле даных Цэнтрасаюзу зварот нізавога коопэратыву з пайшчыкамі дасягаў каля 60%, то ў нашых умовах, калі першачарговае абслужваньне пайшчыкаў стаіць больш актуальна, то зусім зразумела, прыходзіцца прызнаць, што наша вясковая сетка слаба абслужвае коопэрацыйную масу, тым больш, што на цэлым шэрагу акруг пайшчыкі займаюць менш паловы звароту. Адгэтуль вынікае надзвычайна складаная задача па перабудове коопэрацыяй свайго асортымэнту з такім разьлікам, каб перайсьці на пераважнае, калі ня выключнае, абслужваньне коопэрацыйнага спажыўца. Тут вялізарнае значэньне мае прыбліжэньне сеткі да насельніцтва, якая ў сваім разьмяшчэньні патрабуе значнага паляпшэньня. Паўтараем, што на гэты бок коопэрацыйнай работы неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу яшчэ таму, што процант абслужваньня пайшчыка застаецца стабільным на працягу 24-25 г. 25-26 г. г.

Пяройдзем да выдаткаў і налажэньняў. Як адно, так і другое прывядзем па 3-х абсьледваных РСІ акругах, па якіх ёсьць зусім надзейныя і праверaныя матар'ялы ў процівагу нядобраякаснасьці абагуленых матар'ялаў агульнага падліку.

Пакажам рух расходаў у адносінах звароту на працягу апошніх двух год.

| | Слуцкая акруга | Віцебская акруга | Магілеўская акруга |
|---|---|---|---|
| I паўг. 24-25 г. . . | 9,68 | 9,7 | 10,8 |
| II „ 24-25 г. . . | — | 8,7 | 10,2 |
| I „ 25-26 г. . . | 7,53 | 7,2 | 8,9 |
| II „ 25-26 г. . . | — | 5,9 | 10,29 |

Адзначым, што выдаткі намі выведзены толькі па вясковай коопэрацыі. Местачковых коопэратываў мы не бралі для таго, каб мець найбольш дакладнае ўяўленьне якраз аб об'екце, які мы апісваем.

З прыведзенай табліцы мы бачым, зьніжэньне выдаткаў, якое можна адзначыць, усё-ж не зьяўляецца пашыраным усюды зьявішчам. На падставе прыведзеных даных можам таксама констатаваць пярэстасьць выдаткаў па асобных акругах. І гэтыя два моманты бясспрэчна паказваюць неўпарадкаванасьць галіны выдаткаў у нізавой вясковай сетцы, і гэта неўпарадкаванасьць зьяўляецца вынікам слабога кіраваньня з боку вышэйшых коопэрацыйных організацый.

Такою-ж ацэнкаю можа быць адзначана і палажэньне з нацэнкамі. На прыкладзе выбраных об'ектаў па асобных акругах мы ўпэўніліся ў адсутнасьці поўнай калькуляцыйнай політыкі—пярэстасьць і рознастайнасьць у налажэньнях, у адных і тых-жа самых коопэратывах мы маем продаж то з утратаю, то з надзвычайна вялікім прыбыткам і г. д. Гэты бок коопэрацыйнай політыкі на працягу апошняга часу служыць прадметам асаблівай увагі з боку дзяржаўнага рэгуляваньня, бо з упарадкаваньнем норм выдаткаў і здаровай калькуляцыі зьвязана пытаньне са зьніжэньнем розьнічных цэн.

Нарэшце, для паўнаты высьвятленьня стану і дзейнасьці нізавой коопэрацыйнай сеткі на вёсцы, прывядзем кароткі аналіз яе фінансавага

палажэньня па асноўных паказьніках у дынамічным разрэзе на 3 тэрміны:

| | 1/X—24 г. | 1/X—25 г. | 1/X—26 г. |
|---|---|---|---|
| I. Рост балянсаў. . . . . . | 100 | 149 | 208 |
| II. Колькі ўласнага капіт. ў агульн. суме зваротных сродкаў . . . . . . . . | 22,3 | 27 | 40 |
| III. Тое-ж самае пазыкавых . . | 77,7 | 73 | 60 |
| IV. Структура ўласных сродкаў у агульнай суме, якія прымаюцца за 100: | | | |
| а) паявыя . . . . . . . . | 17,3 | 24 | 19,6 |
| б) іншыя непадзельныя . . | 82,7 | 76 | 80,4 |
| V. Структура прыцягненых сродкаў: | | | |
| а) таварны крэдыт . . . . | 69,7 | 81,7 | 78,3 |
| б) доўгатэрміновыя пазыкі . | — | 0,8 | 9,5 |
| в) роз. неком. дэбіторы . . | 30,3 | 17,5 | 12,2 |
| VI. % незваротных каштоўнасьцяй у суме ўсіх сродкаў | 18 | 21,1 | 21,5 |
| Тое-ж самае ў суме ўласных капіталаў. . . . . . | 111,7 | 80,8 | 53,9 |
| VII. Разьмеркаваньне зваротных каштоўнасьцяй: | | | |
| а) грошы . . . . . . . . | 9,77 | 8,4 | 7,7 |
| б) тавар.-матар'яльн. каштоўнасьці . . . . . . | 77,0 | 80 | 77,7 |
| в) вэксальн. атрым. . . . | — | — | 3,2 |
| г) дэбіторы. . . . . . . . | 13,2 | 11,6 | 11,4 |

Прыведзеныя даныя настолькі элемэнтарныя і ясныя, што не патрабуюць тлумачэньняў.

Зазначым толькі, што агульны стан нізавой сеткі робіцца ўсё больш трывалым і даволі выгадна вылучаецца ўва ўсёй спажывецкай сыстэме ў параўнаньні з іншымі яе зьвеньнямі. І гэта, бясспрэчна, зьяўляецца самым правільным паказьнікам тае здаровае асновы, якая заложана ў вясковай коопэрацыі. Больш увагі недахопам, якія яшчэ застаюцца ў нізавой сетцы, часткова зьяўляюцца няўхільнымі, часткова вынікаюць з прычын суб'ектыўнага парадку, і нізавы коопэратыў хутчэй, як да гэтага часу, пойдзе па лініі складаных і вельмі важных задач, якія перад ім стаяць.



**В. Вольскі.**

# Татары на Беларусі.

I.

Першыя, гістарычна зусім верагодныя, весткі аб татарскіх паселішчах у межах б. Вялікага Княства Літоўска-Беларускага адносяцца да XV ст. Але ёсьць падставы думаць, што час першага зьяўленьня татар у якасьці складальнай часткі карэннага насельніцтва б. Вялікага Княства Літоўска-Беларускага можна аднесьці да больш раньняга пэрыоду—да канца XIII і пачатку XIV ст. Аб гэтым ёсьць весткі ў летапісца ордэну мінарытаў—Лукаша Вадзінга, які ў сваіх анналах, якія напісаны ў 1324 г., кажа: „Нашы браты, якія былі пасланы для залучэньня ў хрысьціянскую веру літоўскіх зямель, знайшлі, што ўвесь народ загруз у паганстве, кланяецца агню; між літоўцамі ёсьць скіфы (scythos), якія прышлі з царства нейкага хана і якія ў сваіх малітвах ужываюць азыяцкую мову“ *).

Трэба заўважыць, што пад імем „скіфаў“ у сярэднявякоўе разумеліся часта татары і што ў гэты час між Літвой і ардынцамі ўжо замацаваліся зусім сталыя і вельмі шчыльныя ўзаемаадносіны. Такім чынам, у заяве памянёнага летапісца аб тым, што каталіцкія місыянэры сярод насельніцтва літоўскіх зямель сустрэлі татар, няма нічога няпэўнага. „Яшчэ з часоў Ольгэрда“—піша Нарбут—„татары часткова добраахвотна, часткова як палонныя, прыходзілі ў Літву і заставаліся тут, асядаючы на землях, якія даваліся ім у спадчыннае ўладаньне“.

Зусім магчыма, што процэс пасяленьня татар-саюзьнікаў на землях В. К. Літоўска-Беларускага, які спачатку, можа быць, меў спарадычны характар, адбываўся яшчэ да Ольгэрда (у гісторыі ёсьць весткі, што ў склад войска Гэдыміна—у пэрыод яго барацьбы з крыжакамі—уваходзілі і падсобныя атрады татар) і што гэтыя першыя пасяленцы-татары і былі „тымі скіфамі—з царства нейкага хана“, аб якіх кажа Мінарыцкі гісторык.

Як-бы там ні было, але к часу князяваньня Вітаўта (1392—1430) асяданьне татар у межах Беларусі прымае значныя разьмеры. Ставячы мэтай залюдненьне вялікіх абшараў свае дзяржавы, Вітаўт усялякім чынам садзейнічаў перасяленьню татар у яго землі, даючы ім усе ільготы і прывілеі. Не абмяжоўваючыся добраахвотнымі перасяленцамі, якія з прычыны бязупынных непарадкаў у Ордах увесь час папаўнялі татарскае насельніцтва Літвы, Вітаўт шырака выкарыстоўваў у гэтым напрамку і паланёных на вайне.

*) Цыт. паводле Мухлінскага.

Пасьля свайго паходу ў 1397 г. за Дон (супроць Азоўскай Арды) Вітаўт прымусова пасадзіў значны лік палонных татар з жонкамі і дзяцьмі па р. р. Віліі і Вацэ[1]), а таксама ў б. паветах Троцкім, Лідзкім і Ашмянскім, Віленскай губ., Наваградзкім і Менскім, б. Менскай губ. і часткова ў б. Горадзенскай губ. Каб замацаваць гэтых пасельнікаў за іх новай бацькаўшчынай, ён аддаў ім у спадчыну землі, прыраўнаўшы іх па правох і абавязках да шляхты, звольніўшы ад падаткаў і даўшы поўную незалежнасьць у рэлігійных пытаньнях. Больш гэтага, татарам, якія ня мелі жонак, Вітаўт даў права жаніцца на мясцовых дзяўчынах пад умовай мець ня больш аднае жонкі і каб дзеці трымаліся рэлігіі бацькі.

Шмат садзейнічаў перасяленьню татар у Літву і палітычны ўплыў Літвы на ардынскія справы. Гэты ўплыў умацаваўся пры Вітаўце і часткова захаваўся пры яго бліжэйшых наступніках. Літва робіцца для татар як-бы праваахоўным прытулкам, для адных часовым, для другіх сталым.

Зусім верагодныя весткі аб гэтым ёсьць у прыдворнага гісторыка турэцкага султана Мурада IV—Пэчэві, які ў сваёй „Гісторыі Турэцкай імпэрыі" піша: „калі грозны Цімур[2]) прышоў у Кіпчак[3]), шмат татар было разьбіта; але некалькі татарскіх пляменьняў пабегла ў Польшчу (г. ё. Літву), дзе і аселі"[4]).

У 1399 г. ў Літве знаходзіць прытулак разам з сваім дваром і дружынай хан Залатой Арды Тахтамыш, якога разьбіў Цімур-Кутлук[5]). У Літве знаходзяць сабе пасаду і сыны Тахтамыша, якія пасьля былі каранаваны ў Вільні на ханскі пасад.

З Літвы-ж абіраецца на крымскі пасад хан Хаджы-Гірэй, які вырас і выхаваўся сярод літоўскіх татар і служыў да свайго абраньня ў ханы Лідзкім старастай. Сыны яго Нур-Дэўлет і Хайдар у сваю чаргу выхоўваліся сярод літоўскіх аднапляменцаў.

У палове XV ст. татарскія паселішчы ў Літве дасягнулі значнага росквіту. Літоўскія татары, ня гледзячы на тое, што добра акліматызаваліся на сваёй новай бацькаўшчыне і былі, як відаць, прыхільны да яе, тым ня менш падтрымоўвалі духоўную сувязь з аднавернымі краінамі Ўсходу і захавалі ў значнай меры сваю самабытнасьць. У сваю чаргу на Ўсходзе, у прыватнасьці ў Турэччыне—яны былі вядомы пад назвай „Лэх-Татарляры"[6]), як самастойная галіна татарскага пляменьня роўна з крымцамі, кіпчакамі, нагаямі і інш.

Аб ліку літоўскіх татар у XV ст. можна меркаваць па наступных даных:

Падлічваючы войска Вітаўта ў час Грунвальдзкай бойкі, Нарбут апрача 40.000 ліцьвінаў, жмудзінаў і русінаў і 30.000 татар-кіпчакоў, памінае таксама аб 10.000 літоўскіх татар.

У час дынастычнай вайны між Жыгімонтам і Сьвідрыгайлай, у войску апошняга білася каля 40.000 падуладных яму татар.

У 1506 г. татарскія паселішчы зноў папаўняюцца вайскова-палоннымі. Пасьля перамогі, якую атрымаў над крымцамі пад м. Клецкам Міх. Глінскі (сам ён, паміж іншым, быў татарскага паха-

---

1) Невялікая рэчка, якая ўпадае ў Вілію ў 14 в. ад Вільні.
2) Тамэрлян.
3) Залатая Арда.
4) Цыт. па Мухл.
5) Ваяйск. начальнік Тамэрляна, прэтэндэнт на ханскі пасад.
6) Літоўскія (даслоўна польскія) татары (так яны і самі сябе завуць да гэтага часу).

джэньня), забраныя ў палон татары былі паселены тут-жа ў Клецку, у Менску і ў суседніх мястэчках. Да гэтага часу, вельмі магчыма, і адносіцца заснаваньне так званага „татарскага канца“ ў Менску і „Татарскіх слабод“ у Клецку і Сьмілавічах.

Прырост татарскага насельніцтва наглядаецца да Жыгімонта III, пры якім пачаліся прасьледваньні рэлігійнага характару. Аб гэтым таксама ёсьць весткі ў Пэчэві: „Дагутэль[1]) знаходзіцца там (г. ё. у Літве) шэсьцьдзесят татарскіх паселішч і ў кожным з іх ёсьць джамія (вялікая мячэць), у якой чытаецца хутба (урачыстая малітва аб дабрабыце дзяржавы). Гэтыя паселішчы вельмі шматлюдны і заможны; але каб у кожным з іх ня было па некалькі джамій і мячэцяй, няверныя не дазваляюць там больш будаваць іх“[2]).

З гэтага часу лік татарскага насельніцтва пачынае хутка зьмяншацца, дзякуючы, з аднаго боку, эміграцыі ў Турцыю, якая выклікана рэлігійным прыгнечаньнем, з другога боку, дзякуючы вялікаму росту асыміляцыі.

Паводле даных рэвізіі татарскай маемасьці ў В. К. Літоўска-Беларускім, якая была зроблена Янам Кірдэем у 1631 г., лік літоўскіх татар не перавышаў у той час 20—25 тыс. чал.

Дзеля адсутнасьці статыстычных даных цяжка ў далейшым прасачыць рух татарскага насельніцтва ў б. літоўска-беларускіх губэрнях. Паводле-ж статыстычных даных 1857 г. на тэрыторыі б. Менскай губ. лічылася 2.231 тат., а па Віленскай—2.354.

У сучасны момант, у межах БССР літоўскія татары згрупаваны, галоўным чынам, у Менску (Татарскі канец), м. Сьмілавічах і м. Узьдзе (у кожным з гэтых пунктаў ёсьць па мячэці). Апрача таго, значная колькасьць іх раскідана ў паасобных мястэчках, вёсках і хутарох б. Менскага і Ігуменскага паветаў.

Паказаць дакладныя лічбовыя весткі адносна татарскага насельніцтва БССР не зьяўляецца магчымым, бо большасьць іх у часе апошняга статыстычнага перапісу палічылі сябе за беларусаў. Па прыватных-жа вестках у адным толькі Менску налічваецца каля 1.000 чал.

II.

За час свайго шматвяковага жыцьця з беларусамі нашыя татары даўно ўжо страцілі сваю родную мову. Па сваім знадворным выглядзе, па роду заняткаў, па культурным ўзроўні і нават па быту яны нічым не адрозьніваюцца ад акаляючага насельніцтва. Адзіным аб‘ядналючым цэнтрам, які не дае літоўскім татарам канчаткова зьліцца з беларусамі, зьяўляецца захаваная імі магомэтанская рэлігія (суньніцкая).

Для рэлігійных патрэб яны карыстаюцца часта рукапіснымі кантычкамі, у якіх арабскі тэкст мае падрадковы пераклад на польскай ці беларускай мове, але ў арабскай транскрыпцыі, хоць за апошні час гэтыя рукапісныя кантычкі пачалі выцясьняцца друкаванымі, якія выдадзены ў Казані, выключна з арабскім тэкстам. У рэлігійнай надворнай абраднасьці літоўскіх татар ёсьць спэцыфічныя зьмены, якія ў некаторых выпадках паказваюць на каталіцкі ўплыў. Кепска разьбіраючыся, дзякуючы няведаньню мовы і амаль поўнай адсутнасьці пісьменных паарабску (чытаюць толькі некаторыя старыя людзі), у пытаньнях рэлігіі, фактычна нават ня ведаючы яе падстаў, масы тым ня

[1]) Дзейнасьць Пэчэві адносіцца да канца XVI і пач. XVII ст.
[2]) Цыт. па Мухл.

менш выказваюць да яе вядомую прывязанасьць, якая выяўляецца, між іншым, выключна ў выкананьні чыста надворнай абраднасьці. Каму, напр., няма часу ці ахвоты наглядаць укладзены рытуал, той наймае беднага чалавека, які за плату выконвае ўсю неабходную процэдуру і замальвае грахі свайго наймальніка ( у раёне Татарскай вул. і цяпер жыве чалавек, у якога гэты занятак зьяўляецца асноўным сродкам да існаваньня).

Да рэволюцыі мячэці беларускіх татар у парадку царкоўнай субордынацыі былі падуладны Сымфэропальскаму муфцію, які зацьвярджаў мулл, большай часткай мясцовага пахаджэньня. У пэрыод грамадзянскай вайны сувязь гэтая канчаткова разарвалася, і цяпер беларускія татары ў рэлігійных адносінах з Усходам ня зьвязаны. Кваліфікаваных мулл няма, а для выкананьня іх абавязкаў татары абіраюць з свайго складу найбольш сьвядомых у рытуальных пытаньнях старых людзей.

У палове мінулага сталецьця татарскія жанчыны часткова захавалі яшчэ, паводле вестак сучасьнікаў, нешта накшталт нацыянальнай вопраткі, якая выяўлялася ў зырківх, пераважна жоўтага і апэльцынавага колеру тканінах, пярэстых хустках, ботах з чырвонымі абцасамі, каралях і буйных срэбраных завушніцах, якія з незапомнага часу перадаваліся па спадчыне ад маткі дачцы. У сучасны момант нават гэтая прыметная адзнака счэзла (толькі завушніцы захаваліся яшчэ ў некаторых старых жанчын), і літоўскага, а правільна кажучы, беларускага татарына можна адрозьніць ад яго суседа-беларуса толькі па этнографічным тыпе, які часам захаваў яскрава падкрэсьленыя рысы мангольскага пахаджэньня.

У этнографічным стасунку беларускія татары павінны выклікаць вялікую зацікаўленасьць з боку дасьледчыкаў. Ужываньне імі беларускай мовы ня толькі ў жыцьці, але і ў духоўнай літаратуры („Аль-Кітаб“, „Хікмэт“ і др. кнігі на беларускай мове арабскай транскрыпцыяй), адарванасьць іх з, прычыны географічных, гістарычных і політычных умоў, ад аднавернага Ўсходу,—усё гэта паклала на беларускага татарына свой адбітак. Але было-б рызыкоўным лічыць яго на падставе гэтых адзнак беларусам-магомэтанінам накшталт таго, што ёсьць беларусы-каталікі і праваслаўныя. Ня гледзячы на цеснае сужыцьцё з беларускім насельніцтвам, беларускі татарын захаваў, у значнай меры, чыстату антрополёгічнага тыпу.

Дазвол жаніцца на мясцовых дзяўчынах, які даў Вітаўт, ня мог адыграць вялікай ролі ў зьмешваньні крыві. Нельга забываць, што асноўная маса пасяленцаў ужо мела свае ўласныя сем'і. Апрача таго, гэты дазвол у хуткім часе быў скасаваны наступнікамі Вітаўта, а ў далейшым, паколькі вядома, татары ў шлюбных справах упарта абмяжоўваліся сваім уласным асяродкам: мяшаныя шлюбы былі вельмі рэдкімі. Што датычыцца татар, якія прыймалі хрысьціянства, дык яны шпарка зьліваліся з масай хрысьціянскага насельніцтва.

Такім чынам беларускіх татар мы маем права лічыць найбольш чыстымі, ня гледзячы на некаторую, можа быць, прымешку славянскай крыві, прадстаўнікамі татарскага пляменьня. У той час, як беларускія татары з незапомных часоў захаваліся ў Беларусі ў якасьці невялікай, цесна згуртаванай групы, карэнная маса татарскага насельніцтва, як у Крыме, такі на Волзе, падпала значным зьменам: у Крыме—дзякуючы шматразоваму зьліваньню з народамі арыйскага пахаджэньня (готы, грэкі, часткаю славяны), у Паваложжы—з ўграфінамі (волскія бал-

гары, мардва, чарамісы і г. д.). А на Беларусі, дзякуючы розьніцы ў рэлігіі і адмежаванасьці, асноўны татарскі тып захаваўся амаль што бяз зьмен, у сваёй пачатковай чыстаце.

Усё гэта кажа за тое, што беларускіх татар ў антраполёгічным стасунку можна вылучыць у асобную групу цюрка-татарскага пляменьня на роўных правох з татарамі волскімі і крымскімі. Нагогул-жа, пытаньне гэта вельмі цікавае і патрабуе ўсебаковага і дэтальнага навуковага дасьледваньня.

### ЛІТАРАТУРА:

1. Журнал „Современник". 1853 г., июль, стар. 23.
2. Зеленский. Материалы для географии и статистики Минск. губ. СПБ, 1864.
3. Кареев. Материалы для географии и статистики России. СПБ, 1861.
4. Мухлинский. Исследованне о происхождении и составе литовских татар. Одесса, 1902 г.
5. Narbutth. Dzieje Narodu Litewskiego. Wilno, t. VIII.
6. Jaroszewicz. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji od czasów najdawniejszych do konca wieku XVIII. Wilno—1844.
7. Карамзин. История Государства Российского. СПБ, 1892, т. V, VI.





Доцэнт Б. Ліпкін.

# Паказ у музэях лясоў тутэйшага краю.

У нашай Рэспубліцы на пытаньні вытворчых сіл зьвяртаецца асабліва многа ўвагі. Зусім зразумела, што праца ў галіне прыродных вытворчых сіл складае адну з важнейшых галін краязнаўчай дзейнасьці.

Музэі, як краязнаўчыя ўстановы, у якіх тутэйшы край, пры ўсёй сваёй злучнасьці, атрымлівае конкрэтны і наглядны адбітак, таксама павінны быць зацікаўлены пытаньнямі прыродных багацьцяў і іх скарыстаньня, бо абодвы гэтыя фактары ляжаць у аснове мясцовай экономікі, вызначаючы яе характар і дапамагаючы росту добрага стану насельніцтва. Лясы Беларусі маюць вялікае значэньне ў экономіцы краіны і затым паказ іх у музэях краю павінен быць поўным, пабудаваным грунтоўна на матар'ялах вывучваньня іх як з боку прыродна-гістарычнага, так і экономічнага.

Пытаньне аб тым, пры якім аддзеле павінны быць паказаны лясы краю: ці пры аддзеле прыроды, сельскай гаспадаркі як пададдзелу, ці ў выглядзе самастойнага ляснога аддзелу, гэтае пытаньне вырашаецца ў залежнасьці ад колькасьці матар'ялаў у музэі, яго аддзелаў і г. д.

Галоўнай задачай ляснога аддзелу ці пададдзелу зьяўляецца азнаямленьне шырокіх мас насельніцтва з жыцьцём нашых дрэўных і хмызьняковых парод, з лесам, як складаным соцыяльным організмам, з тыпамі лясных пасадак у краіне, іх гаспадарчым значэньнем у сувязі з гаспадаркай Рэспублікі, усяго Саюзу і ўсяе зямное кулі.

Пры работах па стварэньні ляснога аддзелу ў музэі неабходна згрупаваць усю сваю ўвагу на тое, каб тыя матар'ялы, якія ёсьць, былі разьмяркованы ў сыстэматычным парадку і каб, такім чынам, перад гледачом паступова разгортваўся суцэльны малюнак лясное справы ў краіне.

Конкрэтна матар'ялы павінны быць разьмяркованы наступным чынам:

Спачатку павінны быць паказаны самыя галоўныя складаныя часткі лесу—звычайныя і тыповыя для Беларусі дрэўныя пароды: хвоя, елка, бяроза, асіна, дуб, чорная і белая алешына, ліпа, клён, вяз, бераст, ясен. Кожная парода павінна быць паказана шэрагам экспонатаў, якія даюць поўную характарыстыку, як напрыклад: 1) галінкі з краскамі і шышкамі; 2) малюнкі суквецьцяў; 3) шэраг зрэзаў розных частак дрэва; 4) карнявая сыстэма з розных месц вырастаньня; 5) шэраг

дрэў розных узростаў і розных тыпаў; 6) карта географічнага распаўсюджваньня данай пароды і 7) шэраг малюнкаў і фотографій паасобных дрэў.

Хмызьняковыя пароды—верабіна, калакалуша, крушына, івы, брызьліна і др.—таксама павінны быць паказаны гэрбарыямі, малюнкамі суквецьцяў і тлумачальнымі тэкстамі.

Таксама павінны быць паказаны гэрбарыямі шата расьлінная, мхі і лішайнікі.

Пасьля гэтага лес павінен быць паказаны ў музэі ўжо як соцыяльны організм: павінна быць паказана розьніца росту дрэва на гале і ў лесе, клясыфікацыя дрэў па Крафту, яруснасьць у лесе, падлесак і падрост, дрэвастаны чыстыя і зьмешаныя—усё гэта павінна быць паказана малюнкамі, фотографіямі і экспонатамі. Поруч, тут-жа даецца паказ табліцамі—профілямі пра рэльеф і глебава-грунтовыя ўмовы дрэвастанаў.

Пасьля ідзе знаёмства з тыпамі дрэвастанаў Беларусі і кожны тып уяўляецца поўнымі матар' яламі.

Далей ідуць картаграмы і дыяграмы прыбытковасьці лясоў паасобных лясьніцтваў, значэньне лясоў для сельскай гаспадаркі, прамысловасьці, транспорту, скарыстаньне ў лясной гаспадарцы вольных рук у беларускай вёсцы, значэньне лясных промыслаў і г. д.

Канчаць можна тым, што лясы ратавалі рэволюцыю, што лясы—схоўня вады і абараняюць глебу ад засушы, служаць для здароўя і прыгожасьці і г. д.

Такі паказ у музэях Беларусі лясоў краю дасьць поўную карціну значэньня лясоў у народнай гаспадарцы і будзе служыць штурхачом да вывучэньня іх, да ашчадных адносін з імі з боку шырокіх слаёў насельніцтва Беларусі, якія закліканы да ўздыму вытворчых сіл краіны і да павялічэньня гаспадарчай магутнасьці Рэспублікі.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**Ал. Немцаў.**

## ВЯСЕЛЬЛЕ.

**Запісана ў в. Смык-Слабада Зборскага сельсавету і в. Заручэўе Дзераўцоўскага сельсавету ў студзені-лютым 1927 г. — Асіпавіцкага раёну.**

Некаторыя тлумачэньні і мотывы песень запісаны са слоў наступных асоб: у в. *Смык-Слабадзе*: Налівайкі Параскевы—50 г., няпісьмен.; Налівайкі Хвёдара—25 г. і Налівайкі Янкі—21 г., малапісьм.; Налівайкі Матруны—13 г., Русаковіч Лізаветы—13 г. і Налівайкі Надзеі—13 г.— няпісьм.; Налівайкі Галены—15 г. і Налівайкі Агапы—15 г.,—пісьм.; у в. *Заручэўе:* Пышная Тацяна—50 г., няпісьм.; Пышны Ільля (скрыпач вясковы)—40 г., малапісьм,; Лiньнiк Галена—40 г., няпісьм; Ліньнік Мікола—45 г. малапісьм.; Пышны Гарасім—21 г., малапісьм.; Рудая Наста—16 г.; Ліньнік Ганна—13 г. і Клюйка Ганна—15 г.—няпісьменныя.

Шлюбны процэс складаецца з 4-х галоўных момантаў: 1) барыш, 2) запоіны, 3) змовіны і 4) вясельле.

Самым вялікім з іх зьяўляецца вясельле, якое распадаецца на некалькі частак: а) благаславенства, б) вянец, в) „госьцікі"—сваты ў маладой, г) каравай у маладой, д) пруданыя (пасаг), е) каравай у маладога.

За 2-3 м-цы да вясельля сваты з маладым ідуць для перамоў да бацькоў маладой і, у выпадку згоды, заядаюць і п'юць гарэлку, якую прыносіць з сабою малады. Гэта можа быць і за поўгода да вясельля. Утвораны акт называюць „запілі барышы"—высваталі дзеўку. Гутарка паміж гасьцямі і гаспадарамі носіць жартоўна-дзелавы характар; песень звычайна тутака не сьпяваюць.

„Заповіны" бываюць не раней, чымся за 2 тыдні да вясельля. Гэта ўжо ёсьць больш складаны акт. Малады разам з сватам прыходзяць да маладой і, калі ў іх ідзе ўсё згодна, склікае на гэтую справу сваякоў, а часам добра знаёмых суседзяў і суседак. Гарэлка грае і тут значную ролю, і наогул, без яе не абыходзіцца ніводнага больш-менш важнага зьявішча.

„Змовіны" бываюць за 3 дні да вясельля. Разам з сватам малады прыходзіць да маладой пагутарыць; гутарка носіць больш дзелавы характар, чымся раней.

Напярэдадні вясельля ў вечары па просьбе маладой да яе прыходзяць яе таварышкі, якія дапамагаюць маладой у падрыхтоўцы да вясельля. У вечары-ж прыяжджаюць музыкі адкуль-небудзь з бліжэйшых вёсак; іх павінен наймаць малады. У большасьці музык бывае 2: гарманіст і цымбаліст. Часам да іх далучаюцца скрыпка і барабан—гэта ўжо ў багацейшых, бо музыкі бяруць дорага: за вясельле 8—10 рублёў.

У вечары ў маладой адбываецца маленькая вечарынка—„паненскі вечар",—на якой закускі ня бывае; яна (вечарынка) абмяжоўваецца толькі скокамі.

Старых скокаў ужо не назіраецца; у вёску прапаўзьлі з гораду новыя танцы, назва якіх тутака абрабляецца пасвойму: „ду-стэп", „вангэрка", „сыбота" і інш. Праўда, калі ідуць у скокі старыя падвыпіўшыя бабкі, то яны звычайна скачуць „лявоніху".

У дзень вясельля ў маладога зранку зборы. Ужо з 9-10 гадзіны зьбіраецца народ; сярод гасьцей—„шафяры". У іх ідзе гутарка з сваякамі маладога; народу зьбіраецца ўсё больш і больш, у хаце цесна; сьпяваюць песьні.

1. Вой на дварэ ельнік-бярэзьнік паслаўся.
Малады (імя) Гараська ў дарогу сабраўся.
Яго татачка ў варот стаіць, не вяліць:
„Ня едзь, ня едзь мой-жа сыночак,—шляхота!
Да ты свае конікі патопіш,
Да ты свае дарагія шубы памочыш!"
— „Вой што-ж табе, татачка, да мяне? (аба мне)
У майго цёсьця зіялён явар на дварэ:
Пад яварам дарагя коні напасу,
На явары дарагія шубы (шубачкі) пасушу!"

## „Вой на дварэ"







2. Едзь, едзь, Гараська, не станавіся,
Пад вішанькай спаць не лажыся.
Уже-ж твая патрава да пылам прыпала?
Уже-ж твая Марылька да другому стала?
— Я сваю патраву да панакрываю,
Я сваю Марыльку між дзевак пазнаю:
У мае Марылькі па плечках коскі,
Па плечках коскі, пад вачыма сьлёзкі.
Па плечках коскі да парасьціталіся.
Пад вачыма сьлёзкі да паразьліваліся.
Па плечках коскі, як лён бяленькі
Пад вачыма сьлёзкі, як мак драбненькі.



3. Едзь, Гараська, ня стой, ня стой.—
У цябе конічак ня свой, ня свой,
Дарога караністая, Марылька ганарыстая!
— „Я дарогу раўніць буду,
Марыльку наравіць буду".
Дарога параўнілася—
Марылька знаравілася.

4. Разьвіўся раёчак
По край новых да вароцічак,
Хоча ён да палецяці
У шчырыя бары
На салодкія мяды
Да на жоўтыя саты (інакш—цьвяты).

Сабраўся Гараська
Са сваею да радзінаю.
Хоча ён паехаці,
Цесьця зваяваці,
Сабе Марыльку ўзяці.

Яго татачка ходзіць
Да Гараську просіць:
„Гараська, сыночак,
Не ваюйся вайною—
Прасі цесьця просьбаю,
Просьбаю—ня грозьбаю,
Ціхімі да паходамі,
Нізкімі да паклонамі.

На стале стаіць закуска: каўбасы, сала, блінчыкі, пячэньне свайго вырабу і гарэлка. Пасьля закускі—скокі; на прасторы 16—20 кв. арш. кружацца 8—10 пар; увесь час размовы гасьцей. У гэты час малады запрагае каня, каб ехаць да маладой, а адтуль—у царкву.

У маладой—чаканьне маладога; пры ёй „шафярыцы"—яны варaць, пякуць. Гэта-ж самае рабілася і напярэдадні; гучаць песьні:

1. Гаварыла бочачка,
У піўніцы стоячы:
„Калі вы мяне
Да ня вып'еце—
Я і сама разальлюся,
Па дварэ пакачуся
На дварэ расіцаю,
За вароты крыніцаю".

Гаварыла дзевачка:
„Татачка, мой родненькі,
Калі мяне дай ня выдасі—
Я і сама ад вас пайду—
На двор дзявіцаю,
За вароты—маладзіцаю.

2. Плавала вутка па моры хутка
Са сваімі вуцянятамі;
За ею, ею сівы сéлезень—
На крылцы наплывае:
„Пастой, вутачка, пастой, шэрая!
Што я табе за весьць скажу:
Быў я на моры, чуў я тры ўловы—
Таргуюць сеці на твае дзеці.
І на цябе, шэрую вутку;
Зловяць цябе, шэрую вутку,
Маладыя рыбаловы,
Да звараць цябе, шэрую вутку,
У паліваным гаршчочку.
Будуць цябе есьці, шэрую вутку,
Панянята-князянята!"

Ходзіць дзевачка па сваім двары
З сваіму дружачкамі;
За ею, ею малады хлопчык
На ножкі наступае:
„Пастой, Марылька, пастой, душачка,
Што я табе за весьць скажу:
Праз цябе, маладую,
Таргуюць чэпчык і наметачку
На тваю галовачку!"
— „Я чэпчык сарву, наметачку згарну
І з дзеўкамі ў танец пайду!"

— „Ці мяне ў таночак, ці мяне ў вяночак?
Ці мяне да дзевачак?
Дзевачкі ідуць, красачкі нясуць—
Яны мяне не прымаюць.
Малодкі ідуць, намёткі нясуць—
Яны мяне прыжыдаюць!"

3. Абуяла канапелечка
У агародзе стоячы,
Да ня даў ёй ветрычку
Шчэ-ж болей пабуяці,
Лісьцікамі памахаці
Да адбіў-жа лісточак
Да на жоўты пясочак.

Да й гуляла Марылечка
У свайго раднога таткі,
Да не даў ёй Гараська
Шчэ-ж болей пагуляці—
Да расплёў ёй коскі
Да разьліў ёй сьлёзкі.

„Абуяла канапелечка"




4. Хадзілі стральцы па полю
Да злавілі сівага лася ў гаросе;
Як зачула тая ласіца, што ў лузі,
Пакідала крутыя рогі пад ногі:
„Няхай мае крутыя рогі прападуць—
Куда майго сівага лася павядуць?"
Як зазьвянелі галасныя званы ў полі,
Як зачула маладая Марылька ў каморы—
— Сама пала сваёй маматцы на ногі:
„Няхай мае залатыя ключы прападуць—
Куды мяне ад роднай мамачкі павязуць?"

5. Што табе, дзевачка,
У мамкі надаела,
Што ты маладая
Замуж захацела?
У твайго таткі
Пірагі дай сладкі
А ў твайго сьвёкаркі

Хлеба недахваткі.
Поўныя засекі
Да кіёў насекі,
Да мякіну таўкуць
Да аладкі пякуць
Цыбульку смажуць
Да аладкі мажуць.

6. Сядзіць дзевачка за сталом,
Паклала ручачкі на столе.
„Белы мае ручачкі ў мамачкі,
А ці будуць белы ў сьвякрухі?
Ячную мякіну таўкач*ы*
Сырую пшаніцу мелюч*ы*?"

— Не тужы, дзевачка, не тужы—
Ячную мякіну сам стаўку,
Сырую пшаніцу сам зьмялю!

7. Бярэце, дзевачкі, венічкі,
Мяцеце вулачку з канца ў канец—
Будзе ехаць дзевачка пад вянец!
Забылася хустачкі, грабянца!
„Вярніся хлопчычак па хустачку, грабянец!“
„Я-ж табе, дзевачка, не пасланец.
Ё у цябе дружачкі-служачкі—
Яны табе пададуць хустачку, грабянец,
Яны цябе падвязуць пад вянец!“

8. Ці я табе, мамачка,
Не люба,
Што ты мяне пасылаеш
Да шлюба?
Ці я табе кашулькі
Ня мыла,
Ці я табе мамкаю
Ня звала
Ці я табе пасьцелькі
Ня слала?
— Ня слала пасьцелькі
-- Буду слаць;
Ня звала мамкаю —
Буду зваць;
Ня мыла кашулькі—
Буду мыць!
Памыю кашульку
Беленька
Пасьцялю пасьцельку
Мякенька;
Назаву мамачкай
Харашэнька!

Калі маладая сірата, пяюць песьні наступнага зьместу:

9. Пазнаць Марыльку
Па вясельлячку,
Што Марылька
Сіраціна.
Яе двор вялік,
А збор не вялік—
Ня ўся яе
Радзіначка
Паслаў-б я
Салавеечку
На Украіну
Па радзіну.
Салавей ляціць—
Не далятае;
А кукулечка—
На магілачцы,
З мамкай
Размаўляе:
„Рада-б я устаці
К свайму дзіцяці,
Парадачак паказаці,
Калі мая душачка
Пад трыма замкамі:
Першы замок—
Зялёны дзярночак;
Другі замочак—
Жоўты пясочак;
Трэці замочак—
Цясовыя дошкі!“

10. Нешта ў лесе памалюсеньку гукае—
Там Марылька свайго татачку шукае.
Хоць ты шукай, хоць ты ня шукай—ня знойдзеш.
— Твой татачка на Украінцы—далёка,
У сырой зямлі, у жоўтым пясочку—глыбока!
Павей, павей, буян-вецер, з даліны,
Узьвей, узьвей (іздуй, іздуй) жоўты пясочак з магілы,
Пабі, божа, цясовыя дошкі на крошкі,
Пастаў, божа, майго татачку на ножкі.
— Хоць ты стаўляй, хоць не стаўляй—ня стане!

Увесь час ідзе ў яе падрыхтоўка—пякуць, вараць; калі месяць теста на каравай, пяюць:

Каравайніцы з места
Да пакралі ўсё цеста—
Хто ў мех, хто ў карманы—
Ды дзевачкам на падманы,
Хто ў мех, хто ў кішэні –
Сваім дзецям на вячоры.

(Гэтая песьня сьпяваецца на мотыў песьні: „Як у нашага свата“—глядзі ў канцы).

---

Сабраўся малады; з ім увесь час яго родная сястра (або дзьве). Прысутнасьць сястры маладога абавязкова; калі ў маладога няма з радні сясьцёр—іх (або яе) замяняе чужая дзяўчына. Перад ад‘ездам усе ўстаюць з-за стала; апошні адцягваюць ад сьценак. Сват (хрэсны бацька

звычайна) абводзіць за руку ўсіх навокал стала 3 разы; за рукі бяруцца праз хусткі. За апошнім разам малады цалуе абраз. Сват, зварочваючыся да сваякоў, кажа: „Благаславі айцец, маці і добрыя людзі!“ на што яму адказваюць: „Бог благаславіць!“—гэты зваротак паўтараецца 3 разы—пасьля кожнага абходу. Далей сват бярэ маладога за руку і выводзіць яго на двор; ля дзьвярэй два сваякі, узяўшы хлябы ў рукі і падняўшы іх угару, прапускаюць маладога і шафяроў. Як толькі апошнія пройдуць такім чынам праз першыя і другія дзьверы—хлябы здымаюць.

Раней перад вянцом у хаце маладога ставілі пустую дзяжу, якую засьцілалі абрусам альбо новым палатном, садзілі маладога на дзяжу, ставілі каля яго тры зьвязаныя сьвечкі (чырвонай стужкай) і запальвалі іх; потым абводзілі навокал маладога сьвечкі і трошкі падпальвалі яго валасы. Пасьля гэтага яго адпраўлялі да маладой (кажуць, што ў Пратасэвічах—(вымаўляюць таксама „Прадасэвічы“, „Праташэвічы“)—гэтак і цяпер робяць).

Малады садзіцца ў павозку, з ім побач—сястра і шафары; на другім кані—музыкі. Едуць да маладой; туды-ж накіроўваецца і ўвесь народ з яго хаты.

Як толькі прыедзе малады—маладую пачынаюць адзяваць. Малады адразу ідзе ў хату; тамака яго садзяць за стол, на якім ёсьць закуска і гарэлка. На самым куце садзяць яго сястру, па яе левую руку малады; па правую—сваты. Ад яго ўлева—шафяры. Супроць маладога—цераз стол—пакідаюць месца для маладой.

Пачынаюць есьці; першы п‘е старшы сват маладога. На сватох ляжыць увесь час абавязак распарадку—яны зьяўляюцца галоўнымі кіраўнікамі вясельля.

Астачу з чаркі, якая бывае адна і абыходзіць усіх, сват вылівае за плячо і кажа: „хай нашыя маладыя так жывуць і падскакваюць!“

Пасьля старшага свата чарка ідзе ўлева—да сястры маладога, да яго самога і г. д. Выпіць трэба абавязкова і ў крайнім выпадку—прыгубіць. За сталом сядзяць усе яе сваякі; з боку маладога нікога няма.

У бедных сялян ядуць звычайна рукамі—няма відэльцаў, лыжак. З закускі ставяць: каўбасы, сала, мяса ва́ранае, сьвініну; хлеб бывае зьверху з узорамі (зроблены шклянкамі і чаркамі).

П‘юць і ядуць да таго часу, пакуль ня прыйдзе маладая; яе прыводзіць за руку „заводніца“. Заводніца бывае „дзядзіна“ (жонка дзядзі) або кума.

Калі „бяседа“ ўселася за сталом, маладая з заводніцай ідзе ў другое памяшканьне, дзе адзяюць маладую; тутака заводніца рэжа ручнікі не нажнічкамі, а нажом—свату (хр. бацьку), бацьку маладога, рыхтуе пояс з воўны і хустачку (якую мае—кашаміравую або паркалёвую). Заводніца, трымаючы на далоні левай рукі хлеб, пояс і хустку (маладому), правай рукой вядзе маладую ў пакой, дзе знаходзіцца „бяседа“. Звычайна яна нясе падарункі і музыкам—кожнаму па ручніку.

Маладую садзяць за стол са словамі заводніцы: „Благаславі, айцец, маці і добрыя людзі“, на што сват адказвае: „Бог благаславіць!“

Старшая шафярыца прышывае кветкі—спачатку маладой, а потым маладому; кожная малодшая шафярыца робіць тое самае з сваім шаферам.

Пасьля гэтага маладой даюць піць і есьці (бывае, што даюць і раней).

Калі з вясельлем пасьпяшаюць, дык за сталом доўга не сядзяць.

Маладая абыходзіць стол 3 разы таксама як і малады ў сваёй хаце—з тым-жа звароткам да бяседы; пасьля гэтага кланяецца сваёй матцы, бацьку, усім родным—у гэты час яе хрэсьцяць.

Калі адзяюць маладой вянок—пяюць:

Бедавала Марылька, бедавала,
Што зараньня зімачка напала,
Сьняжком рутачка прыпала—
Не з чага маладзе вянка зьвіць.
Як зачуў яе Гараська:
„Не бядуй, Марылька, не бядуй,
Я ўчара на торгу пабываў,
Я табе вяночак старгаваў—
Хоць не руцьмяны—папяровы,
На тваю галоўку гатовы!“

Маладыя садзяцца на коняй; праз увесь двор каня маладога вядзе сват, які ў руцэ трымае „пірог“ (хлеб) на „веку“ (крышка ад дзяжы); века зьверху пакрыта надзежнікам. (Бывае, што першая выяжджае маладая). Калі выяжджаюць з двара, дык маладая (або яе матка) сыпле жыта.

Па дарозе ў царкву маладая стараецца абагнаць маладога; кажуць, што хто абгоне—таго ў жыцьці „будзе верх“. Але-ж конь у маладога добры; у лепшым выпадку маладая застаецца ззаду; у горшым—вывернецца.

На зваротным з царквы шляху маладых у кожнай вёсцы, праз якую яны праяжджаюць, спыняюць у „вешніцы“—ставяць стол, аздоблены кветкамі, на стале хлеб, пасыпаны сольлю, і шклянка, поўная вады—„каб жыцьцё іх было поўнае“. Малады павінен даць выкуп „гасьцінец“—цукеркі; калі няма, дык грошы; грошы даюцца таму, хто прымушае—звычайна моладзі.

У сваёй вёсцы маладога таксама затрымліваюць—ён павінен плаціць выкуп; бывае так, што пакуль ён даедзе да сваёй вёскі—яму ўжо няма чым плаціць. Звычайна малады выкупаецца цукеркамі.

Пасьля выкупу ў сваёй вёсцы, маладыя пад‘яжджаюць да ганку маладой.

Раней маладых спынялі каля варот хаты маладой і ён павінен даць бутэльку гарэлкі таму, хто зачыняе вароты. Пакуль маладая аправіцца, маладога затрымлівалі ля ганку. Маладую-ж у хаце садзілі на лаўку перад сталом, а стол ставілі перад печчу. Лаўку пакрывалі кажухом, а галаву маладухі—белай паркалёвай хусткай. У гэты час госьці стаяць на ганку; дзяўчаты сьпяваюць:

Ня плача, ня плача,
Наша Марылька—
От даць ей памачу—
Горкае цыбулі пад вочы.

Малады з павозкі павінен адразу стаць на дзяжу; калі ён перашагне—гэта адзнака яго нячэснасьці.

Усіх гасьцей пускаюць у хату. Сват нясе падарунак—намётку або на вопратку (гэта падарунак маладога) і кладзе перад маладой са словамі „Добры вечар“. Пры гэтых словах маладая павінна адкрыцца. Пасьля гэтага бацька маладога зазывае: „Прашу, госьцікі, за стол!“—усе садзяцца за стол, і пачынаецца баляваньне. За сталом шаферкі (або чужыя) пяюць:

„Дай, свацьця, пірага,
Бо вазьмём вала за рага,
Сівую кабылку за грыўку“

або:

„Сядзіць свацьця на елі,
Распусьціла калені.
Сядзіць свацьця на вульлі—
Пад ёй пчолкі“

або:

„Сядзіць свацьця—
Моршчыцца,
З кішэні пірог
Тоpчыцца“.

На гэта свацьця адпявае:

„У першае дружкі
Цыцкі, як падушкі;
У другое дружкі
Цыцкі, як мандушкі“.

Урэшце свацьця дае пірага таму, хто сьпяваў.

Ля ганку ўжо падрыхтаваны стол—аздоблены кветкамі (улетку—жывымі, узімку—з стружак або паперы). На стале—хлеб, соль, гарэлка і мёд (або цукер). Маладыя адразу зьлязаюць на падушку перад сталом; падушка пакрыта абрусам.

*Раней* маладая павінна была стаць на дзяжу (значэньне тое самае, што і для маладога). Усяго яна павінна была праходзіць цераз дзяжу 3 разы: 1) перад вянцом, 2) пасьля прыезду з-пад вянца і 3) калі пераяжджае ў хату маладога.

Калі маці маладой удава альбо за ўдаўцом—яна не павінна сустракаць маладых; гэтую ролю выконвае „хросная“ альбо яшчэ якаянебудзь жанчына не ўдава. Матка (альбо намесьніца) дае маладым мёду па маленькай лыжачцы—спачатку дачцы, потым яму—па 3 разы кожнаму; потым налівае сабе чарку гарэлкі і са словамі: „Будзьце здаровы“, на што маладыя адказваюць: „Пійця на здароўе!“—выпівае, зноў налівае дачцы, потым сабе,—яму—сабе—ёй—сабе і г. д., кожнаму 3 разы; кожны з іх, не дапіўшы, вылівае астачу праз плячо назад. Пры ўваходзе ў хату дзяўчаты ўлетку абсыпаюць маладых кветкамі; узімку—парэзанай афарбаванай паперай.

Маладыя садзяцца за стол і пачынаецца баляваньне, пасьля—скокі. Тутака прысутнічаюць толькі сваякі маладой і яе госьці.

У гэты час у хаце маладога зьбіраюцца яго госьці. З хаты маладой сюды накіроўваецца пасланец па сваякоў і гасьцей маладога; калі госьці ня ідуць—малады сам ідзе па іх. Усе пераходзяць у хату маладой—у гэты час яе сваякі і госьці выходзяць.

Новая зьмена садзіцца за стол; кіруе ўсім сват яго. Паміж сватам і бацькам маладога адбываецца пікіроўка, напр., сват: „Глядзі—госьці, галадаюць!“ або „Ты ня маеш права са мной разгаварваць!“—на што бацька маладой адказвае: „Прашу, госьцікі, пійця і прабачайце на большае!“ Калі гаспадар у дастатку—ён усё дае; калі скупы—замоўкне.

Паеўшы і выпіўшы, уся зьмена ідзе ў хату маладога; зноў прыходзяць госьці маладой—і зноў цягнуцца размовы, выпіўка, скокі...

### На другі дзень.

У першую ноч маладым у яе хаце ложка ня рыхтуюць; маладыя сьпяць, дзе прыдзецца (як і госьці): на падлозе, на возе і г. д. Частка разыходзіцца па акаляючых хатах, дзе і праводзіць астачу ночы.

Зранку ўсіх гасьцей зазывае да маладой сват яе. У гэты-ж час у хату маладой прыходзяць сваты з некаторымі гасьцямі маладога; іх сустракаюць клікамі: „Гэта-ж хто прышоў?—Гэта-ж зладзеі!“ „Яны што-

небудзь украдуць!“ На гэта сват маладога адказвае: „Цяпер мая сіла—усё возьмем!“—„Нук што-ж—здадомся ў палон!“

У двары ў некаторых мясцох у гэты час робяць з саломы каня, на якім павязуць свата, калі маладыя будуць пераяжджаць да яго. Каня стараюцца ўкрасьці госьці з дому маладога; тутака бывае многа схватак, жартаў і сьмеху.

У хаце ў час прыходу сватоў маладога сьпяваюць песьні.

1. Мы думалі, што сватоў мала,
Аж іх поўная лава.
Як селі—сьвіньні зьелі
З семярымі парасятамі,
Ды кабылу з жарабятамі.
На стале—ні крошачкі,
Пад сталом—ні костачкі!

2. Нашы сваткі не́мы,
Грэцкую муку елі;
Мукою папыліліся
Лускою падавіліся.

Перад адправай у яго дом, у маладой бывае „каравай“. Гэта ёсьць белы хлеб, аздоблены зьверху маленькімі булачкамі, формы чатырохкутнай. Калі прыносяць каравай, сват маладога ўстае з-за стала і мые рукі потым просіць, каб далі ручнік выцерці рукі; гэтым ручніком яго зьвязваюць праз правае плячо пад левую руку; бывае і так, што тутака яму дараць пояс або паркалёвай матэры, якой таксама зьвязваюць.

Спачатку сват выразае вярхушку каравая і дае маладым; потым рэжа яго на часткі і заклікае гасьцей „купіць каравай“. Першымі каравай закупаюць яе бацкі—кладуць грошы і хлеб, за імі ідуць сваякі. Пры гэтым кожны гаворыць якое-небудзь пажаданьне, напрыклад: „Дару вам медзі, каб былі дзеці, як мядзьведзі!“, „Дару шчасьцем і доляй, як і людзей добрых, хлебам і сольлю!“ „Дару шчасьця, долі і белага сыру і да году сына!“ „Дару вам шчасьця долю і дубовы пень, каб любіліся ноч і дзень!“ „Дару вам шчасьця, долю, жыта мерку і дачку піонэрку!“ (з новых).

Звычайна кладуць на талерку грошы, а іншыя палатно; атрымаўшы кавалак караваю кожны павінен выпіць чарку гарэлкі. Пры раздачы каравая заўважваецца такі выпадак. Звычайна грашыма даруюць маладую ўсе прысутныя, у тым ліку і дзеці. Пасьля каравая, дзеці, як і дарослыя, атрымоўваюць, п‘юць гарэлку з чаркі. Праз кароткі час, карыстаючыся тым, што сват не заўважыў яго ў твар, бо народу шмат—гэтый-жа хлапец важна кладзе на талерку капейку або дзьве. Зноў выпівае чарку—і так пасьпявае абярнуцца некалькі разоў. Такім чынам, дзеці змаленства прывучаюцца піць гарэлку. Сярод іх сустракаюцца і сямігадовыя. Калі дзіцё на руках у маткі, дык яму іншы раз даюць прыгубіць, а рэшту выпівае матка. Каравай скончыўся; трэба рыхтавацца да ад‘езду к маладому. Госьці падымаюць свата на „ўра“, качаюць яго, пытаючыся: „Мокра ці суха?“. Калі сват адказвае „Суха“, дык яго зноў качаюць, пакуль ён ня скажа „Мокра!“—тады ён павінен паставіць бутэльку гарэлкі тым, хто яго качаў.

Маладая бярэ з сабою пасьцель, якую павінен спачатку выкупіць малады. Маці садзіцца на ложак і паміж ёю і зяцем пачынаецца торг; у канцы малады плаціць грошы і гарэлку. Усе пасьцельныя прылады—падушкі, посьцілкі, коўдру—забіраюцца на воз, на які малады садзіцца з маладой; апошняя бярэ вобраз і падарунак сьвякрусе—і накіроўваюцца

ў хату маладога. Сваты і дружкі маладога стараюцца ўкрасьці і ўвезьці з сабою нажы, відэльцы і лыжкі.

Уперадзе ўжо паехалі музыканты.

Ля варот маладога каня спыняюць—зноў трэба плаціць выкуп. Тутака пастаўлена бочка бяз дна і крышкі—у сярэдзіне салома, якую запальваюць. Калі пад'яжджаюць да варот, дык малады кідае хлеб праз каня, гэты хлеб падбірае публіка. Побач з бочкай ставяць стол, на якім ляжаць розныя рэчы: малаток, стары бот і інш. Некаторыя ўбіраюцца паляўнічымі і, прычапіўшы з боку курыцу, злоўленую ў двары маладога, сустракаюць абоз стрэламі.

Пачынаецца торг; калі не старгуюцца—напіраюць на вароты, якія трашчаць, ляцяць—і ўся ватага з маладымі на возе ўрываецца ў двор і аказваецца перад сталом, на якім ляжыць хлеб, соль і цукер.

Музыкі граюць вітаньне. Першую чарку выпівае маці „да свайго сына"; потым дае маладой гарэлку, закусваюць цукрам.

Бяседа сьпявае:

Пайду я замуж
Ды даведаюся—
Калі добра будзе,
Дык я нажывуся;
А калі пагана,
Дык назад вярнуся,
Я ў свайго татачкі
Служыць наймуся:
Прымі мяне, татачка,
Да хаця і з хлебам!
„Ты-ж мяне, дзіцятка,
Цяпер ня трэба".

Маладых вядуць у хату. Тутака маладая дарыць падарункі маці—палатна „на стан" (бялізну), намётку (раней), сёстрам маладога (хусткі), братом (паясы).

Праз некаторы час вязуць яе прыданае ў куфры; паперадзе—калі вясельле бывае ў аднэй вёсцы—едзе на саламяным кані сват.

Ля ганку куфар затрымліваюць, і пачынаецца выкуп пасагу: з аднаго боку—малады, з другога—брат маладой, які сядзіць на возе, а з ім садзіцца на воз многа людзей.

У гэты час бяседа сьпявае песьню наступнага зьместу:



Як у нашага свата
Да ні клеці, ні павеці—
Недзе куфра дзеці.
Ды паставім пад страхою
Ды накрыем бараною—
Тут яму векаваць,
А Гараську пільнаваць!“

Калі не паладзяць, дык куфар вязуць назад; тады ўжо за ім едзе малады.

Урэшце малады плаціць выкуп—грошы, якія ідуць на карысьць брата маладухі. У гэты час сьпяваюць у двары:

Падзякума свату,
Што просіць у хату
На мёд, на гарэлку,
На салодкае піва,
На харошае дзіва“.

Куфар цягнуць у сенцы, усе накіроўваюцца ў хату. У хаце сваха засьцілае сталы сваімі абрусамі, на вобразы новыя ручнікі: свахі сьпяваюць:

Прымайце пяньковіцы—
Засьцелем бяльлевіцы;
Прымайце бяльлевіцы—
Засьцелем шаўкавіцы!

Наступнае апошняе дзеяньне: каравай у маладога. Дзеляць яго перад ад'ездам сваякоў маладой; адбываецца ён таксама, як і ў маладой. Госьці гуляюць увесь вечар; музыка грыміць то польку, то вальс.

Сьпяць, дзе прыдзецца; назаўтра апахмяляюцца... Пры ад'езьдзе сваякоў маладой яны сьпяваюць:

Ох вы, свашачкі, ох вы, пташачкі,
Просім вас,
Каб не было нашаму дзіцяці
Ганьбы ў вас,
Каб не стаяла цёмныя ночы
Пад вакном,
Каб не ўцірала горькіх сьлёзачак
Рукавом.
Каб не была певетачка
Хатачкай,
Каб не была суседачка
Мамачкай,
Паветачка—ня цёплая хатачка,
Суседачка—ня родная мамачка!

Маладыя ўступаюць у новае жыцьцё.

# Праграмы, анкеты і інструкцыі.

Проф. М Бурштэйн.

## Фэнолёгічныя нагляданьні ў садоўніцтве.

Ужо з даўняй пары карыстаюцца надворнымі прыметамі і асобнымі зьявішчамі ў жыцьці расьлін для таго, каб мець некаторы погляд на мясцовы клімат.

Каляндар зацьвітаньня нашай флёры зьяўляецца найбольш цікавым і агульнадаступным. Рэгулярныя нагляданьні за рознастайнымі расьлінамі ў розных мясцовасьцях стварылі так званую расьлінную фэнолёгію. Гэтым разумеюць пэрыодычныя зьявішчы ў жыцьці расьлін, якія падлягаюць уплыву клімату, дамагаюцца вывучаць разьвіцьцё расьлін у сувязі з асаблівасьцямі данай ваколіцы (у сувязі з глебай, рэльефам і г. д.).

Калі кожны год адзначаць асобныя фазы разьвіцьця, напрыклад, азначанага сорту яблыні, ігрушы і г. д. (расчыненьне пучкоў, пачатак зацьвітаньня, дасьпяваньне пладоў, лістапад), дык у выніку шматгадовых сталых запісаў можна будзе атрымаць цікавыя веды аб кліматычных асаблівасьцях сваёй мясцовасьці і зрабіць належныя вывады. Масавыя фэнолёгічныя нагляданьні ў розных мясцовасьцях за многа гадоў паводле аднолькавага пляну дадуць магчымасьць выявіць асаблівасьці нашых раёнаў, больш глыбака пазнаць іх, даведацца, як адчуваюць сябе нашы сарты ў розных раёнах, і г. д.

Фэнолёгія, як маладая галіна прыродазнаўства, знаходзіцца на мяжы паміж біолёгіяй і кліматолёгіяй. Лепшай прыладай для назіраньня зьяўляецца тутака расьліна. У пладаўніцтве нагляданьне за развіцьцём фаз паасобных сартоў за многа гадоў дае магчымасьць зрабіць належныя вынікі аб прыстасаваньні тае ці іншае пароды да мясцовых варункаў.

Больш значны ўплыў на пашырэньне кожнага сорту пладоў мае клімат і глеба.

Рознастайныя глебы—як пескавыя, гліністыя і г. д., з добрай, або наадварот, дрэннай падглебай, з сонечным нахілам і г. д.—усё гэта адбіваецца на вэгэтацыйныя фазы разьвіцьця пладовага дрэва. Мы ведаем сарты яблынь, якія сябе добра адчуваюць на цяжкіх глебах і іншыя сарты лепш удаюцца на пескавых. Вішнёвыя пасадкі прыстасоўваюцца да глеб значным атрыманьнем вапны.

У межах БССР фэнолёгічныя нагляданьні па садоўніцтве вяліся ў нязначным маштабе. Калі прыходзіцца набыць некаторыя матар‘ялы за шэраг гадоў, дык яны маюць вельмі значную навуковую вартасьць.

Адзначым, што вялікі скарб у гэтым кірунку мы знайшлі ў селяніна з Лепельшчыны Я. К. Мароза, які нам ласкава падаў матар‘ялы адносна пачатку зацьвітаньня пладовых парод у сваім садзе за пэрыод з 1892 г. да 1924 году.

Пачатак зацьвітаньня пладовых парод у гасп. „Фатынь“ Я. Мароза:

| Год | Чарэшня | Ігруша | Яблыня | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1892 | 12/IV | — | 22/V | |
| 1893 | 25/V | 30/V | 1/VI | |
| 1898 | 16/V | — | — | |
| 1899 | 13/V | — | — | |
| 1900 | 24/V | — | — | |
| 1902 | 29/V | — | 7 VI | |
| 1904 | 10/V | 20/V | — | |
| 1906 | 5 VI | — | 1/VI | (у поўным зацьвіт.). |
| 1908 | — | — | 30/V | (у поўным зацьвіт.). |
| 1909 | 30/V | — | 2/VI | |
| 1911 | 8/V | 11/V | 14 V | |
| 1912 | 24/V | 25/V | 28/V | |
| 1913 | — | — | 18/V | |
| 1914 | 7/V | 14/V | 17/V | |
| 1915 | 14/V | 18/V | 25/V | |
| 1916 | 6/V | 8/V | 10/V | |
| 1917 | 25/V | 27/V | 29/V | |
| 1918 | 30/IV | 14/V | 17/V | |
| 1920 | 26/IV | 3/V | 6 V | |
| 1921 | 23/IV | 27/IV | — | |
| 1922 | 19/V | — | — | |
| 1923 | 14/V | — | — | |
| 1924 | 20/V | 23/V | 26/V | |

Наогул, за шмат гадоў у сярэднім пачатак зацьвітаньня яблынь выпадае ў Лепельшчыне на другую палову траўня, і толькі ў выключныя гады, як у 1916 г., яблыні пачалі цьвісьці 10 траўня. А калі заўважыць, што, згодна матар‘ялаў мэтэоролёгічнай станцыі ў Каралеве (каля Віцебску), у сярэднім за многа гадоў канчатак позьніх прымаразкаў выпадае на 2 траўня, дык можна ўцяміць, чаму мы пазбаўлены шкоднага ўплыву сьцюжы на цьвітучыя пладовыя дрэвы.

Пры дасьледваньні гасп. „Фатынь“ мы выпадкова зьвярнулі ўвагу на дзьверы ў каморцы, на якіх мы знайшлі запісы Я. Мароза аб пары пасьпяваньня розных ягад.

Пара пасьпяваньня ягад у гасп. „Фатынь“:

| Назва расьлін | 1906 | 1907 | 1908 | 1909 | 1910 | 1911 | 1912 | 1913 | 1914 | 1915 | 1916 | 1917 | 1918 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чарэшня майская | 5/VII | — | 8/VII | — | — | — | — | 26/VII | — | 25/VI | — | — | — |
| Вішня Уладзімерск. | 30/VII | 28/VII | — | — | 15/VII | — | — | — | — | 29/VII | — | — | — |
| Морэль ранньняя (вішня) | — | 5/VII | 15/VII | 20/VII | 20/VI | 1/VII | — | — | — | 5/VII | — | — | 8/VII |
| Чарэшня белая | — | — | 15 VII | 2/VII | — | 8/VII | — | 10/VII | — | — | — | — | — |
| Суніца садовая (клубніцы) | 1/VII | 28/VI | 15-30 VII | 4/VII | 3/VI | 20/VI | 20/VI | — | 10/VI | — | 26/VI | 20/VI | — |
| Маліна | 25/VII | 25/VII | 15/VII | 5-10 VII | 15-20 VII | 28/VII | 10 VII | — | 1/VII | — | — | — | — |
| Парэчкі чорн. | — | 11/VII | — | — | 25/VI | 15/VII | 12/VII | — | 1-5 VII | 9/VII | — | — | — |
| Агрэст | — | — | — | — | — | — | 22/VII | — | — | — | — | — | — |

Сяляне-дасьледчыкі маюць вялікую практыку ў назіраньні за асаблівасьцю разьвіцьця расьлін, жывёлы і г. д. На жаль, не запісваюць сваіх назіраньняў. У восені 1926 г. нам давялося пазнаёміцца з садовай гаспадаркай выдатнага дасьледчыка селяніна А. Сыцько ў Капаткевіцкім раёне Мазырскае акругі. На жаль, сталыя запісы не рабіліся.

Па пытаньні аб зацьвітаньні пладовых дрэў А. Сыцько даводзіць наступнае: „Чарэшні ў нашым (Капаткевіцкім) раёне зацьвітаюць 7—8 гадоў з дзесяці ў пару з 23 па 25 красавіка. Трапляецца 2-3 гады, калі тэрмін выпадае паміж 28 красавіка і 1 траўня. Вішні далікатных сартоў зацьвітаюць на 2-3 дні пазьней, як чарэшні, а дзікія вішні яшчэ пазьней (ад прышчэпленых) на 4-5 дзён. Ігрушы некаторых сартоў, як, напрыклад, Ільлінка, Бутэльнах і інш., пачынаюць цьвісьці пасьля адцьвітаньня дзікіх вішань. Значны лік сартоў ігруш цьвіце 9-10 траўня. Што да яблынь, дык яны ў нашым раёне пачынаюць цьвісьці пасьля ігруш... Вэгэтацыя пладовых дрэў цягнецца ў восені ў Мазыршчыне пазьней, як у паўночнай Беларусі.

Вялікая вартасьць фэнолёгічных запісаў відавочна. Граматны, культурны дзеяч жыве і працуе дзесяткі год, наглядае прыроду, шмат чаго бярэ з крыніц яе і нарэшце—ніводнага запісу ні малюнку, якая страта для навукі, для краю, калі сотні і тысячы культурных дзеячоў—сялян, настаўнікаў, рабочых і г. д.—уносяць з сабой у вечнасьць каштоўныя нагляданьні за прыродай. Наша жыцьцё сярод палёў, лясоў, балот вымагае шмат упартасьці, працы, але трэба пазнаць тую сілу, з якой змагаемся, каб перамагчы яе, каб пералажыць марудную працу людзей на жалезны карк машыны. Гэтую еднасьць мы павінны знайсьці ў краязнаўчай працы мясцовых таварыстваў, сел.-гасп. гурткоў і г. д.

У 1907 г. у Нямеччыне таварыства сельск. гаспадаркі і садоўніцтва ў Нассау надрукавала працу: Пладовы сортымэнт дзяржаўн. акругі Вісбадэн. У гэтай працы ўпяршыню (нават для Нямеччыны) фэнолёгія прыстасавана ў кірунку пладоўніцтва. Пры гэтым творы ёсьць карта, па якой можна лёгка азнаёміцца з становішчам пладоўніцтва краіны. Акруга Вісбадэн падзелена на кліматычна-фэнолёгічныя раёны і для кожнай зоны вызначаны розныя пладовыя пароды і сарты, якія адпавядаюць мясцовым умовам.

Трэба пажадаць, каб нашы краязнаўчыя таварыствы зьвярнулі ўвагу на важнасьць для краю рэгулярных фэнолёгічных нагляданьняў і, у прыватнасьці, для садоўніцтва.

Трэба, каб у будучыні ня згінуў ніводны сэзон, ніводны год вытворчай працы сьвядомых працаўнікоў, якія ў нашых абшарах стварылі-б сотні дасьледчых фэнолёгічных станцый.

Тады толькі можам быць упэўнены, што праз 10—20 год агульнай працы краязнаўчых таварystваў мы здолеем стварыць вялікую навуковую працу—выпусьціць фэнолёгічную карту і, у прыватнасьці, помолёгічнае, глебава-кліматычнае апісаньне пладовага сортымэнту, адпавядаючае патрэбам кожнага раёну.

## ПРОГРАМА.

Нагляданьні зацьвітаньня пладовых дрэў у .................. .................. садзе, раёну .............................. акругі ..............................

Прозьвішча наглядальніка.

Для нагляданьня зацьвітаньня пладовых парод абіраюцца дрэвы, па магчымасьці, аднолькавага ўзросту, па аднолькавых дзічкох-падвоях

па 5—8 шт. аднага сорту з найбольш каштоўных у мясцовасьці. Пажадана, каб абмежаваны лік дрэў аднаго сорту быў узят у межах аднолькавага рэльефу, глебы і іншых умовах гаспадаркі. Пры апрацоўцы матар'ялу пажадана апісаць: які дагляд за садам, узрост дрэў, апрацоўка глебы, угнаеньне і ці вядзецца барацьба са шкоднікамі.

Калі магчыма, дык пажадана апісаць, якая тэмпэратура была ў пару зацьвітаньня, колькасьць вопадзяй і наогул становішча паветра.

Падкрэсьлім, што ў паўднёвых схілах і наогул з поўдню зацьвітаньне і інш. процэсы пачынаюцца раней, што неабходна занатаваць.

Наглядальніку трэба адзначыць наступныя моманты:

1. Пачатак вэгэтацыі дрэў у сартоў, якія наглядаюцца.
2. Пачатак расчыненьня кветкавых пучкоў.
3. Пачатак расчыненьня лісьцёвых пучкоў.
4. Пачатак зацьвітаньня.
5. Разгар зацьвітаньня.
6. Канчатак зацьвітаньня.

Па кожным пункце падаем наступнае азначэньне зьяў, якія падлягаюць рэгістраваньню.

1. Пачатак вэгэтацыі, або пачатак росту азначаецца прыметным павялічэньнем пучкоў і пачаткам руху пучковых лусак, з-пад якіх выяўляецца паверхня, якая раней была прычынена, дзеля чаго яна і будзе больш яснага колеру.

2 і 3. Пачатак расчыненьня лісьцёвых і кветкавых пучкоў азначаецца тым, што пучковыя лусачкі адыходзяць адна ад аднэй і выяўляюцца або квёткавыя зачыненыя пучкі, або зялёнае лісьцё (кветкавыя пучкі заўсёды значна буйнейшыя, як лісьцёвыя).

4. Пачатак зацьвітаньня, калі настае разьядналньне на вяршыні пучка такім чынам, што адчынен увахад да тычачак і рыльца слупка; пялёсткі часам нават не адгінаюцца ўбок і маюць выгляд трубкі.

5. Разгар зацьвітаньня, калі на дрэве больш 50% расчыненых кветак.

6. Канчатак зацьвітаньня, калі слупкі робяцца бурымі і пачынаецца ападаньне пялёстак.

*Увага:* За тлумачэньнямі больш падрабязнымі можна зьвяртацца да Горацкай Садовай Дасьледчай Станцыі, Горкі Аршанскай акругі.

---

# Пастаноўка фэнолёгічных нагляданьняў у Гомельшчыне.

*(З матар'ялаў II Ўсебеларускага Зьезду).*

У інтарэсах паглыбленьня працы па фэнолёгічных назіраньнях і выяўленьня іх сувязі з кліматычнымі ўмовамі Гомельскае Бюро Краязнаўства прапанавала гуртком кіравацца програмаю, выпрацаванаю пры ўдзеле членаў „Гомельского Отделения Общества распространения естественно-исторических знаний“ у замен вузорнай програмы, надрукаванай у выпуску 4-ым зборніку „Народное Просвещение в Гомельской губернии“.

Прапануючы новую програму, Бюро ставіла сабе наступныя мэты:

1) Паказаць навочна сувязь кліматычных зьяў з фэнолёгічнымі і біолёгічнымі, а таксама з цыклем гаспадарчых работ.

2) На падставе паступовага і бесьперарыўнага назапашваньня матар'ялу і яго далейшай апрацоўкі даць магчымасьць скласьці для раёну і школы (або раёну працы гуртка) „Мясцовы каляндар прыроды“ і „Каляндар гаспадарчых работ“.

3) Апрацоўкаю ў цэнтры матар'ялу, які атрымоўваецца з месц (у копіях), скласьці падобныя календары для раёну акругі.

4) Даць неабходны матар'ял вышэйшым навуковым установам па пытаньнях, якія іх цікавяць у гэтых галінах.

Пры належнай пастаноўцы працы на мясцох, гэта зн. рэгулярнасьці назіраньняў і правільным разьмеркаваньні працы сярод членаў гуртка натуралістых (або адпаведнай сэкцыі гуртка краязнаўства), невялікая програма, якая прапануецца Бюро, можа быць з посьпехам выпаўнена, што дасьць магчымасьць усім назіральнікам прыняць удзел у грамадзка-карыснай працы.

З прычыны таго, што поўная зводка фэнолёгічных назіраньняў для акругі можа быць зроблена толькі шляхам параўнаньня матар'ялаў, сабраных на мясцох, бюро зьвярталася да ўсіх назіральнікаў з просьбаю пасылаць яму копіі табліц па сканчэньні кожнага месяца.

---

# ПРОГРАМА

## фэнолёгічных назіраньняў для Гомельшчыны.

### 1. Назіраньні над сьнегавым насьцілам і некаторымі мэтэоролёгічнымі зьявамі ў прыродзе.

Зьяўленьне ледзяной скарынкі на сьнегавым насьціле (шарпак). Першыя прапаліны на палёх. Колцавыя прапаліны наўкола дрэў. Першыя веснавыя ручайкі. Зьяўленьне вады на лёдзе ў вадаёмах, рэках, сажалках і інш. Расставаньне лёду ад берагоў. Вызваленьне палёў ад сьнегу. Пачатак ледаходу. Паступовае павышэньне ўзроўню вады ў рэках. Найвышэйшы пункт паводкі. Вызваленьне высокіх месц у лесе ад сьнежнага насьцілу. Канчатковае вызваленьне лясной глебы ад сьнегу. Паступовае спаданьне ўзроўню вады ў рэках. Канец паводкі і ўваход веснавой вады ў берагі. Першая веснавая навальніца. Назіраньні над веснавымі замаразкамі. Спаданьне тэмпэратуры ў час замаразкаў. Вынікі замаразкаў: прымярзаньне кветак і садовых дрэў, прымярзаньне лісьця ў ясеню, дубу, клёну і інш. дрэў. Прымярзаньне гародных расьлін. Выпаданьне першага сьнегу. Замярзаньне вадаёму.

### II. Назіраньні над разьвіцьцём расьліннасьці.

*А. У полі і на лузе.*

Зазеляненьне азіміны. Зьяўленьне першай маладой травіцы на лугох. *Сеў раньняга ячменю, яравога жыта і пшаніцы.* Пачатак зацьвітаньня падбелу і мінушак. Зьяўленьне ўсходаў раньняй ярыны. Сеў аўсу і саджаньне бульбы. Цьвіценьне казяльца і сьветніка зязюлькавага на лугох. Зьяўленьне ўсходаў позьняй ярыны і бульбы. Выплываньне жыта і раньняй ярыны. Сеў грэчкі і зьяўленьне яе ўсходаў. Пачатак выплываньня кожнай ярыны. Красаваньне жыта і пшаніцы. Цьвіценьне канюшыны на лугох. *Пачатак касьбы.* Цьвіценьне бульбы. Уборка жыта, ячменю і пшаніцы. Уборка ярыны і бульбы.

*Б. У лесе і ў садзе.*

Пачатак руху соку ў клёне востралісным. Цьвіценьне ляшчыны (гарэшніку). Рух соку ў бярозе. Прарастаньне крылавак лёну на зямлі. Цьвіценьне шчамяліцы. Канец цьвету ў гарэшніку. Пачатак цьвіценьня курасьлепу белага. Пачатак распусканьня чорных парэчак. Цьвіценьне алешыны чорнай. Цьвіценьне чубаткі і мінушак. Набраканьне кветкавых пучкоў у яблыні. Цьвіценьне асіны і некаторых вербаў. Распусканьне пучкоў у рабіны. Зьяўленьне першых лісточкаў майніку двухлісьцёвага, кісьліцы і сьніткі. Распусканьне чарэмхі. Цьвіценьне браткаў і курасьлепу жоўтага. Пачатак цьвіценьня чысьцяку і лотаці балотнай. Цьвіценьне кісьліцы. Набраканьне і пачатак росту хваёвых пучкоў. Пачатак зяляненьня бярозы. Цьвіценьне вязу. Цьвіценьне воўчага лыка. Першыя кветкі дзьмухаўца. Распусканьне асіны, алешыны чорнай, грабу і клёну востраліснага і цьвіценьне апошняга. Зьяўленьне першых веснавых грыбоў—смаржкоў і страчкоў. Распусканьне лісьцяў у жоўтай акацыі. Растапырваньне хваёвых шышак і выпусканьне насеньня. Пачатак цьвіценьня раньняга дубу. Пачатак цьвіценьня чарэшні, вішні і сьлівы. Цьвіценьне чырвоных і чорных парэчак. Пачатак цьвіценьня добраполю і зоркаўкі. Цьвіценьне ігрушы і яблыні. Распусканьне дубу летняга. Цьвіценьне варонікі, ракітніку і жоўтай акацыі. Цьвіценьне седмачка, дзяраčкі пахучай і блюшчыку звычайнага. Пачатак цьвіценьня чарэмхі. Цьвіценьне бярозы. Цьвіценьне суніцы. Распусканьне ліпы. Цьвіценьне лантуша і бэзу. Высьпяваньне насеньня ў асіны. Распусканьне позьняга дубу. Цьвіценьне рабіны. Цьвіценьне хвоі. Адцьвітаньне дзьмухаўца. Цьвіценьне маліны. Высьпяваньне насеньня ў жоўтай акацыі і разлузваньне яе струкоў. Высьпяваньне бярозавага насеньня і лёт яго. Пачатак пажаўценьня лісьця ў клёна і пачырваненьне асіны. Пажаўценьне лісьця ў дубу і іншых дрэўных парод. Ападаньне лісьцяў.

*Увага:* Назвы расьлін узяты з Беларускай Ботанічнай Тэрміналёгіі, выпуск VI.

**III. Назіраньні над markednymі жывёлінамі.**

Ход рыбы для нерасту. Першае кваканьне жаб. Нераст у жаб. Зьяўленьне апалоніка. Зьяўленьне маладых жабак. Першыя веснавыя кучы кратоў. Зьяўленьне трытонаў. Абуджэньне розных сьлімакоў і кладка імі ікры. Зьяўленьне дрэўных жаб і турканьне. Кажаны. Абуджэньне вожыка. Зьяўленьне яшчарыц, чарапах, вужоў, сьліваняў і гадзін. Абуджэньне вужоў.

**IV. Назіраньні над прылётам птушак, іх гнездаваньнем і адлётам.**

Спаркаваньне вераб'ёў. Выстукваньне дзятламі на дрэвах першай барабаннай трэлі. Веснавая песьня вялікай сініцы. Прылёт гракоў. Зьяўленьне першых жаўранкаў (у сярэднім для аколіц Гомелю 17 сакавіка). Прылёт шпакоў (у сярэднім 19 сакавіка). Прылёт берасьцянак (у сярэднім 20 сакавіка). Зьяўленьне на ўзьлесьсях аўсянак звычайных і веснавыя трэлі іх самцоў (сярэдняе 20 сакавіка). Веснавая песьня балотнай сініцы. Прылёт дзікіх галубоў, кнігавак (сярэдняе 20 сакавіка). Пачатак будаваньня гнёзд у гракоў, варон, сарок, вераб'ёў і інш. Прылёт шэрых сітавак (сярэдняе 27 сакавіка). Зьяўленьне пеўчых драздоў (сярэдняе 31 сакавіка). Прылёт буслоў (сярэдняе 6 красавіка). Прылёт жораваў (сярэдняе 12 красавіка). Прылёт круцігаловак (сярэдняе 15 красавіка). Зьяўленьне ўдодаў (сярэдняе

18 красавіка). Першае кукаваньне зязюлі (сярэдн. 20 красавіка). Прылёт салаўёў. Зьяўленьне ластавак (сярэдн. 21 красавіка). Поўная носка і пачатак наседжваньня ў гракоў, варон, сарок і шпакоў. Прылёт сівагракаў. Прылёт жаўны (сярэдн. 6 мая). Вылет маладых гракоў, варон, сарок. Вылет першага пакаленьня ў вераб'ёў і поўная носка для другога пакаленьня. Назіраньні над гнездаваньнем у вераб'ёў трэці раз, калі яно адбываецца ў данай мясцовасьці. Адлёт (масавы) ластавак. Пралёт на поўдзень жураваў і дзікіх гусей. Зьяўленьне птушак, якія зімуюць у нас—чачотак, гілёў.

*Увага:* У дужках паказана сярэдняя пара назіраньня зьявы ў межах Гомельшчыны.

**V. Назіраньні над зьяўленьнем некаторых шасьціножак і павукоў.**

Першы шум пчол у вульлі. Першы вылет маткі. Першы рой. Уборка пчол на зімаваньне. Зьяўленьне першых мух на паўднёвых сьценах дамоў. Зьяўленьне ў лесе зямляных павукоў. Зьяўленьне камароў-таўкунчыкаў. Вылет з зімовых схованак першых веснавых матылькоў: крапіўніка, лімоньніка і інш. Зьяўленьне вадалюбаў і плавунцоў у вадаёмах. Лёт дробных чорных жукоў і вячэрні лёт буйных чорных жукоў. Зьяўленьне божыіх каровак і першых мурашак. Лёт хрушчоў. Зьяўленьне стрэлак. Лёт махаона. Першы і другі лёт матылькакапусьніка. Першая праца павука па снаваньні павуціньня. У восень: зьяўленьне ў паветры павуціньня павукоў-лётнікаў.

## МЭТОД ПРАЦЫ.

1. Програма, якая прапануецца ў яе цэлым, ня можа быць выканана аднэю асобаю, а патрабуе масавай працы для свайго ахапленьня. У залежнасьці ад яе аддзелаў група падзяляецца на зьвеньні, дапасоўваючыся да індывідуальных нахілаў асоб, якія ўваходзяць у яе склад. Зьвяно разьмяркоўвае паміж сабою об'екты, якія патрабуюць назіраньня. Лік об'ектаў, паказаных програмаю, не павінен быць прыняты як абавязковы,—лепш узяць з аддзелу адзін-два об'екты, але выканаць назіраньне больш старанна. (Гэтая заўвага не павінна адносіцца да назіраньняў за ходам росту палявых і гародных кулькур і цыклю гаспадарчых работ, моманты разьвіцьця якіх лёгка паддаюцца назіраньню).

2. У тых выпадках, калі фэнолёгічныя назіраньні вядуцца аднэю асобаю, прапануецца выбраць з програмы толькі такі ці такія об'екты, па яго погляду, якія былі-б яму даступны ў сэнсе бесьперарыўнасьці назіраньняў і ў выніку далі-б скончаны цыкль, які характарызуе жыцьцё об'екту назіраньня або далі-б поўнае ўяўленьне аб зьяве.

3. Паглыбленьне ведаў аб прыродзе ў інтарэсах сельскай гаспадаркі цягне за сабою ня толькі фіксаваньне „першых" зьяўленьняў тае ці іншае жывёлы, „першых" зацьвітаньняў і г. д., якія вызначаюць гадавы круг зьяў у жыцьці прыроды данай мясцовасьці, але і вымагае другой ня менш важнай працы па вывучэньні біолёгічных зьяў у поўным абхваце, па вывучэньні ўплыву розных фактараў на ўраджай тых ці іншых культур і г. д.

4. Праца можа весьціся двума мэтодамі: 1) мэтодам экскурсійным і 2) мэтодам стацыонарным. Экскурсійны мэтод ня зьвязвае назіральніка пэўнаю дзялянкаю, якая дакладна фіксуецца, а можа ахапіць

увесь раён: гэты мэтод пры яго ўжываньні дае колькасны вынік, які характарызуе зьяву шырокім мазком. Стацыянарны мэтод ужываецца для працы больш паглыбленай на невялікай аднэй ці некалькі невялікіх плошчах тыповых для раёну; пэўным дрэве ці кусьце, пэўным гнязьдзе, пэўным сямействе баброў і г. д.

5. Моманты праяўленьня наступных фаз разьвіцьця расьліннасьці характарызуюцца адзнакамі:

а) *Пачатак распусканьня пучкоў у кустоў і дрэў*—гэта момант, калі на расьліне ў двух-трох месцах у пучкох, якія больш набраклі, пучковыя лусачкі настолькі разгарнуліся, што відаць кончыкі зялёных лісьцікаў сяродкавай формацыі—будучыя лісьці. Назіраючы за гэтай фазаю над бэзам і дрэвамі кляновых відаў, трэба быць уважлівым, каб не палічыць акрыцьцёвых лусачак за кончыкі зялёных лісткоў, а чакаць таксама зялёнага гарбка, які зьяўляецца першым выхадам запраўднага ліста. Назіраючы гэтую фазу, трэба мець на ўвазе, што ў большасьці расьлін з распусканьнем пучкоў супадае момант пачатку назіраньняў за вэгэтацыйным пэрыодам росту і шмат якія з пучкоў зьяўляюцца зьмешанымі, г. зн. адначасна і кветкавымі пучкамі. У тых выпадках, калі ў некаторых расьлін зьмешаныя пучкі зьяўляюцца реней ліставых (каштан, груша і інш.) або разгортваньне пучкоў на жаночых і мужчынскіх індывідуумах ідзе неадначасна (асіна), то ў гэтых выпадках неабходна весьці падвойныя назіраньні.

б) *Момант зацьвітаньня*—гэта момант зьяўленьня нормальна раскрытых вяночкаў кветак ў двух-трох розных месцах; для збожжа—для жыта—гэтаму моманту адпавядае выхад тычачак з раскрытых каласкоў, а для катковых суквецьцяў момант, калі яны як мае быць раскасмаціліся, кветкавыя акрыцьці разышліся, тычачкавыя ніткі вольны і пыльнікі гатовы трэскацца. Перад гэтым у гарэшніку за адзін-два дні адбываецца выхад жаночых лычкоў з ліставых пучкоў наверх.

в) *Пачатак распусканьня лісьцяў на пучкох і дрэвах*—гэта момант зьяўленьня ў розных мясцох першых нормальна-згладжаных ліставых пласткоў.

г) *Момант высьпяваньня першых пладоў*—момант праяўленьня фазы, які дакладна можа быць улоўлены ў расьлін з мясістымі сочнымі пладамі: костаўкаю, і ягадаю, і з пладамі сухімі: лускаўкаю, струком; для першых—гэта момант зьяўленьня ў розных мясцох (3-4) пладоў, якія атрымалі канчатковую нормальную афарбоўку, і калі іх ядуць, то і смак, а для лускавачных і ім падобных пладоў—зьяўленьне разлузваньня.

д) *Момант праяўленьня поўнай лістазелені* для лясных дрэвастанаў і гаёў (ці прысадаў) парод аднаго віду.

е) Для васеньніх пэрыодаў, апрача высьпяваньня пладоў і збожжа, раіцца адзначыць *момант усеагульнае зьмены ў колеры лісьцяў* для некаторых дзеравістых расьлін, напр.: ліпа, каштан, тан, бяроза, буг, дуб, граб.

ж) *Для кожнай пасеўнай расьліны* (сельска-гаспадарчых культур) у гэтай прыкладной галіне ведаў устаноўлены наступныя моманты праяўленьня пэўных фаз вэгэтацыйнага разьвіцьця расьлін: 1) пачатак севу, 2) першыя ўсходы, 3) масавыя ўсходы, 4) момант выхаду ў трубку, 5) пачатак кушчэньня, 6) час поўнага кушчэньня на большай частцы дзялянкі, 7) пачатак выплываньня, 8) поўнае выплываньне, 9) пачатак і канец красаваньня (цьвіценьне) і г. д. да апошніх момантаў высьпяваньня збожжа і да ўборкі.

6. Прыступаючы да выбару об'ектуназіраньня неабходна зварочваць увагу, каб об'ект назіраньня знаходзіўся ў нормальных умовах разьвіцьця, г. зн. калі гэта расьліна, то павінна быць даступна для сонца ўва ўсіх яго палажэньнях, ветру, вольнаму доступу ападкаў; калі об'ект назіраньня адносіцца да жывёлін ці шасьціножак, то назіраньні вядуцца ў умовах яго вольнага жыцьця, апрача таго, назіральнік не павінен пакідаць бяз увагі падглебавых умоў раёну, у якім робяцца назіраньні.

7. Першапачатковы запіс робіцца ў асабовай кніжцы назіральніка, у якой адзначаецца месяц, числo, месца зьявы, якая назіраецца ці заўважана.

8. Калі ў кніжках некалькіх назіральнікаў сустракаюцца запісы тых-жа самых зьяў пад рознымі числамі месяца, то бярэцца дакладна вядомае числo або паказваецца, што зьява адбылася паміж вось такім і такім числом месяца.

9. Пры запісах нельга абмяжоўвацца адзначэньнем першапачатковых зьяў, а трэба адзначаць пачатак і канец масавых зьяў. Напрыклад, адзначана: 10 красавіка паасобны выпадак цьвіценьня якой-небудзь расьліны, а 15 красавіка гэтая зьява прыняла масавы характар, або 28 сакавіка адзін з сялян першы раз выехаў на работу ў поле, а 4 красавіка гэтая зьява прыняла масавы характар, і працягнулася да 15 красавіка, а потым паасобнымі сялянамі да 27,—усе гэтыя моманты павінны адбіцца ў адпаведных запісах, пад адпаведным числом з адзнакаю „паасобны“, „масавы“.

10. Устаноўлены згодна пунктаў 7 і 8 факт зьявы ўносіцца ў зводную табліцу назіраньняў у адпаведную простастаўную графу і клетку адпаведнага числа месяца зафіксаваньня факту, з адзнакаю прынятага мэтоду працы („экск., стац.“).

11. Для кожнага месяца табліца аднаўляецца.

12. Пры далейшай апрацоўцы матар'ялу, сабранага ў табліцу, яму можа быць надана графічная форма, якая ахапляе зьяву цалкам.

(Форма зводнай табліцы і тлумачэньні да яе дапаўненьня, а таксама сьпіс кіраўнічай літаратуры па фэнолёгіі і мэтэоролёгіі дадаецца).

*Форма зводнай табліцы.*

**Зводная табліца фэнолёгічных назіраньняў.**

Пасел............ ________ раён............ ________ Гомельскай акругі.

Назіраньні рабіліся ________________ адрас ..............................
(такою вось асобаю)

........ ____________ месяц 1926 году.

| Числo месяца. | Кліматычныя ўмовы. | Гідролёгічныя зьявы (стан водных басэйнаў і падглебавай вады). | Назіраньні над расьліннасьцю (дрэвы, кусты, травы, палявыя культуры). | Назіраньні над наземнымі і вадзянымі жывёлінамі. | Назіраньні над птушкамі. | Назіраньні над шасьціножкамі і павукамі. | Назіраньні над зьявамі гаспадарчага цыклю. | У В А Г А. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | | | | |

## Тлумачэньні да запаўненьня зводнай табліцы.

1. У першай графе ставіцца число месяца незалежна ад таго, было назіраньне ці ня было.

2. Другую графу пажадана было-б запоўніць кліматычнымі назіраньнямі па форме, прапанаванай у зборніку № 4 „Народнае Просвещение в Гомельской губернии“, для тых пунктаў, дзе вядуцца сыстэматычна гэтыя назіраньні; там-жа, дзе яны не вядуцца, у гэтай графе проці числа даецца агульная характарыстыка кліматычных умоў (напр.: горача, ападакаў няма, моцны ўсходні вецер), або ранічныя замаразкі, дзень цеплаваты, вецер паўночна-заходні, пад вечар туман, або халаднавата, вецер паўночна-ўсходні, халодны вялікі дождж, які перайшоў у град велічынёю з гарошыну).

3. У трэцюю графу, па лініі адпаведнага числа, заносяцца гідролёгічныя зьявы, г. зн. стан бягучай вады, вады стаячай у вазёрах сажалках, вышыня ўзроўню вады ў калодзежах, лічачы ад паверхні зямлі (прычым першае вымярэньне павінна быць зроблена ў час вясновай паводкі, другое—калі вада ўвойдзе ў берагі, а наступныя—праз кожныя 15 дзён).

4. У чацьвертую графу заносяцца назіраньні над пэўным момантам жыцьця дрэў, лугавой расьліннасьці, сельска-гаспадарчых культур (для гэтых апошніх трэба адзначаць моманты выплываньня, пачатак і канец красаваньня, наліваньня і высьпяваньня). Пажаданыя для рэгістрацыі моманты для кожнай расьліны паказаны ў агульнай програме пералікам назіраньняў у полі, на лузе, у лесе і ў садзе.

5. У пятую графу заносяцца назіраньні над жывёлінамі, пералічанымі ў програме, калі зьяўляецца магчымасьць, неабходна весьці назіраньні і над іншымі жывёлінамі, характэрнымі для раёну, напр., бабёр, гарнастайка, ваверка і інш.

6. У шостую графу ўносяцца назіраньні за пэўнымі момантамі жыцьця птушак.

7. У сёмую графу ўносяцца моманты з жыцьця шасьціножак і павукоў; моманты гэтыя паказаны ў програме.

8. Графа восьмая запаўняецца данымі аб ходзе гаспадарчых зьяў і работ, г. зн. адзначаецца проціў адпаведнага числа пачатак і канец паасобных і масавых работ у полі, гародзе, на лузе, канец уборкі; пачатак і канец малацьбы; калі пачынаюць і канчаюць слаць лён, калі падбіраюць і труць; калі вупускаюць на пашу жывёлу, пераганяюць з аднаго месца пашы на другое, калі жывёла становіцца ў хлеве.

9. Дзевятая графа табліцы адводзіцца для характарыстыкі глебы і падглебы раёну назіраньняў і для адзначэньня больш яскравых момантаў, якія характарызуюць ненормальны ход зьяў, напр.: уплыў рэзкіх кліматычных умоў на расьліннасьць і жывёльнасьць, зьяўленьне шкоднікаў і зробленая імі шкода і г. д.

---

## Літаратура па фэнолёгі і мэтэоролёгіі.

1. „Листки био-станции юных натуралистов имени К. А. Тимирязева“ за 1925 год. (Комплект іх можна выпісаць па таннай цане).

2. „Листки био-станции“ ў 1926 г. Падпісная цана на год для настаўнікаў 2 руб. (Адрас выданьня: Москва, Сокольники, Ростокинский переулок, д. № 99. Биостанция юных натуралистов).

3. Часопіс „Живая природа“. Падпісная цана на год—3 р. 75 к. (Адрас выданьня: Ленинград, улица Пестеля, № 12. Издат. Образование).

4. Святский Д. О. „Спутник краеведа—любителя природы“. Цана 40 кап.

5. Смирнов Н. П. „Календарь природы и руководство к ведению фенологических наблюдений“. Цана 70 кап.

6. Щербинский Н. „К методике школьных фенологических наблюдений“ (у „Педагогических курсах на дому“, № 30-31).

7. Ен-жа „Вредители сельского хозяйства, как об‘ект школьного изучения“ (там-жа, № 10—14).

8. Померанцев Д. В. „В защиту наших пернатых друзей“. Цана 45 к. (Выданьне Гомельскага Ляснога Тэхнікуму).

9. Баранов А. „Наблюдения над погодой при помощи упрощенных метеорологических приборов“. Цана 70 кап.

10. Жарков С. Н. „Метеорологические наблюдения в школе“. Цана 1 р. 10 кап.

---

**Проф. С. П. Мельнік.**

# Да пытаньня аб апісаньні паркаў Беларусі.

## I.

Беларусь багата былымі старымі „дваранскімі гнёздамі“, і вялікімі, і малымі. Цяпер гэта альбо савецкія гаспадаркі, альбо колектывы, альбо школы, прытулкі, дамы адпачынку, санаторыі, вучэбныя ці даследчыя гаспадаркі і г. д.

Часта пры былых панскіх маёнтках і сядзібах ёсьць старыя альбо сярэдняга ўзросту паркі. Іншы раз гэтыя паркі маюць толькі эстэтычнае ці гігіенічнае значэньне. У другім выпадку яны маюць і значную навуковую вартасьць, а некаторыя з іх маюць нават вялікае навуковае значэньне.

Такім чынам, вельмі пажадана, каб акруговыя краязнаўчыя організацыі Беларусі зарэгістравалі такія паркі і дэкарацыйныя прысады і паакруговыя сьпісы іх зьмясьцілі-б на старонках „Нашага Краю“, азначыўшы плошчу (хоць-бы прыблізна) і месца знаходжаньня, а, калі магчыма, азначыўшы і склад дрэвастану гэтых паркаў. Гэта дало-б магчымасьць спэцыялістам-дэндролёгам пры значна меншай патраце сіл, часу і сродкаў больш дэтальна, больш дасканала вывучыць найбольш цікавае з гэтых паркаў у навуковых адносінах, а магчыма і наладзіць сыстэматычнае вывучэньне Беларусі ў гэтым стасунку.

Экзоты (чужаземныя расьліны—дрэвы і хмызьнякі), якія вырасьлі ў парках і палісадніках у невялікім ліку экзэмпляраў, не вырашаюць, зразумела, пытаньняў аб натуралізацыі і акліматызацыі іх. Для гэтага трэба экзоты ўзрасьціць хоць невялікімі (прыкладна ў 1/2 гэктара), але цэльнымі дрэвастанамі (у выглядзе лесу), дэтальна вывучыць такія дрэвастаны ўсіх узростаў, асабліва пары „сьпеласьці“ і потым якасьць драўніны і колькасьць яе на 1 гэктары параўнаць з лепшымі нашымі дрэвастанамі з сасны, елкі, дубу, бярозы і г. д.

Але і паасобныя дрэвы і хмызьнякі, якія вырасьлі ў садох і парках, усё-такі зьяўляюцца цікавымі. Папершае, калі чужаземны від вы-

рас і дае сьпелыя плады і насеньне, дык гэта ўжо часткова вырашае пытаньне аб магчымасьці разводзіць дагэтуль невядомы ці мала вядомы экзот у нас, рабіць над ім досьледы ў больш шырокім маштабе. Падругое, экзэмпляры дрэў і хмызьнякоў, якія вырасьлі ў парках, могуць быць матачнымі дрэвамі для збору насеньня ў мэтах разьвядзеньня экзотычных і дэкарацыйных відаў дрэў у школках для далейшага іх пашырэньня. Трэба мець на ўвазе, што насеньне экзотаў пры выпісцы з-за межаў вельмі дорага каштуе і часта прысылаецца няўсхожым. Апрача таго, насеньне, якое сабрана ў нас, зьяўляецца з навуковага боку вельмі цікавым у сэнсе акліматызацыі і натуралізацыі*), бо з яго мы ў сябе атрымаем ужо другое мясцовае пакаленьне.

## II.

Усьлед за складаньнем і апублікаваньнем паакруговых сьпісаў паркаў Беларусі вельмі пажадана, каб краязнаўцы зрабілі досьледы самых галоўных з іх, склалі і апублікавалі апісаньні іх.

Гэтыя апісаньні могуць быць дваякага роду. Калі ў краязнаўцы слабая падрыхтоўка ў галіне ботанікі, дэндролёгіі, дык лепш за ўсё будзе, калі аўтар складае кароткае, больш агульнае апісаньне парку ў форме невялікай часопіснай заметкі. І яна, зразумела, будзе карысна ў справе сыстэматычнага вывучэньня нашага краю. А калі краязнаўцы досыць падрыхтаваны ў галіне прыродна-гістарычных навук, дык тады пажадана, каб ён даў больш падрабязнае апісаньне з характарыстыкай месца, дзе растуць, з пералічэньнем навуковых (лацінскіх) назваў відаў дрэўнай расьліннасьці, з абавязковым паказаньнем, ці цьвіце даны від у данай мясцовасьці і ці высьпяваюць у яго плады і насеньне, а калі ёсьць магчымасьць, дык з паказаньнем абмераў для тыповага экзэмпляру (вышыні, тоўшчы ствала, вышыні да кароны, вышыні кароны, дыямэтраў кароны і г. д.) Калі ў даным парку ці ў сядзібных дрэвастанах сустракаюцца рэдкія чужаземныя віды дрэў, дык вельмі пажадана, каб была азначана колькасьць экзэмпляраў, іх габітус (надворны выгляд), іх здароўе.

Трэба мець на ўвазе, што паказаньне дакладнай назвы віду дрэва ці хмызьняку (пабеларуску, парасійску, і абавязкова палацінску) зьяўляецца ў даным выпадку вельмі адпаведнай працай, а азначэньне экзотычных дрэў і хмызьнякоў часта вельмі цяжка. З прычыны гэтага пры складаньні сьпісаў трэба быць вельмі асьцярожным. Пры кожным выпадку самай малай няпэўнасьці трэба яе заўважваць. Лепш апісаць дрэвы бяз назвы, чым даць яму няправільную, недакладную назву. Калі назва дана недакладная, альбо калі ў працы пераблытана навуковая номэнклятура, дык такую працу краязнаўцы цяжка выкарыстаць і яна траціць сваю навуковую практычную вартасьць.

Як прыклад, а таксама ў мэтах корэктуры тых аўтараў, якія пішуць ці будуць пісаць свае працы аб парках Беларусі, прывяду дзьве памылкі, якія зрабіў Яз. Троська ў сваім артыкуле „Стары Станькаўскі парк і асаблівасьці яго дрэвастану“ („Наш Край“, 1926 г., № 12—сьнежань). Яз. Троська піша (стар. 56), што ў гэтым парку ёсьць: „Дуб раньні (Quercus pedunculata Ehrh.) і дуб позьні (Q. sessiliflora Sm.)“. Дэндролёг і лесавод тут адразу выкажуць няўпэўненасьць адносна правільнасьці азначэньня, бо Яз. Троська пераблытаў тэрмінолёгію. Трэба

*) „Акліматызацыя“—перанос да нас расьлін з краёў іншага клімату, чым у нас. „Натуралізацыя“—перанос да нас расьлін з краёў, дзе клімат такі самы, як і ў нас.

сказаць, што ў старых расійскіх падручніках па лесаводзтву і дэндролёгіі з расійскімі назвамі для дубу была вялікая блытаніна. Але, папершае, ніякай блытаніны ня было і няма для лацінскіх назваў; падругое, у сучаснай найноўшай літаратуры па дэндролёгіі і па лесаводзтву і ў сучасным выкладаньні гэтых дысцыплін катэдрамі Вузаў СССР замацавалася дакладная і цьвёрдая тэрмінолёгія для відаў і адменьнікаў нашых дубоў. А менавіта: Quercus pedunculata Ehrh. цяпер у навуковай літаратуры завуць *„дубом черешчатым“*, адменнасьць яго, якая рана распускаецца і рана цьвіце—*Quercus pedunculata Ehrh. var. praecox Czern.*—*дубам раньнім* ці *летнім*, адменнасьць яго, якая пазьней распускаецца і пазьней зацьвітае—*Quercus pedunculata Ehrh. var. tardiflora Czern.*—*дубам позьнім* ці *зімовым;* від *Quercus sessiliflora Salisb.*—*„дубом сидяче-цветным*[1])*“* (а ня „поздним“) і від Quercus pubescens Willd.—*„дубом пушистым“*.

У тэй-жа працы ёсьць недакладнасьць і адносна відаў роду Ulmus, што таксама прымушае быць няўпэўненым. Лёмам названы два віды: Ulmus montana Sm. і Ulmus campestris L., а берастам—Ulmus suberoso Ehrh. А па тэрмінолёгіі, якая ў нас замацавалася, трэба азначаць: 1) Ulmus montana Sm.—лём, 2) Ulmus campestris L.—бераст, 3) Ulmus suberosa Ehrh., які па сутнасьці зьяўляецца падвідам віду Ulmus campestris L., адрозьніваецца ад тыповага *Ulmus campestris L.* Толькі меншай велічынёй ствала і лісьця, хмызьняковай формай і, галоўнае, пробкавымі нарастамі на гальлі і часьцей за ўсё завецца ў літаратуры і жыцьці „карагачам“ і іншы раз і „берастам“,—трэба было-б і ў нас называць *карагачам,* альбо *пробкавым берастам,* 4) Ulmus effusa Willd. у Яз. Троські правільна азначаны:—*вяз*[2]).

Каб ня было памылак і непаразуменьняў, якія пасьля надрукаваньня артыкулу выпраўляць цяжка, і якія, між іншым, падрываюць давер'е к сабранаму дасьледчыкам матар'ялу, а іншы раз могуць увесьці ў падман і другіх асоб, краязнаўцам пры досьледах і апісаньні паркаў Беларусі трэба было-б складаць гэрбарыі па зарэгістраваных імі відах і адьменьніках дрэў і хмызьнякоў (галінкі, лісьце, кветкі і плады). Такія гэрбарыі трэба было-б накіроўваць для праверкі і дакладнага азначэньня альбо катэдры Бел. Дзярж. Унівэрсытэту ў г. Менску, альбо катэдры Бел. Дзярж. Акадэміі С.-Гаспадаркі ў Горках, ці катэдры агульнага лесаводзтва і дэндролёгіі тэй-жа Акадэміі, ці ўрэшце Аддзелу Лесазнаўства Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі (г. Горкі). Пры пералічаных установах ёсьць поўныя дэндролёгічныя азначальнікі як на расійскай, так і на чужаземных мовах, досыць вялікія дэндролёгічныя гэрбарыі, і такім чынам азначэньне і праверка прысланых гэрбарыяў ня будзе цяжкай справай. А краязнаўца будзе ўпэўнены ў поўнай дакладнасьці назваў дрэўных відаў, якія ён дасьледваў, і ня будзе ўводзіць у непаразуменьне і задзіўленьне сваіх чытачоў, калі апублікуе сваю працу.

---

[1]) Трэба заўважыць тут, што ў „Слоўніку лясных тэрмінаў“ (Аддзел першы. Сэрыя V, кн. 8. Менск, 1926 г.), які выданы ў дыскусыйным парадку, тэрмінолёгія адносна дубоў зблытана яшчэ больш (словы № 426 і 427). Трэба гэта выправіць пры перавыданьні слоўніка.

[2]) Пры перавыданьні „Слоўніка лясных тэрмінаў“ для відаў роду Ulmus трэба заставіць прыведзеныя мною тэрміны на беларускай і расійскай мовах. А на лацінскай мове трэба прывесьці (ці дадаць) новую тэрмінолёгію, якая цяпер прынята ў навуковай літаратуры для роду Ulmus. па Энглеру: Ulmus dlabra Mill., U. scabra Mill. і Ulmus pedunculata Foug.

III.

Для краязнаўцаў, якія жадаюць папрацаваць над дасьледваньнем і апісаньнем паркаў Беларусі, прывяду праграму, па якой такія дасьледы і апісаньні трэба было-б весьці.

1. Назва і месца знаходжаньня парка. Карысна паказаць бліжэйшыя—чыгуначную станцыю, прыстань, паштовае аддзяленьне, адлегласьць да іх, каму парк цяпер належыць, прозьвішча асобы, якая яго добра ведае і можа пры выпадку паказаць дасьледчыку, які прыехаў, ці сабраць насеньне па просьбе навуковых устаноў і навуковых працаўнікоў Беларусі і г. д.

2. Мэтэоролёгічная характарыстыка мясцовасьці, калі ў раёне прыблізна 25—35 вёрст ёсьць мэтэоролёгічная станцыя.

3. Рэльеф мясцовасьці пад паркам.

4. Глебы пад паркам.

5. Плошча парку і плян яго.

6. Гісторыя закладкі парку і наогул мінулае парку.

Тут важна выявіць ня толькі бытавы бок мінулага, але і яго прыродна-гістарычную частку. Час заснаваньня парку. Час апошніх пасадак. Спосабы апрацоўкі зямлі. Спосабы пасадкі. І самае галоўнае,—калі можна высьветліць, адкуль узялі пасадкавы матар'ял і адкуль атрымана было насеньне, калі пасадкавы матар'ял гадаваўся на месцы. Надзвычайна вялікую навуковую каштоўнасьць будзе мець той выпадак, калі ўдасца зафіксаваць пахаджэньне насеньня ці пасадкавага матар'ялу для кожнага віду дрэў ці хмызьнякоў, якія растуць у парку ці хоць для часткі іх. У сувязі з вывучэньнем сучаснага росту і становішча гэтых відаў пахаджэньне насеньня дасьць зусім поўны навуковы матар'ял для вырашэньня пытаньняў натуралізацыі і акліматызацыі дрэўных парод.

7. Сучаснае становішча парку. Тут перш за ўсё трэба прывесьці сьпіс назваў відаў, якія ёсьць у парку. Сьпіс, бязумоўна, павінен быць правільна азначаным і праверaным. Для кожнага віду трэба паказаць: колькі экзэмпляраў у парку, у якой частцы парку яны знаходзяцца, *ці даюць яны сьпелыя плады і насеньне,* якога яны ўзросту, якога росту і здароўя і г. д.

Калі ёсьць магчымасьць, дык даецца больш дэтальная характарыстыка кожнага віду. З гэтай мэтай ва ўсіх экзэмпляраў данага віду вымяраецца на вышыні грудзей сярэдняга чалавека два дыямэтры ствала, з Пн. на Пд. і ў кірунку з З. на Ўс., выводзіцца сярэдні дыямэтр. У тыповай частцы экзэмпляраў вымяраецца вышынямерам вышыня. Вылічваюць сярэднюю вышыню. Па сярэднім дыямэтры і сярэдняй вышыні адбіраецца сярэдняе дрэва (модэль). У модэлі вымяраецца вышыня да першага няжывога сучка, вышыня да першага жывога сучка, да пачатку кароны, вышыня кароны (вылічаецца) далей вымяраецца дыямэтр кароны (стоячы на зямлі і гледзячы ўверх) у напрамку з Пн. на Пд. і з З. на Ўс. Азначаецца плошча насьцілу па формуле эльліпсу:

$\frac{П. а. в.}{4}$, дзе $П = \frac{22}{7}$, а—дыямэтр кароны ў кірунку з Пн. на Пд., в—дыямэтр кароны з З. на Ўс.

Усе гэтыя вымеры і вылічэньні даюць магчымасьць меркаваць аб стане разьвіцьця данай дрэўнай пароды (віду ці адменнасьці) у даным узросьце і ў данай мясцовасьці і параўнаць разьмеры гэтага разьвіцьця з тымі разьмерамі, якіх дрэва дасягае ў сябе, на бацькаўшчыне.

Такое параўнаньне пакажа кепска ці добра даны від дрэва адчувае сябе ў нас. І калі кепска, дык у якой меры. Само сабой разумеецца, што паказаныя дэтальныя вымеры зьяўляюцца цікавымі толькі для відаў і адменнасьцяй экзотычных, чужаземных. А для відаў, якія натуральна вырастаюць у нашых лясох, гэтыя дэтальныя вымеры не патрэбны: разьвіцьцё такіх дрэў будзе такое самае (прыблізна), як і ў лесе, і яно ў лясной нувуцы добра вядома.

Калі ўдасца, дык вельмі важна адносна экзотаў занатаваць, ці пасьпяваюць да восені загрубець аднагадовыя парасткі (галінкі), альбо канцы іх зьбіваюцца васеньнімі замаразкамі ці зімовымі маразамі.

---

**В. Купрэвіч.**

# Прыродазнаўчая экскурсія па Смалявіцкім раёне Мен. акр.

*(Маршрут, мэтодыка).*

Ніжэйпаданы маршрут разьлічаны на досыць сьвядомага кіраўніка экскурсіі і адпаведна падрыхтаваных экскурсантаў. Галоўнай мэтай экскурсіі ставіцца—азнаямленьне з балотамі розных тыпаў, іх паходжаньнем і жыцьцём; іх значэньнем у экономіі прыроды і гаспадарцы краіны.

Пунктам адпраўленьня экскурсіі зьяўляецца мяст. Смалявічы, Менск. акругі (у 1-эй вярсьце ад чыгуначн. станц. Вітгенштэйнская).

Экскурсія разьлічваецца на 4 дні, вандраваньне—пехатой.

У сувязі з пастаўленымі мэтамі, на экскурсію трэба ўзяць наступныя прылады:

1. Ботанічны прэс з значным запасам паперы для рубашак.
2. Пушачкі для збору членістаногіх.
3. Кашурак для лову апошніх.
4. Спэцыяльную склянку для атручваньня членістаногіх.
5. Некалькі мяшэчкаў (ці маленькіх скрыначак) для хаваньня ўзораў торфу і інш.
6. 4—6 шт. рыдлёвак.
7. Тапор.
8. Рулетку.
9. Компас.
10. Фотографічны апарат.
11. Сшыткі, алоўкі.
12. Харчаваньне на 2 дні.

Канечным пунктам экскурсіі зьяўляецца рака Гайна (каля засьценку „Хідры“).

Месцам збору і адпраўленьня можа быць Смалявіцк. Белар. сямілетка (Прудавая вуліца). На экскурсію трэба выйсьці не пазьней як а 10-ай гадзіне раніцы. Экскурсанты накіроўваюцца на поўнач раёну па дарозе, якая вядзе на вёску Жажэлку.

Першым пунктам спыненьня экскурсіі зьяўляецца хутар Калюга (у 3-х вярст. ад мястэчка), дзе, управа ад дарогі, знаходзіцца тыповае (параўнальна невялічкае) „тарфянае балота вадападзельнага плято“. На даным балоце, пры параўнальна невялікай затраце працы на раскоп-

ваньне торфу, можна досыць яскрава прасачыць гісторыю разьвіцьця балот данага тыпу. Пры гэтым трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на падсьцілаючы горызонт торфу і, па мажлівасьці, дасканальна высьветліць яго расьлінны склад. Пры ўважлівых адносінах да справы тут можна знайсьці астаткі наступных расьлін: Vaccinium myrtillis L., V. vitis idea L., Licopodium (clavatum—ці complanatum), Pirola i Polytrichum. Пры раскопках можна заўважыць досыць моцныя пахаваныя пні (чаму яны ня згнілі?).

Трэба зьвярнуць увагу на надзвычайна бедную расьліннасьць на паверхні балота, дзе *(тыпова)* можна знайсьці ў вельмі прыгнечаным становішчы бярозку (Betula nana L.), балотную хвойку (Pinus silvestris L. var. turfosa) і некаторыя (як рэдкасьць) верасавыя. З травяністай флёры тут можна бачыць зьніцеўшую Agrostis alba L. і A. canina ды некаторыя асокі, як Carex dioica L. і C. limosa, сярод якой дзе-ні-дзе бялеюць коцікі Eriophorum vaginatum L. На ўсёй паверхні балота беспадзельна пануюць, ствараючы зеленавата-срэбраную „падушку“, віды моху Sphagnum'у. Тут-жа можна знайсьці і драбнюткія паасобнікі Drosera rotundifolia L.

У часе агляду балота трэба таксама зьвярнуць увагу на значэньне торфу вадападзельнага балота, як апалу і як угнаеньня.

Узяць узоры торфу.

Сабраць узоры расьлін разгледжанага згуртаваньня.

Пасьля агляду балота, экскурсанты накіроўваюцца ў вёску Бабілес (6-7 вёрст) на начоўку. Па дарозе экскурсанты знаёмяцца з тыповым „хваёвым грудам“, прыклады якога і надзвычайна чыстыя сустракаюцца тут на ўсім шляху, асабліва ў ваколіцах паказанай вёскі. Сама вёска зьяўляецца досыць цікавай з боку вядзеньня сваёй выключна „пескавой“ гаспадаркі.

2-і дзень.

З раніцы экскурсанты накіроўваюцца к Вялікаму возеру, якое знаходзіцца ў 2-х вярстах на паўднёвы захад ад вёскі. Дарога да возера ідзе па балоце, якое ў свой час прайшло праз дзернавую стадыю глебаўтвараючага процэсу. Па дарозе можна параўнаць данае балота з разгледжаным вадападзельным. Пры гэтым карысна зьвярнуць увагу на склад расьлін і ўмовы іх жывеньня.

Узяць узоры торфу.

**Возера Вялікае.**

Возера з усіх бакоў абмежавана балотам; апошняе ў некаторых мясцох, як напрыклад, у паўночнай затоцы Краснай, шпаркім тэмпам наступае на возера. Тут надзвычайна яскрава і ва ўсіх стадыях разьвіцьця можна прасачыць гэты процэс зарастаньня. Пры азнаямленьні з расьлінамі, якія „наступаюць“ на вольную паверхню возера, трэба зьвярнуць увагу на наступныя іх віды—піонэраў у справе заваяваньня возера—Hydrocharus morsus ranae L., Lemma minor L. i L. trisulbe L., Holtonia palustris L., Ranunculus circinatus Sibth., R. aquatilis L., а таксама—Nymphaea alba L., Patamogeton і разак (Stratiotes aloides L.). Пералічаныя расьліны можна аднесьці да першай зоны наступаючай на возера балотнай флёры.

У другой зоне, на дрыгве, пануюць: Scirpus lapustris L., Equisetum limosum L. i Typha latifolia L.

У трэцяй зоне—чарот (Phragmites commune Trin.), а часам і Typha.

Чацьвертая зона—асокі (галоўн. чынам Magnocarices).

Апошняя зона, зона лёгкага сена, характарызуецца наступнымі расьлінамі: Politrichum (як надсьціл), Gliceria aquatica, Poa chaixi Villi Scolochloa festucacea Linc., хвашчы (Equisetum silvaticum i E. palustre L.), какошнік (Calla palustris L.), сітнікі (Yuncus), асака (Carex), Deschampsia caespitosa Pal., бабок (Menyanthes trifoliata L.) і інш.

Зьвярнуць увагу на значэньне разьвіцьця аэрэнхімы ў гэтых расьлін.

Сабраць узоры расьлін па зонах.

Каля берагоў возера ў мясцох, дзе ня моцна разьвіта берагавая расьліннасьць, можна знайсьці вялікія скапленьні дэтрыту; зьвярнуць увагу на яго паходжаньне і значэньне ў жыцьці возера. Узяць узоры.

На дне возера знаходзяцца магутныя пласты аморфнага торфу і сайропэлю. Узяць узоры таго і другога (патрэбныя для гэтага чаўны і прылады можна здабыць у рыбакоў на прыстані, якая знаходзіцца на заходнім беразе возера).

Карыстаючыся чаўнамі, можна дасьледваць і фаўну возера.

Па сканчэньні дасьледваньня, экскурсанты адпраўляюцца на Малое, інакш—Юраўскае возера, якое знаходзіцца ў 1 вярсьце ад разгледжанага *). Малое возера цалком „заваявана“ расьлінамі разгледжанай вышэй першай зоны. Трэба зьвярнуць увагу на значэньне ў справе зарастаньня гэтага возера зімовых дарог праз яго і разворваньня схілаў, якія знаходзяцца недалёка ад возера (натаўпленьне зольных элемэнтаў). Карысна зьвярнуць увагу на паходжаньне і ролю „чысьцікаў“, якія атачаюць возера.

Па абглядзе, экскурсанты ідуць на адпачынак у вёску Юрава (школа, сельсавет коопэратыў).

3-і дзень.

З раніцы экскурсанты накіроўваюцца (на поўнач ад вёскі) на луг, які шырака раскінуўся навакол ракі Ўсягны. Навакол гэтай ракі можна дасьледваць тыповыя крынічныя балоты (управа ад ракі супроць засьценку Хідры). Зьвярнуць увагу на значэньне торфу крынічных балот— як угнаеньня і апалу. Параўнаць торф данага балота з узорамі торфу, узятымі раней.

З балота экскурсанты варочаюцца да засьценку Хідры (пры ўтоку р. Ўсягны ў раку Гайну). Тут можна азнаёміцца са сьлядамі дзейнасьці бброў (зьвярнуць увагу на сьвежа-згрызеную лазу, агледзець норы і інш.). Калі паставіць нагляданьне належным чынам, дык раніцай, а часам і ў вечары, можна бачыць і самых бброў.

На начоўку экскурсанты варочюцца ў в. Бабі-лес (4-5 вёрст).

4-ы дзень.

Гэты дзень можа быць патрачаны на падагульненьне здабытых на экскурсіі матар‘ялаў і зварот да пункту адпраўленьня—м. Смалявічы.

Увагі да разгледжанага маршруту: 1) Паданы маршрут не зьяўляецца адзіным магчымым у смалявіцкім раёне, але матар‘ялу па пастаўленых мэтах экскурсіі пры паданым маршруце можна здабыць вельмі багата.

2) Праведзеная вышэй, некаторая дэталізацыя тэм экскурсіі ні ў якім разе не разьлічваецца на ўсебаковую вычарпальнасьць. Лічачыся з характарам і мэтамі данай працы, даводзіцца сьвядома прапускаць

*) Гл. схэматычны плян раёну.

шмат пытаньняў, як напрыклад, асаблівасьці разлажэньня дрэўных травяністых парод ва ўмовах анэробіозіса, адклад вівіаніту, вохры (крынічнае балота), асаблівасьці дзейнасьці стромкіх токаў вады, натаўпленьне і роля квасаў (асабліва ўльмінавана), асаблівасьці ўмоў зольнага пажыўленьня балотн. расьлін і інш.


**Літаратура:**

**а. Па экскурсіях у межах Смаляв. раёну.**

**Купрэвіч, В.** „Геолёгічныя экскурсіі“ (на раку „Плісу“, часоп. „Асьвета“, 1926 г., № 6, ст. 130—133.

**Купрэвіч, В.** „Экскурсія на геолёгічнае агаленьне“, часоп. „Асьвета“, 1926 г., № 8, стар. 77—81.

**в. Агульн. літарат. па пытаньнях данай экскурсіі:**

**Аржанов.** „В лиственном лесу“.

**Бем, Г.** „Ботанические экскурсии“

**Висвятский.** „Биологические экскурсии в природу“.

**Вильямс.** Почвоведение.

**Глинка, К.** Почвы.

**Гофман-Монтеверде.** Ботанический атлас.

**Кернер, М.** Жизнь растений.

**Лавров, Г.** Школьные биологические экскурсии

**Комаров, В. Л.** Практический курс ботаники.

**Лямперт.** Жизнь пресных вод.

**Маевский.** Флора средней России.

**Полянский, И. И.** Почва, как предмет школьного естественно-историч. изучения.

„Программы и наставления для наблюдений и собирания коллекций, по естесвенной истории.“ Выданьне 1908 г. (лепей—1914 г.).

**Райков.** Геологические экскурсии в окрестностях Петрограда.

**Райков и Римский-Корсаков.** Зоологические экскурсии, ч. I.

**Серебровский.** Биологические прогулки.

**Ягодовский.** Летние работы по естествознанию.


---

# Анкета для выяўленьня стану экскурсійнае справы.

Падарожніцкая справа: экспэдыцыі, экскурсіі, падарожы і вандраваньні да гэтага часу ня ўлічваліся і таму ня мог быць скарыстаны досьлед у гэтай справе. Падарожніцкая камісія Цэнтральнага Бюро Краязнаўства прыступіла да выяўленьня гэтага досьледу і наогул падліку ўсіх відаў падарож на тэрыторыі БССР і з тэрыторыі БССР. У першую чаргу ўсе краязнаўчыя організацыі—таварыствы і гурткі павінны, не чакаючы прысылкі асобнай анкеты і напамінаньняў, адказаць мажліва больш падрабязна на ніжэйшыя пытаньні і ня толькі на іх, але і аб усіх тых пытаньнях, якія ўзьніклі на мясцох у процэсе працы, а таксама на гэтую анкету.

Вынікі гэтага анкетнага абсьледваньня будуць апавешчаны на старонках „Нашага Краю“.

1. Падрабязны адрас і назва адказваючай організацыі.

2. Якія організацыі і ўстановы вядуць у Вашым горадзе, раёне і г. д. падарожніцкую працу. Поўная назва іх і дакладны адрас. Назваць таксама асоб, якія стаяць на чале гэтых установ.

3. Ці распрацаваны мясцовыя падарожніцкія маршруты, на якія тэмы і ў якім ліку.

4. Ці вядуцца цыклевыя падарожы і па якіх цыклях.

5. Хто кіраўнікі падарожаў, хто іх падрыхтоўвае, праводзіць і правярае.

6. Ці ёсьць плян апрацоўкі падарожаў.

7. Дзе абгаварваюцца мэтодычныя пытаньні падарожніцкай справы, а таксама маршруты і да т. п.

8. Ці дакладваюцца і абараняюцца падарожніцкія пляны і падарожы і перад якімі організацыямі і ўстановамі.

9. Ці існуе організацыйны падарожніцкі цэнтр у Вашай мясцовасьці і роля ў ім—Ваша і органаў: фізкультурных, профэсіянальных, політасьветных і гаспадарчых, якія ведаюць сталоўкамі і отэлямі і да т. п.

10. Ці ёсьць у Вашай мясцовасьці падарожніцкія станцыі, базы, гасьцініцы, сталовыя, харчавальныя пункты і г. д.

11. У чым выяўляецца ўдзел краязнаўчых організацый у падарожніцкай працы краю.

12. Якія падарожныя справачнікі, паказальнікі, карты, пляны, плякаты, лістоўкі і інш. выданьні, якія дапамагаюць выяўленьню асаблівасьцяй данай мясцовасьці, вядомы Вам па Вашым краі (поўная назва, цана, месца выданьня і г. д.). Якія з іх ёсьць у продажы або толькі ў мясцовых бібліотэках, якія ў рукапісах або падрыхтоўваюцца да друку.

Подпісы і дата.

Адказы трэба прыслаць (Менск, Рэволюцыйная, 21, ЦБК) як найхутчэй пасьля атрыманьня гэтага № часопісу на мясцох. Калі чагонебудзь няма—гэта ня значыць, што адказваць ня трэба; неабходна паведаміць аб тым чаго няма, як і аб тым, што ёсьць.

*Падарожніцкая Камісія ЦБК.*

---

# Анкета аб сучасным стане народнага мастацтва.

Сучасны стан народнага мастацтва амаль што невядомы. Дзеля гэтага просьба да ўсіх організацый і паасобных краязнаўцаў даць адказы на гэтую анкету па адрасу: Менск, Рэволюцыйная, 21 (ЦБК).

Адказы трэба даваць па магчымасьці на ўсе пытаньні і самыя дакладныя. Калі таго ці іншага на месцы няма—трэба гэтак і адказаць, не пакідаючы пытаньня без адказу. Не адказваць на тое ці іншае пытаньне можна тады, калі весткі па гэтым пункце невядомы.

1. Назва мясцовасьці (горад, мястэчка, сяло, вёска, сельсавет, раён, акруга).

2. Ці аздабляюць у Вас хаты і іншыя будынкі і як:

а) разьбярнымі аздобамі (дошкамі з выпілаванымі ўзорамі, канькамі, колёнкамі і да т. п.)—назвы і месца зьмяшчэньня іх;

б) размалёўкай хат і іншых будынкаў, або вакон, дзьвярэй, комінаў, акяніц і г. д.,—якія колеры, малюнкі.

в) малюнкамі на сьценах, печах і інш.; пры дапамозе клішэ (узору) выразанага з бульбіны, пэндзаля, або інакш і якімі колерамі.

г) вычэсваньнем дзьвярэй, брам і інш. з узорамі і назвы іх.

3. Ці выразаюць узоры на палках, колеры і назвы ўзораў; колер палкі; якія галоўкі палак.

4. Ці выразаюць узоры на драўняных вырабах: місках, санях, сальніцах і да т. п.; узоры, назвы.

5. Ці размалёўваюць кублы, дугі, скрыні і да т. п.; назвы рэчаў, колераў, узораў.

6. Ці выразаюць фігуры з дрэва; хто і дзе жыве, або жыў.

7. Якія музычныя прылады вырабляюць у Вас; назвы, колеры, узоры.

8. Пералічэце назвы, колеры і ўзоры аздоб з паперы (кветкі, фіранкі, рушнікі і інш.).

9. Пералічэце назвы, узоры і колеры мастацкіх аздоб з саломы (павукоў і інш), а таксама рэчаў (скрыначак і інш.); тое-ж з інш. матар'ялаў (лазы, карэньняў і да. т. п.).

10. Што ткуць зараз на сяле (пералічыць назвы вырабаў, узоры, колеры, матар'ял).

11. Чым і як вышываюць сарочкі: крыжам, нанізваньнем, гладзьдзю, выразаньнем, мярэжкаю і г. д., узоры і колеры нітак.

12. Чым і як вышываюць хвартухі, ручнікі, узоры і колеры нітак.

13. Назвы ўзораў і колераў нітак ў пэратыканьнях і з якою мэтаю пэратыкаюць—на сарочкі, ручнікі, посьцілкі і г. д.

14. Назвы ўзораў і колераў у тканьні вузораў (з быццам нашытых зьверху тканіны нітак) пры дапамозе дошчачак.

15. Ці малююць малюнкі на тканінах, што і якімі колерамі.

16. З чаго і якіх колераў ткуць андаракі, посьцілкі, коўдры і да т. п.

17. З чаго і якіх колераў ткуць паяскі; іх узоры.

18. Ці аздабляюць кажухі, сьвіты, гарсэты і да т. п. узорамі з нітак; колеры, назвы ўзораў, месца іх зьмяшчэньня.

19. Ці робяць і ці носяць намёткі; узоры на іх, колеры.

20. Ці фарбуюць тканіны ў адзін колер; колеры; адкуль бяруць фарбы; фарбуюць ніткі ці тканіну.

21. Ці набіваюць або друкуюць узоры на тканінах; колеры тканін і ўзораў.

22. Як і чым фарбуюць яйцы к вялікадню (колеры, узоры).

23. Ці вырабляюць пернікі; назвы, колеры, узоры; інш. мастацкія вырабы з цеста і да т. п. матар'ялу.

24. Ці вырабляюць кавалі якія-небудзь рэчы з аздобамі: клямкі, скобы і да т. п., назвы, узоры.

25. Ці вырабляюць цацкі, назвы, матар'ял, колеры.

26. Ці ёсьць ганчары і што ўласна яны вырабляюць; назва вырабаў, малюнкаў, цацак і да т. п.

27. Ці ходзяць у Вас з канём, бэтлейкай, казой і г. д. і якія рэчы для гэтага вырабляюць.

28. Імя, імя па бацьку і адрас таго, хто дае весткі.

---

# Аб зборы бібліографіі да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.

Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка, у зьвязку з надыходам дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі, разам з Кніжнымі Палатамі Саюзных Рэспублік апрацоўвае поўную бібліографію пэрыодычных выданьняў, якія вышлі з 1917 г. (апошнія 10 год). Гэтая праца можа

быць выканана дакладна толькі пры дапамозе ўсіх краязнаўчых арганізацый на мясцох. Падтрымліваючы гэтую працу, ЦБК, разам з Дзяржаўнаю Бібліотэкаю, зварочваецца да ўсіх Краязнаўчых організацый БССР з просьбаю аб дастаўцы ў Бібліотэку вестак аб пэрыодычных выданьнях на ўсіх мовах, якія выходзілі на тэрыторыі вашае акругі, або, раёну ў наступнай форме:

*Назва часопісаў:* (Поўны загаловак, напрыклад, *Полымя.* Беларускі часопіс літаратуры, політыкі, экономікі і гісторыі).

*Пэрыодычнасьць:* (Штодзенны, раз у тыдзень, раз у месяц і г. д.)

Калі пачаў выходзіць, колькі ўсіх вышла нумароў і калі скончыўся.

Рэдактары і выдаўцы (з усімі зьменамі).

Тыраж апошніх нумароў кожнага месяцу.

Падпісная цана на год, месяц і асобны нумар.

Дзе друкаваўся (паказаць друкарню).

Калі часопіс апісана не па камплекту, а па асобным нумары, то паказаць па якім.

Адначасна Бібліотэка, зьбіраючы ўсё, што вышла на тэрыторыі БССР, а таксама ўсё, што тычыцца беларусазнаўства, з вялікаю ахвотаю купіць тыя часопісы, а таксама паасобныя выданьні, якіх у Бібліотэцы няма. Весткі пажадана атрымаць да 1-га ліпня 1927 году. Адрас: Менск, Савецкая, 94, Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка.

Ц. Б. Краязнаўства Бел. Дзярж. Бібліотэка.

---

# Інструкцыя да зьбіраньня матар'ялаў па вывучэньні чмялёў.

Канюшына мае вялікае значэньне ў разьвіцьці сялянскай гаспадаркі, а няўстойчывасьць ураджаю насеньня можа ўтварыць вельмі дрэнныя ўмовы для пашырэньня пасеваў яе, ураджай-жа насеньня залежыць ад апылкавацеляў, з якіх галоўнымі зьяўляюцца чмялі.

Гэтым летам у ваколіцах Менску будуць вясьціся працы па вывучэньні гэтага пытаньня, але для атрыманьня больш сталых вынікаў, неабходна мець матар'ял з розных месц Беларусі, вось чаму Сельска-Гаспадарчая сэкцыя ІБК і ЦБК зварочваецца да ўсіх краязнаўчых організацый і да паасобных сяброў яе, з просьбаю, прыняць удзел у гэтай працы. Гэтая дапамога павінна выявіцца ў зьбіраньні чмялёў на канюшыне ў тры моманты: 1) калі яна пачынае цьвісьці, 2) у пэрыод масавага цьвіценьня і 3) у часе зацьвітаньня. Апроч таго, вельмі цікава было-б атрымаць чмялёў, злоўленых і на дзікай расьліннасьці, асабліва пажадана мець такі матар'ял з акруг: Гомельскай, Мазырскай, Рэчыцкай і Слуцкай.

Да асоб, якія выявяць сваё жаданьне рабіць гэтыя зборы, просьба, паведаміць аб сваім месцы працы і свой паштовы адрас.

Усю корэспондэнцыю і матар'ялы накіроўваць на адрас: г. Менск, Рэв., 21, Ц.Б.К. (Бясплатна, заг. СНК СССР ад 2 IX 1924 г. і 26/XII 1922 г.),

## Кароткая інструкцыя для зьбіраньня чмялёў *).

1. Чмялі ловяцца ўсе, якія сустракаюцца (не зьвяртаючы ўвагі на тое, што можа быць шмат аднолькавых) на канюшыне ў адзін пэрыод пажадана ня менш 150—200 штук.

2. Сабраныя чмялі звычайным парадкам укладаюцца на вату. На этыкетцы павінна быць: 1) месца лову, 2) месяц і дзень, 3) патрачаны час на лоў (напр.: лавіў ад 9 г. 2 хв. ран. да 1 г. 10 хв.).

3. Пры заморваньні неабходна сачыць за тым, каб сьценкі марылкі не рабіліся вільготнымі: (пляшка для зьбіраньня не павінна быць малой), бо чмялі будуць мокнуць і зробяцца нягоднымі для апрацоўкі.

4. На дзікай расьліннасьці збор можна пачынаць з моманту зацьвітаньня вярбы, гэтыя зборы больш цікавы веснавыя, зробленыя прыблізна да канца чэрвеня.

*) Больш падрабязна аб зьбіраньні, заморваньні і ахове шасьціногіх глядзі: А. Фядзюшын „Кароткая інструкцыя для зьбіраньня і аховы зоолёгічных колекцый“, стар. 27—35. Выданьне Інбелкульту 1925 г.

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

### Пасяджэньне Прэзыдыуму ЦБК 12 студзеня 1927 году.

Заслуханы даклад тав. Аляксандрава аб працы Яўрэйскай Камісіі ЦБК, з якога выявілася, што працу ў гэтай галіне прыходзіцца пачынаць спачатку. Да гэтага часу зроблен падлік матар'ялаў у архівах. Ёсьць матар'ялы па дасьледваньні бюджэту яўрэяземляроба, а таксама яўрэйскай рабочай моладзі БССР і шэраг прац па экономіцы. Выпрацавана інструкцыя для дасьледваньня мястэчка. Ёсьць сувязь з корэспондэнтамі. Пасьля заслуханьня дакладу было даручана тав. Аляксандраву выпрацаваць да Усебеларускага Зьезду плян працы, які абгаварыць у Ярэўскай сэкцыі Зьезду. Пры зносінах з месцамі прапанована мець цесную сувязь з ЦБК. Інструкцыю па дасьледваньні мястэчка заслухаць на пасядж. ЦБК.

Другім быў заслуханы даклад тав. Дамброўскага аб краязнаўчай працы сярод польскай нацыянальнасьці.

Умовы працы сярод польскага насельніцтва яшчэ ня высьветлены і краязнаўчая праца яшчэ не распачата. Польскія сэкцыі існуюць у Мазыры, Слуцку, Полацку і Бабруйску. Краязнаўчую працу магчыма разгарнуць у Талачыне, Бярэзіне, Магілеве, і Рэчыцкай акрузе, дзе ёсьць 5 польскіх сельсаветаў. Па дакладу была вынесена пастанова: даручыць тав. Дамброўскаму скласьці орыентовачны плян працы польскіх краязнаўчых сэкцый і гурткоў. Гэты плян абгаварыць з польскімі прадстаўнікамі на Зьезьдзе. Асобнай Польскай сэкцыі пры ЦБК не ствараць, а зьвязацца з Польскай сэкцыяй Менскага Акруговага Таварыства. Даручыць тав. Дамброўскаму праз Наркамасьветы і Польскі Аддзел Інбелкультуры прыняць меры популярызацыі „Нашага Краю“.

### Пасяджэньне 26 студзеня.

Заслуханы і зацьверджаны тэзісы і проект рэзолюцыі па дакладах т. т. Казака і Касьпяровіча на 2 Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.

Тав. Шашалевіч вылучаны сталым прадстаўніком у Камісію па ахове помнікаў.

### Пасяджэньне 2 лютага.

Заслуханы і зацьверджаны: „Справаздача ЦБК“ — даклад т. Казака і „Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР“—даклад т. Касьпяровіча на 2 Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.

Вынесена пастанова аб аплаце краязнаўчых матар'ялаў старшыні Асіпавіцкага райтаварыства т. Немцава—картаграм, дыяграм і карт.

### Пасяджэньне 7 лютага.

Заслухан і зацьверджан пералік дакладаў на 2 Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.

### Пасяджэньне 13 лютага.

Заслуханы даклад аб стане краязнаўчай працы ў Гомельшчыне.

У 1923 г. організавалася Гомельскае Бюро Краязнаўства як дапаможная Губ. АНА ўстанова. Былі заслуханы даклады, сабраны запіскі аб Гомелі, знойдзены 2 рукопісы часоў далучэньня Гомельшчыны да Расіі. Яны складаюць вельмі каштоўны матар'ял для вывучэньня Гомельшчыны. Укладзены шэраг мэтодычных паказаньняў і програмы назіраньняў і дасьледваньняў.

2 лютага г. г. было заснавана Акруговае Таварыства на сходзе заснавальцаў, куды ўвайшлі і ранейшыя працаўнікі Бюро.

Лінія працы жыцьцёвая, але трэба каб ЦБК дапамагло атрымаць будынак і наладзіць сувязь з партыйнымі, грамадзкімі, профсаюзнымі і савецкімі ўстановамі і організацыямі, бо гэтага Т-ву яшчэ ня ўдалася зрабіць.

Маецца на ўвазе выданьне апісаньня Гомельскай акругі, абсьледваньне возера Равучана і археолёгічнае абсьледваньне г. Гомеля, але на ўсё гэта патрэбна грашовая дапамога ЦКБ.

На губэрскіх настаўніцкіх курсах была праведзена мэтодычная краязнаўчая праца.

Краязнаўчыя гурткі ёсьць у Чычэрску і Чыстых Лужах, мэтэоролёгічныя станцыі—у Гомелі (2), у Чычэрску і ў Барацьбе.

Ёсьць сувязь з ЦБК РСФСР.

Другім быў заслуханы даклад аб краязнаўчай справа ў Рэчыцкай акрузе.

Таварыства яшчэ няма. Есьць ініцыятыўная група з 6 асоб, якая і называецца—Бюро Краязнаўства пры Мэтбюро. Ячэйкамі былі

райпэдсаветы. Навукова-дасьледчая праца не вялася, хоць і былі краязнаўцы—адзінкі. Сваімі сіламі была організавана мэтэоролёгічная станцыя II разраду.

Апрача гэтага ёсьць Васілевіцкая дзяржаўная станцыя і пры Брагінскай школе. Для Бюро патрэбны анэроід, атлас воблакаў Кузьняцова і нормальны тэрмомэтр.

Па абодвых дакладах была вынесена пастанова даручыць тав. Казаку аб усіх зачэпленых у дакладах пытаньнях дагаварыцца з прэзыдыумам Інбелкульту.

### Пасяджэньне 23 лютага.

Заслуханы даклад тав. Аляксандрава аб працы Яўрэскай сэкцыі на 2 Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе і аб далейшай працы Яўсэкцыі. Па дакладу пастаноўлена Яўрэйскай сэкцыі ЦБК прыступіць да тэрміновага выкананьня намечаных мерапрыемстваў.

Пасьля обмяркоўвалася пытаньне аб заяўцы ЦБК на замежныя камандыроўкі.

Прычым было пастаноўлена, прымаючы пад увагу вялікую важнасьць скарыстаньня краязнаўчай практыкі клясычных краін краязнаўства—Фінляндыі, Латвіі і Эстоніі для разьвіцьця краязнаўства ў БССР, прасіць Сакратарыят Інбелкульту камандыраваць навуковага сакратара ЦБК т. Касьпяровіча ў гэтыя краіны з мэтаю вывучэньня ў іх краязнаўчага руху. Камандыроўка маецца на ўвазе тэрмінам на 1 месяц па маршруту Менск—Ленінград—Гельсінгфорс—Рэвель — Рыга — Віцебск—Менск з заездам у провінцыяльныя краязнаўчыя організацыі вызначаных краін.

### Пасяджэньне 9 сакавіка.

Заслухана рэцэнзія т. Касьпяровіча на даклад проф. Люнгерсгаўзена „Да пытаньня аб пастаноўцы курсу беларусазнаўства ў вышэйшых школах БССР“, у якой была выказана думка, што выкладаньне курсу беларусазнаўства ў сучасны момант не адпавядае ні мэтам ні мэтодам азнаямленьня студэнтаў з комплексам вед аб Беларусі—беларусазнаўствам. Курс гэты мае часовы характар, бо ён будзе непатрэбны, калі будзе адпаведны кадр стала падрыхтаванай моладзі ў вышэйшыя школы. Курс беларусазнаўства і мэтод выкладаньня яго, прапанованы проф. Люнсгергаўзенам, павінен падмяніць сучаснае выкладаньне і зьмест прадметаў беларусазнаўства. Ён, як катэдра навуковай географіі Беларусі, будзе вельмі карысны доўгі час, пакуль нашы беларускія школы ня стануць тэрыторыяльна-беларускімі школамі. Проект катэдры беларусазнаўства, прапанованы проф. Люнсгергаўзенам, не вырашае пытаньня аб катэдры мэтодолёгіі і організацыі краязнаўства ў вышэйшых школах, бо катэдра беларусазнаўства ня мае на мэце і ня можа вырашыць гэтага. ЦБК павінна дабіцца праз адпаведныя органы заснаваньня ў вышэйшых школах катэдры мэтодолёгіі і організацыі краязнаўства.

Пасьля абгаварэньня рэцэнзіі было пастаноўлена ў мэтах выкананьня пастаноў 2 Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду прасіць Сакратарыят Інбелкульту паставіць пытаньне ў Наркамасьветы аб заснаваньні катэдры мэтодолёгіі і організацыі краязнаўства ўва ўсіх вышэйшых школах і такога-ж элемэнтарнага курсу ўва ўсіх тэхнікумах.

Пасьля была заслухана інформацыя тав. Азбукіна аб стане працы па апрацоўцы і выданьні матар'ялаў абсьледваньня Асіпавіцкага раёну, прычым пастаноўлена ўжыць усе захады да хутчэйшага атрыманьня рукапісаў ад аўтараў. Выдаваць вынікі абсьледваньня кніжкамі асобна: прыродна-географічную, культурна-гістарычную і грамадзка-экономічную галіну. Вылучыць адказную рэдакцыйную тройку з т. т. Казака, Касьпяровіча і Азбукіна для рэдагаваньня зборніка.

### Пасяджэньне 21 сакавіка.

Заслуханы даклад аб стане краязнаўчай справы ў Бабруйшчыне, з якога выявілася, што, ня гледзячы на цяжкія ўмовы працы і акруговае таварыства ня спыняе разгортваньня краязнаўчай працы па акрузе і добра наладзіла яе з організацыйнага боку і ў дасьледчым напрамку.

„Праца ў Гарадзецкім і Жлобінскім раённым таварыстве вядзецца здавальняюча, у Стрэшынскім заняпала. 2-е Бабруйскае і Буда-Кашалёўскае раённыя т-вы працы яшчэ не разгарнулі і організацыйна не аформіліся.

Па дакладу вынесена пастанова зьвярнуцца ад ЦБК ў Бабруйскі Акруговы Выканаўчы Камітэт з просьбай аб водпуску мінімальных сродкаў для працы Бабруйскага Акруговага Т-ва Краязнаўства і дапамагчы пераабсталяваць краязнаўчы музэй з прычыны важнасьці яго, як музэю рэспубліканскага маштабу.

Другім быў заслуханы даклад тав. Дамброўскага аб організацыі краязнаўчай працы сярод польскай насельнасьці.

На мясцох справа разьвіваецца слаба. Разасланы некаторыя інструкцыі. З Полаччыны паступілі музэйныя матар'ялы; наогул паступае польскі фольклёр. На жаль краязнаўцы вельмі слаба падрыхтаваны і іх мала.

У рэзолюцыі па дакладу адзначана слабая сувязь польсэкцый краязнаўчых організацый з ЦБК.

На гэтым-жа пасяджэньні вызначана рэдкалегія „Нашага Краю“ ў складзе т. т. Бядулі, Бялугі, Казака і Касьпяровіча і зацьцьверджаны плян пасяджэньняў ЦБК на сакавік і красавік м-цы.

Апошнім пытаньнем быў даклад т. Марука, аб экспэдыцыях, якія мае на мэце наладзіць Т-ва Краязнаўства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце.

Па дакладу пастаноўлена лічыць органі-

зацыю экспэдыцый вельмі карыснаю. Лічыць мэтазгодным накіраваць экспэдыцыю ў складзе 8—10 чалавек пад загад Мазырскага акруговага таварыства краязнаўства для вывучэньня ўдарнага раёну.

## У падсэкцыі ІБК па вывучэньні хатніх рамёстваў.

Падсэкцыя Інбелкульту па вывучэньні хатніх рамёстваў, з мэтай вывучэньня хатняй прамысловасьці разаслала па ўсіх Сельсаветах Беларусі анкеты. Значная частка анкет ужо запоўнена і зьвернута ў Інбелкульт. На першым месце па звароце анкет ідуць Магілеўская, Мазырская і Бабруйская акругі. Першая з іх зьвярнула ўжо 60% атрыманых ёю анкет. Адстаюць Слуцкая, Менская і Аршанская акругі. Менш за ўсіх зьвярнула Полацкая акруга. Анкеты прысылаюцца кожны дзень. Да чэрвеня мы лічым, што ўсе анкеты ўжо будуць зьвернуты. Пасьля атрыманьня ўсіх анкет пачнецца іх распрацоўка. На падставе анкетных даных падсэкцыя выдасьць карту пашырэньня хатняй прамысловасьці Беларусі і нарыс „Стан хатняй прамысловасьці Беларусі“. З папярэдняга прагляду атрыманых анкет відаць, што значная частка таварышоў уважліва аднеслася да справы і прыслалі надзвычайна каштоўны матар'ял. З якаснага боку трэба таксама адзначыць анкеты прысланыя з Магілеўскай акругі. Неабходна і астатнім акругам раўняцца па Магілеўшчыне.

Рак. Р. Пр.

## Агляд музычнага фольклёру.

У Цэнтральным Бюро Краязнаўства да гэтага часу атрыманы наступныя матар'ялы па музычным фольклёры Беларусі:

1) т. Т. С. Мікалаева з Касьцюковіцкага раёну, Калінінскай акругі 50 розных мэлёдый і, апрача таго, яшчэ адна мэлёдыя вясельная ў 50-ці адменьніках.

2) т. Л. М. Пятрова з Сьвіслацкага раёну, Бабруйскай акругі 17 мэлёдый.

3) т. А. Кірыка з Любанскага раёну, Слуцкай акругі 16 мэлёдый.

4) Настаўніка Бруя з Тураўскага раёну, Мазырскай акругі 7 мэлёдый.

5) т. А. Немцава з Асіпавіцкага раёну, Бабруйскай акругі 1 мэл. і 3 варыянты на мотыў Лявоніхі.

6) т. М. Хведаравай з Талачынскага раёну, Аршанскай акругі 3 мэлёдыі.

7) т. А. Крукоўскага 3 мэлёдыі (2—з Мазыршчыны, 1—з Бабруйшчыны).

8) т. Я. Н. Сьвірскага з Горацкага раёну, Аршанскай акругі 1 песьня.

9) т. М. Цярнова—4 мэл. з Касьцюковіцкага раёну, т. У. Макаева—2 мэл. з Ляднянскага раёну, М. Гарадзюшкі—1 мэл. з Аршанскага раёну і т. П. Сьніткі—2 песьні з Бешанкавіцкага раёну, Полацкай акругі.

З музычна-этнографічнага боку цікавы толькі матар'ялы першых 8 асоб, асабліва т. т. Мікалаева, Пятрова, Кірыка і Бруя; матар'ялы-ж апошніх 4-х зьбіральнікаў ніякай вартасьці ня маюць, як запісаныя няграматна.

На вялікі жаль трэба адзначыць, што зьбіральнікі зусім не клапаціліся запісаць дзіцячыя песьні і прыпеўкі да гульняў, аб чым яны, як настаўнікі ў школах, перш за ўсё павінны былі-б падбаць, ведаючы няхват гэтых песень для дашкольных і школьных дзяцей. З другога боку некаторыя мэлёдыі так гладка ўціснуты ў сысмэтрычна-рытмічную форму падзелам на тахты, што вызываюць сумняваньні ў правільнасьці запісаў.

Рытміка ў народных мэлёдыях, агульна ведама, не заўсёды ўкладаецца ў сысмэтрычныя формы песьні, і няўдалая ўтрыроўка яе падзелам на тахты часта зьмяняе і зацямняе запраўдны характар народнай песьні. Народную песьню неабходна запісваць з найвялікшай увагай, дадаючы драбнейшымі ноткамі да асноўнай мэлёдыі і тыя прыкрасы, якія ў сьпевака (чкі) можна заўважыць. Асноўныя ноты мэлёдыі ад тых, якія аздабляюць, нялёгка пазнаць. Дзеля гэтага раіцца мэлёдыі пры запісваньні заўсёды *падтэкстоўваць са сьпеву* першымі 4-ма або і больш штрофкамі тэксту песьні і ў процэсе гэтым уясьняць і аналізаваць запісаную мэлёдыю, і толькі ўжо пасьля таго, памеркаваўшы, дзяліць мэлёдыю на тахты, ня ўлічваючы дробна пісаныя ноткі, якімі аздабляюцца мэлёдыі. Да апрацаванай такім спосабам мэлёдыі трэба дадаць і мэлёдыю, у пачатковым запісу без патахтаваньня з усімі аздобамі, а таксама і ўтрыраванымі ў тахтах ноткамі пры дапамозе фэрмат або скарачэньня працягу некаторых нотак, каб можна было пераканацца ў правільнасьці патахтаваньня і, калі няправільна зроблена, паправіць, або пакінуць песьню без патахтаваньня. Хай зьбіральнік памятуе, што патахтаваньне не заўсёды магчыма, як і не заўсёды магчымы дакладны запіс мэлёдыі, які можа зрабіць толькі фонограф, дзеля чаго найлепш зробіць той, хто ў такіх выпадках пакіне запіс мэлёдыі без патахтаваньня, як гэта раіць інструкцыя Камісіі бел. песьні пры Музпадсэкцыі ІБК, якая была разаслана ва ўсе краязнаўчыя організацыі.

Заканчваючы гэтую кароткую інформацыю, дазволю сабе выказаць надзею, што краязнаўцы больш энэргічна, чым да гэтага часу, возьмуцца за зьбіраньне бел. народных мэлёдый і перасылку іх у Музпадсэкцыю ІБК.

А. Грыневіч.

## Карысныя выкапні Дрыбінскага раёну.

Дрыбінскім раённым таварыствам краязнаўства заўважана па раёне некалькі досыць карысных выкапняў. Каштоўнымі выкапнямі больш за ўсё багата даліна р. Проні і яе левыя прытокі—Быстрай. Па р. Проні, каля вёскі Стара-Кожаўкі і Старага Прыбужжа, і па р. Быстрай і каля сяла Клед-

нявіч і Студзянца, знойдзена многа балотнай фарбы рознага колеру і сіняй мядзянкі, чорнай і чырвонай, а таксама і вохры. Фарбы гэтыя ў сухую пору году можна ламаць з масы камочкамі, якія потым лёгка рассыпаюцца ў парашок, бяручыся за пальцы, калі іх пачнем расьціраць. Фарбамі гэтымі мясцовыя сялянкі карыстаюцца (асабліва чорнай) для фарбаваньня тканіны кладучы маткі ў гразь з распушчанай тэй або іншай фарбай.

На левым беразе р. Быстрай супроць сяла Студзянца ёсьць многа крэйды. Вучні мясцовай школы робяць з яе сабе грыфелі для пісаньня на кляснай дошчцы. Крэйда знойдзена ў невялікай колькасьці таксама па р. Сярпейцы і на р. Проні, супроць сяла Галавіч.

Каля вёскі Палоскі ёсьць многа вапняковага каменю, з якога сяляне гэтай вёскі, выпальваюць вапну і гэтая праца зьяўляецца ў іх галоўным падсобным заняткам. Гэты камень ёсьць таксама каля сяла Студзянца, па левым беразе р. Быстрай, але колькасьць яго ў зямлі тут не дасьледвана.

Каля палосак ёсьць таксама многа гаршковай гліны, якая здаўна скарыстоўваецца часткаю гр. мястэчка Дрыбіна для вырабу гаршкоў і місак. Гаршковая гліна ёсьць яшчэ ў Карэбах на хутары гр. Лебедзева, але тут запасы яе пакуль што нікім не скарыстоўваліся. Недалёка ад вёскі Жувань (12 в. ад Дрыбіна) у размытым вадою рове знаходзяцца досыць значныя запасы чыстай і белай гліны—каоліну, які да гэтага часу, як відаць, нікім яшчэ не скарыстоўваўся. Каля рэчкі Быстрай выпадкова быў знойдзены ў пяску кавалак каштоўнага каменя, амэтысту. Па рэчцы Проні па ўсім яе працягу знаходзіцца ў вадзе чорны дуб, з якога ў некаторых вёсках вырабляюць сталы, шафы і. г. д.

Я. Г-оў.

## Бельскае Т-ва Краязнаўства.

Утварылася Бельскае Т-ва 2-га красавіка 1924 г., разгарнуўшыся з Гуртка Аматараў Прыродазнаўства, які ўтварыўся ў 1922 годзе і здолеў досыць шырака разгарнуць сваю працу. Ім былі сабраны колекцыі ботанічныя (гэрбары), энтомолёгічныя, геолёгічныя, іхтыолёгічныя і археолёгічныя; праведзены 3 археолёгічныя экскурсіі, з якіх 2 праваджаліся раскопкамі; вяліся назіраньні гідролёгічныя, фэнолёгічныя, мэтэоролёгічныя, орнітолёгічныя і ботанічныя. За ўвесь час было прачытана 12 наступных дакладаў:

1. О. А. Колінс—Аб адбівальна-проекцыйным апараце.

2. П. С. Мікалаеў і М. Г. Салодчанка—Электрычнасьць і яе ўжываньне.

3. А. І. Галоцік—Радый і яго праменьні.

4. В. П. Дабратворскі—Што такое жыцьцё і ў чым яго сутнасьць.

5. А. К. Захараў—Аб вялікіх і малых адлегласьцях.

6. В. І. Далгашоў—Аб фэнолёгічных назіраньнях.

7. К. П. Карэцкі—Матэматыка, як навука аб функцыях.

8. Д. А. Транкоўскі — Аб пахаджэньні жыцьця.

9. А. І. Галоцік — Найноўшыя посьпехі радыо і авіотэхнікі.

10. Д. А. Транкоўскі — Краязнаўства і роля аматара ў ім.

11. А. В. Цьвяткоў — Аб археолоёгічнай працы.

12. Д. А. Транкоўскі — Аб зьбіраньні шасьціножак і складаньні колекцый.

Пры гуртку існавала мэтэоролёгічная станцыя 3 разраду.

Калі гурток набыў цалкам краязнаўчы ўхіл, ён ператварыўся ў таварыства краязнаўства.

Навуковая і організацыйная праца Т-ва выявілася ў вядзеньні назіраньняў (фэнолёгічных, гідролёгічных, мэтэоролёгічных, ботанічных і інш.); у зьбіраньні колекцый (гэрбары, энтомолёгічныя, карысных выкапняў, як агняўпартая гліна, жалезная і мядзяная руда і інш., акамянеласьці каменнавугольнага пэрыоду і інш.); у складаньні бібліографічнага паказьніка літаратуры па Бельскім павеце і зьбіраньне яе; у складаньні плянаў працы прыродна-гістарычнай, гісторыка-археолёгічнай, этнографа-экономічнай і сельска-гаспадарча-экономічнай сэкцый. Былі ўжыты меры да популярызацыі ідэй к-ва ў грамадзтве, да наладжаньня сувязі з цэнтральнымі навуковымі ўстановамі і інш.

Таварыствам падрыхтаваны да друку наступныя працы:

1) Аб натуральным руху насельніцтва ў Бельскім павеце Смаленскай губэрні за 1921—23 гады ўключна—С. Л. Танельзон.

2) Нарыс клімату Бельскага павету Смаленскай губ.—В. І. Далгашоў.

3) Зводкі веснавых фэнолёгічных назіраньняў за 1921—24 г. г. ўключна.

4) Анкеты васеньніх фэнолёгічных назіраньняў.

Рыхтуецца да друку;

1) А. В. Цьвяткоў—Аб рабаўладніцкіх дакумэнтах XVIII сталецьця (паводле матар'ялаў Бельскага павету, Смаленскай губ.).

2) С. Л. Тапельзон—Аб крываўцы і брушным тыфусе ў Бельскім павеце.

3) Зводкі васеньніх фэнолёгічных назіраньняў за 1923 і 24 г. г.

4) А. В. Цьвяткоў—Падарожныя нататкі краязнаўцы па Бельскім павеце.

5) Анкета веснавых фэнолёгічных назіраньняў.

Таварыства трымае сувязь з Цэнтральнымі Навуковымі ўстановамі РСФСР і з ЦБК БССР.

## Краязнаўчы гурток пры Гарадзецкай сямігадовай школе (Бабруйская акруга).

У канцы лютага гэтага году пры Гарадзецкай сямігадовай школе організаваўся школьны гурток краязнаўства. У гурток за-

пісалася больш 60 вучняў. Ужо адбылося некалькі агульных сходаў, абралі праўленьне і рэвіз. камісіі гуртка, а таксама прыняты статут школьнага гуртка краязнаўства (Наш Край, № 2, 1927). Гурток падзяляецца на 3 сэкцыі—прырода-географічную, грамадзка-экономічную і культурна-гістарычную. Сябры раённага кр. т-ва праводзяць заняткі па сэкцыях. Вучні зацікаўлены працай, зьбіраюць матар'ялы, вядуць назіраньні. Пры сямігодцы організуецца і раённы краязнаўчы музэй, у якім таксама будуць працаваць сябры краязнаўч. гуртка. Ал. Паўлаў.

## 15-ці гадовы юбілей Кастрамскога Навуковага Т-ва.

Кастрамское Навуковае Таварыства па вывучэньні мясцовага краю 18-га мая г. г. сьвяткуе 15-ую гадавіну сваёй працы. У сувязі з гэтым Т-ва організуе Губэрскі Краязнаўчы Зьезд (14, 15 і 16 мая), а 18-га мая ў памяшканьні Кастрамскога Дзяржаўнага Музэю адбудзецца ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае юбілею т-ва.

# Бібліографія.

**А. Сержпутоўскі.** Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету.

Надрукавана коштам Інстытуту Беларускае Культуры ў Дзяржаўнай Акадэмічнай друкарні ў Ленінградзе. 1926. VI+252+1 стар.

У гады савецкага будаўніцтва беларускае культуры, калі заложан моцны грунт для цэлага шэрагу беларускіх навуковых дысцыплін, пачынае зараджацца ў беларускай мове і этнографічная навука. Ёсьць даволі значная па ліку і па аб'ёме літаратура аб беларусах у мове расійскай (напрыклад, працы Бяссонава, Шэйна, Раманава, Нікіфароўскага, Дабравольскага і іншых) і польскай (напрыклад, працы Чачота, Зянкевіча, Рыпінскага, Федароўскага і іншых) між тым як у беларускай мове маем некалькі выпадковых, малюсенькіх зборнічкаў фольклёрных матар'ялаў (напрыклад, Ластоўскага, Ельскага, Грыневіча, Станіча). І толькі кніга А. Сержпутоўскага, загаловак якой прыведзены ў пачатку, зьяўляецца першай паважнай кнігай, якая сур'ёзна кладзе фундамэнт беларускай этнографічнай навукі. З гэтага пункту погляду зьяўленьне ў сьвет. кнігі ў 252 старонкі, бясспрэчна, зьяўляецца фактам даволі выдатным у разьвіцьці беларускай этнографіі.

Па тэй прычыне, што аўтарства кнігі належыць асобе, якая вядома шэрагам друкаваных работ па беларускай этнографіі ў расійскай мове, што ўкладальнік кнігі выхаваны ў этнографічных кірунках расійскай этнографічнай навукі, якая мае дакладна выяўленыя мэтоды, што кніга выдана вышэйшай навуковай установай у краі Інстытутам Беларускае Культуры—яна вымагае да сябе сур'ёзнага навуковага падыходу.

Як і казкі, якія выданы ў 1911 г. („Сказки и разсказы бѣлоруссовъ-полѣшуковъ". Спб.), гэты зборнік каштоўны ў адносінах мовы сваімі ўдасканаленымі запісамі асаблівасьцяй народнай мовы, але аб гэтым слова мовазнаўцам. Зборнік цікавы і з боку зьместу, але тут трэба згадзіцца з акад. Карскім, які пісаў аб першым зборніку Сержпутоўскага: „что касается содержанія сказокъ и разсказовъ, то въ этомъ отношеніи сюжэты ихъ больше общеизвестные" (Е. Карскій, Бѣлорусы, III, 3; стар. 299). Але зборнік мае і некаторыя недахопы сур'ёзнага характару. Яшчэ ў 1908 г. Д. Зяленін адзначаў адсутнасьць навуковага мэтоду ў зборніках фольклёрнага матар'ялу А. Сержпутоўскага („Отчетъ имп. русского географического общества за 1908 г." Спб. 1909. Приложения, стар. 19—22), гэтае самае прыходзіцца адзначыць і ў адносінах да кнігі, якая разглядаецца зараз. Каб зборнік меў сур'ёзную навуковую вартасьць, мала аднаго добрага запісу тэкстаў—трэба іх навукова апрацаваць: 1. Распалажыць матар'ял паводле прынятай у этнографічнай навуцы ў адносінах да казак тэматычнае клясыфікацыі, а не выпадкова па ўласнай фантазіі; „разабраны ў зборніку казкі і апавяданьні па баечніках. Творы аднаго і таго самага баечніка паложаны ў тым самым парадку, у якім іх мне апавядалі баечнікі" (стар. VI),—піша Сержпутоўскі. Калі падобным парадкам распалажэньня матар'ялу аўтар хацеў яскравей паказаць рэпэртуар баечнікаў, то гэта можна было-б зрабіць пры дапамозе спэцыяльных паказчыкаў, як у свой час рабіў Раманаў у сваіх „Бѣлорусскихъ Сборникахъ". 2. Трэба апрацаваць тэмы казак, правядзеньнем свайго сюжэту па ўсіх падобных сюжэтах ня толькі славянскага фольклёру, але па мажлівасьці і па фольклёрах іншых народаў. Калі гэтага выканаць нельга было, то параўнаць матар'ялы з адменьнікамі беларускага фольклёру трэба было абавязкова; надрукавана беларускіх казак ня так ужо шмат, маем зборнікі Дзьмітрыева, Шэйна, Дабравольскага, Федароўскага, Сержпутоўскага і Раманава (самы грунтоўны збор казак) і некаторыя іншыя сабраньні дробнага характару, якія раскіданы па газэтах. Тым больш, што разабрацца ў гэтым матар'яле дапамог-бы „Систематическій указатель темъ и варіантовъ русскихъ народныхъ сказокъ" А. М. Сьмірнова („Извѣстія Отдѣленія русскаго языка и словесности Академій Наукъ". Спб. 1911—1914 г.) у які ўвайшлі і тэмы казак беларускіх. 3. Матар'ялы кнігі, як адзначана на тытульным аркушы, адносяцца да Слуцкага павету—зьбіральнік не дае падрахаваньня, што зроблена папярэднімі этнографамі ў галіне зьбіраньня і вывучэньня казак Слуцкага павету.

І нарэшце, Сержпутоўскі зусім ня вывучыў баечніка; аб адным з іх Сержпутоўскі піша: „за сваё доўгае жыцьцё ён шмат навалачыўся па сьвеце і трохі паслужыў (па дварох). Мабыць затым і яго гаворка трохі была якаясь інакшая, а ня гэткая, як у чудзінцаў" (стар. III). Ужо гэтая выпіска паказвае на патрэбнасьці вывучэньня тых умоў, уплываў і месц, у якіх знаходзіўся баечнік,

каб выясьніць мову, зьмест і паходжаньне матар'ялу, які ад яго запісан,—замест чаго знаходзім у кнізе павярхоўную, няглыбокую характарыстыку баечніка.

У канцы трэба адзначыць, што цікавы матар'ял, які сабраў А. Сержпутоўскі, носіць дылетанцкі характар, дзякуючы адсутнасьці навуковага мэтоду ў яго апрацоўцы.

**Ал. Шлюбскі.**

# Папраўка.

Проф. С. П. Мельнікаў прасіў паведаміць, што ў яго артыкуле „Фэнолёгічныя нагляданьні над дрэўнай расьліннасьцю" („Наш Край" № 3 (18), сакавік, 1927 г.) *„дуб лядны"* (Quercus pedunculata Ehrh. var. praecox Czern) трэба чытаць *„дуб летні"* і *„дуб звычайны"* (Quercus pedunculata Ehrh. var. tardiflora Czern) трэба чытаць *„дуб зімовы"*.

Рэдакцыя „Н. Кр." пры перакладзе артыкулу проф. С. П. Мельніка на беларускую мову карысталася „Беларускай Навуковай Тэрмінолёгія" (Ботаніка). Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск, 1924.

**Рэдакцыя „Н. Кр.".**

Архангельскае Таварыства Краязнаўства ідучы насустрэчу шырокай зацікаўленасьці да старой і новай літаратуры па Паўночным краі Эўропейскай часьці СССР, зьбірае гэткую літаратуру і выданьні таксама сборных антыкварных яе каталёгаў. Асобы і ўстановы, якія цікавяцца гэтым, могуць атрымаць такія каталёгі дарэмна. Трэба зьвяртацца ў *„Общество Краеведения, Архангельск, Почтовый ящик № 4"*.

Абазначаную ў каталёгах літаратуру Таварыства высылае ці накладной платай, ці ў абмен на розныя іншыя навуковыя выданьні.

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.
Рэдактар—З. Бядуля.

# ЗЬМЕСТ.

Стар.

Цана 50 кап.